Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№46 (4641) 18 лістапада 2011 г.

## У нумары:



# Бяда Зарэцкага

Наталля ПАХОМЧЫК

**Творчасць Міхася Зарэцкага за сваю гісторыю перажыла ацэнку надзвычай шырокай амплітуды: наколькі негатыўна ставіліся да твораў пісьменніка ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў, настолькі імя яго (найчасцей у газетных артыкулах з нагоды юбілеяў, гадавін) апявалася, узносілася высока ў 70 — 80-я гады.**



Параўнанне адных толькі артыкульных загалоўкаў мяжы 20—30-х і 70-х гадоў гаворыць само за сябе: “Вораг у доме”, “Няўдалы пачын”, “Супраць буржуазнай рэакцыі ў мастацкай літаратуры”, “Нацыянал-дэмакратызм — атрад контррэвалюцыі” — з аднаго часавага абсягу і “Выдатны пісьменнік, выдатны чалавек”, “Талент шчодры, непаўторны”, “Пафас праўды”, “Мастак непаўторнага часу” — з другога.

Кантрасты ў асвятленні творчай асобы Зарэцкага, безумоўна, аднымі загалоўкамі не вычэрпваюцца. Можна нават узносячы імя, узносіць яго па-свойму. Мне, да слова, ніколі не забудуцца два артыкулы пра Зарэцкага з “Віцебскага рабочага”: розныя аўтары, часавы прамежак паміж публікацыямі — роўна 10 гадоў, але тэксты, мякка кажучы, падобныя. Найбольш у гэтых артыкулах уражвае не ўласна супадзенне тэкстаў, а менавіта іх арыгінальныя месцы — “швы”, якія лучылі цалкам “здзёртыя” кавалкі тэксту.

У першым артыкуле — “Талент, народжаны рэвалюцыяй” (1981) — акцэнты ў дачыненні да вартасцей твораў Зарэцкага расстаўленыя такім чынам, што атрымліваецца: “лепшыя творы” пісьменніка “не страцілі свайго значэння і сёння, бо авеяны подыхам рэвалюцыі, асветлены сонцам нашай светлай савецкай явы”; а ў другім, “На пераломе” (1991), вартасці твора сёння найбольш заўважныя “дзякуючы атмасферы галоснасці і ўсталяванаму прынцыпу дэмакратызму”.

Кажучы словамі Зарэцкага, “мне стала сумна-сумна”… Так можна, займеўшы нарэшце магчымасць пра Зарэцкага гаварыць, не сказаць урэшце пра яго нічога або сказаць настолькі “па-сучаснаму”, што ўсё новае, калі прыгледзецца, — гэта толькі прыкрытае пахапкам старое. І соль у тым, што гэта ўсё — пра пісьменніка, які сваім жыццёвым і творчым прыкладам меў мужнасць даказаць: не скакаць (=не пісаць) пад чужую дудку не толькі можна — гэта норма.

Тут добрым словам варта згадаць кнігу Міхася Мушынскага “Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага” (2005) — грунтоўную працу, напісаную, як зазначае аўтар, “з вялікай душэўнай узрушанасцю і неадольнай прагай маральнага ачышчэння”. У першым выданні кніга, дарэчы, мела яшчэ і назву “Нескароны талент…” (1991), якая, на жаль, пры перавыданні знікла, і цяпер сваёй назвай праца нібы прэтэндуе на статус “апошняй інстанцыі”. Але пра Зарэцкага, спадзяёмся, яшчэ будзе што “праўдзівага” сказаць. Бо яго постаць валодае дзіўным магнезам — даследчыкі ад навукі, рупліўцы на ніве крытыкі, “адпаведныя органы” і проста чытачы вымушаныя прызнаць: да канца Зарэцкага “раскалоць” і раскласці па палічках так і не ўдаецца. Ёсць штосьці ў ім гэткае, няўлоўнае… Прыгледзімся.

На ранніх фотаздымках Касянкоў заўжды вылучаецца: калі на вас углядаецца (звычайна не з першага рада) прыгожы камісар у гімнасцёрцы, у шапцы з чырвонай зоркай (а ўсе побач — у цывільным), то гэта ён і ёсць. Крыху “ажывім” партрэт.

“…Падкрэслена элегантны, акуратны, пачынаючы ад абмотак і канчаючы тугім рамянём і яркімі нашыўкамі на пятліцах гімнасцёркі, — быў парадны, як адшліфаваны. Але дзівіў ён тым, што менш за ўсё быў падобны да ваеннага. Аблічча, жэсты, манера гаварыць, стаяць, усміхацца неяк вельмі ж па-цывільнаму не маглі стасавацца да формы, пярэчылі ёй. Толькі канчалася пасяджэнне, каля яго збіралася асабліва цесная група людзей. Тонкі, высокі, стройны, ён быў абавязкова відзён, але не ростам, а іменна вось гэтай сваёй асаблівай манерай трымацца… Стрыманасць і непасрэднасць як бы вечна ваюющь у ім… Гэта быў Міхась Зарэцкі. Ужо тады, з першых апавяданняў, ішла за ім слава рамантыка. Гэтая рамантыка акружала і яго біяграфію, як жа: гадаванец духоўнай семінарыі — і чырвонаармеец, сын дзяка — і камуніст, спявак тонкіх пакут кахання, душэўнага разладу — і камісар. Не дзіва, што я, правінцыяльны хлапчук, глядзеў на яго як зачараваны”, — прызнаецца Ян Скрыган. Скрыгану трэба падзякаваць асобна: яго ўспаміны (“Некалькі хвілін з чужога жыцця” і інш.) — надзвычай каштоўны матэрыял, дзякуючы якому мы можам не толькі “ўбачыць” Зарэцкага, але і “паслухаць” яго:

“Мяне многа крытыкавалі, і часта гэта было правільна, нічога не скажаш. **Мая бяда** ў тым, што я паказваю інтэлігентаў, якім прыйшлося самім разбірацца ў рэвалюцыі і або ад яе гінуць, або прыйсці да прызнання яе. Гэта давалася нялёгка, адсюль і трагізм і надломы душы. Але ж я мастак і не маю права выбіраць, што выгадна ці нявыгадна, не ўважаючы на гістарычную праўду”.

На гэтую прынцыповасць надзвычай аператыўна зрэагавалі “злачынцы са сталінска-яжоўскага рэпрэсіўнага апарата” — надзвычай тонкія насамрэч літаратуразнаўцы. Яны дастаткова глыбока прачыталі Зарэцкага, каб зразумець: не, гэты не толькі не зламаецца, але яшчэ і ў пераможцах выйдзе. А ўсё з-за ўпартасці, з-за прынцыповасці, якая нават пасля разгромных акцый у друку дазваляла не збіцца з тропу. І што атрымліваецца? Вось толькі надаўна Зарэцкі, працуючы царкоўным вартаўнікам, пры святле лампадкі чытае ўсялякія кнігі, “абязбожваецца” і даходзіць да поўнага “чырвонага” нявер'я ў адносінах да рэлігіі, а ўжо глядзі — сам неўзабаве трапляе ў спісы забароненых для “чырвонай” літаратуры пісьменнікаў. Як жа так?

Першыя крокі Зарэцкага ў літаратуры нібы нічога “крамольнага” не абяцалі: “пісьменнік рана набывае папулярнасць, асабліва сярод моладзі”, сваімі апавяданнямі, па тэматыцы і асвятленні праблем нібыта цалкам адпаведнымі “духу часу”, яго стыль у друку крытыкуе ажно сам Гарэцкі: крытыкуе за “абрыўкі сказаў”, “розныя навуцамінкі” і “танныя слоўныя фокусы, кшталтам таго, што «кветка пажоўклая», а не “пажоўклая кветка»”, і далей крытык рэзюмуе: “бліпшчыць, ды не золата”. Але паспяшаўся Гарэцкі. Сёння “У Саўках”, “Адна партыя ў шашкі”, “Ракавыя жаронцы”, шматлікія іншыя апавяданні, аповесць “Голы звер”, раманы “Сцежкі-дарожкі”, “Вязьмо”, нарысы “Падарожжа на новую зямлю”, “Лісты ад знаёмага”, “Вясна 1930 года” і іншыя творы бліпшчаць, ды яшчэ як. Напісаныя ўсяго за 14 год, яны сталіся сапраўдным золатам, і бляск асабліва яскравы, калі чытаць іх, скіроўваючы свой позірк ажно да падтэкставых глыбінь.

## Пункцірам

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку РСФСР Тацццяну Конюхаву з юбілеем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі артыстку ведаюць і цэняць як адну з самых яркіх зорак экрана і цудоўнага чалавека, чыё мастацтва збліжае людзей і абуджае ў іх душах прыгожыя, светлыя пачуцці.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Віктара Сухарукава з 60-гадовым юбілеем. "Няхай ваша мастацтва і ў далейшым прыносіць радасць, садзейнічае развіццю культурнага супрацоўніцтва нашых брацкіх краін", — гаворыцца ў віншаванні.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным і блізкім народнага артыста Расіі Льва Барысава і народнага артыста Расіі, кампазітара Георгія Маўсесяна ў сувязі з іх канчынай.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" супрацоўнікаў Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта: дэкана факультэта павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Ганну Басаву і дацэнта кафедры тэорыі і метадалогіі журналістыкі Дзмітрыя Драздова.

Міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі наведаў з рабочым візітам Гомельскую вобласць, дзе правёў сустрэчу з супрацоўнікамі прадпрыемстваў "Гомельабласьсаюздрук" і "Гомельаблкніга". На сустрэчы было падкрэслена, што гэтыя структуры — надзвычай важнае звяно ў сістэме духоўнага выхавання і ідэалагічнай работы з насельніцтвам. Міністр падзяліўся сваімі думкамі наконт мэтазгоднасці стварэння замест дробных паліграфічных прадпрыемстваў, якім складана ўтрымацца на плаву, буйных. А ў сістэме СМІ — медыяхолдынгаў. У рамках візіту адбылася таксама сустрэча міністра з калектывам абласной газеты "Гомельская праўда".

ЮНЕСКА ўключыла ў каляндар міжнародных памятных дат на 2012 год 1150-годдзе Полацка. У сувязі з гэтым горад атрымае магчымасць правесці ў свой гонар выстаўку ў штабкватэры гэтай міжнароднай арганізацыі ў Парыжы. Таксама пры ўдзеле ЮНЕСКА ў Полацку пройдзе міжнародная канферэнцыя, прымеркаваная да знамянальнай падзеі.

Нясвіжу афіцыйна нададзены статус "Культурная сталіца 2012 года". На працягу года яго наведаюць прафесійныя музычныя і танцавальныя калектывы. Асноўнай мэтай акцыі з'яўляецца стымуляванне горада да стварэння максімальна развітай культурнай і турыстычнай інфраструктуры.

Па запрашэнні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта Беларусь наведалі манахі са Святой Гары Афон на чале з ігуменам Яфрэмам. Яны сустрэліся з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, а таксама здзейснілі вандроўку па святых мясцінах Беларусі.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Новае аб'яднанне — прафесійнае

**Пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі створана прафсаюзная арганізацыя. У яе ўвайшлі штатныя супрацоўнікі цэнтральнага апарату СПБ і сталічнага аддзялення, а таксама пісьменнікі-пенсіянеры. Мы звярнуліся да літаратуразнаўцы і крытыка Ніны Каленчыкавай-Русаковіч, якая была абрана старшынёй прафкамітэта, з просьбай расказаць пра асаблівасці новай прафсаюзнай "пярвічкі".**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**— Ніна Васільеўна, ці будзе чымсьці адрозніваццa дзейнасць пісьменніцкай прафсаюзнай арганізацыі ад дзейнасці звычайных прафсаюзаў?**

— Прафсаюзныя арганізацыі на прадпрыемствах і ва ўстановах шмат займаюцца пытаннямі правоў супрацоўнікаў і абараняюць іх ад нядобрасумленнасці наймальніка. Перад намі, і гэта цалкам зразумела, такія задачы не стаяць. Мы разлічваем, што з цягам часу зможам дапамагаць членам нашага прафсаюза ў вырашэнні некаторых сацыяльных праблем. У прыватнасці, мы спадзяёмся атрымліваць пуцёўкі ў санаторыі з 15-працэнтнай скідкай. Старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева, якая прысутнічала на ўстаноўчым сходзе, адзначыла, што гэта цалкам магчыма. Калі ўлічыць, што сярод нашых людзей большасць — пенсіянеры, то гэта будзе для іх актуальным. А яшчэ мы будзем арганізоўваць культурна-масавую работу сярод членаў прафарганізацыі. Думаем ладзіць час ад часу пасяджэнні для членаў нашага прафсаюза. Але не звычайныя, а творчыя. Бліжэйшае плануем на 21 снежня, напярэдадні навагодніх свят. Паслухаем нашых цудоўных паэтаў, а заадно і пазнаёмімся бліжэй.

**— Ці не цяжка будзе пенсіянерам, узровень матэрыяльнай забяспечанасці якіх часцяком не надта высокі, плаціць рэгулярныя прафсаюзныя ўзносы?**

— Мы прынялі рашэнне, і яно запісана ва ўстаноўчыя дакументы, што для нашых членаў прафсаюза памер узносаў будзе складаць адзін працэнт ад даходаў. Тыя ж, хто не працуе, будуць даваць хто колькі зможа.

**— Членам прафсаюза можа стаць пісьменнік, які не з'яўляецца пенсіянерам, але нідзе не працуе?**

— Так, калі гэта член Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі і ён не ўваходзіць у нейкую іншую прафсаюзную арганізацыю. Дарэчы, у нашу прафсаюзную арганізацыю пісьменнік можа перайсці з любой іншай. Гэта — яго права. Між іншым, акрамя пэўных сацыяльных і камунікатыўных момантаў членства ў прафсаюзе дае пісьменнікам яшчэ адну перавагу. Іх лепшыя творы, як творы людзей, якія з'яўляюцца членамі прафсаюза, атрымаюць права быць вылучанымі на вельмі прэстыжную Прэмію Федэрацыі прафсаюзаў у галіне літаратуры, а таксама прэмію Беларускага прафсаюза работнікаў культуры.

## Конкурсы

# Вялікім песнярам прысвячаецца

Міхась ПАЗНЯКОЎ

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі абвяшчае літаратурны конкурс сярод юных аўтараў на лепшы мастацкі твор. Конкурс прысвечаны юбілеям класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

Да ўдзелу ў конкурсе на лепшы мастацкі твор у намінацыях "проза", "паэзія", "публіцыстыка", "літаратурная крытыка" запрашаюцца юныя празаікі, паэты і літаратурныя крытыкі Мінска ва ўзросце ад 14 да 25 гадоў. Творчыя работы канкурсантаў павінны быць на беларускай мове. Выбар жанраў — самы шырокі: апавяданне, аповесць, эсэ, абразкі, верш, паэма, нарыс, літаратурна-крытычны артыкул. Па тэматычнай скіраванасці юныя творцы таксама не будуць абмежаваныя. Малада літаратурныя крытыкі мусяць разглядаць творчасць сучасных беларускіх пісьменнікаў ці класікаў.

Галоўнае патрабаванне да твораў — яны павінны быць самастойнымі, арыгінальнымі, мастацкімі. Да разгляду прымаюцца работы, набраныя на камп'ютары. Творы можна дасылаць у Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі (*220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакоі 308, 309*) да 30 верасня 2012 года.

Па выніках конкурсу плануецца падрыхтаваць і выдаць літаратурны альманах. Найбольш таленавітыя аўтары атрымаюць магчымасць надрукаваць свае творы асобнай кніжкай у серыі "Мінскія маладыя галасы". Падвядзенне вынікаў адбудзецца ў лістападзе 2012 года. Лаўрэаты і пераможцы конкурсу атрымаюць дыпломы Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і падарункі.

## Круглы стол

# Створым сваё?

**Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр абвяшчае конкурс на стварэнне музычных спектакляў і запрашае да ўдзелу кампазітараў і літаратараў Рэспублікі Беларусь.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Палемічная размова за "круглым сталом" адбылася днямі ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Удзельнічалі ў ёй літаратары і кампазітары, студэнты творчых ВНУ і прадстаўнікі СМІ, рэжысёры, музыканты. Абмяркоўвалі ідэю і перспектывы конкурсу, ініцыятарам якога выступіў калектыў гэтага шаноўнага тэатра, заклапочанага пошукамі матэрыялу для стварэння арыгінальных беларускіх пастановак, цікавых аўтараў, здатных рэалізаваць свой талент у працы над беларускай музычнай камедыяй (альбо аперэтай, альбо камічнай операй), над беларускім мюзіклам.

Дастаткова глянуць на афішу, каб пераканацца: абвяшчэнне такога конкурсу выклікана сур'ёзнай рэпертуарнай праблемай. Нагадаю, што колькі гадоў таму на старонках "ЛіМа" неаднойчы гаварылася пра няўвагу, абыякавасць былога кіраўніцтва БДАМТ да беларускай культуры, творчасці айчынных кампазітараў, да прапаноў наладзіць супрацоўніцтва з нацыянальнымі аўтарамі. Новае кіраўніцтва тэатра парадавала ўсіх зацікаўленых у развіцці нашага мастацтва шматвектарнасцю творчай дзейнасці, глыбінёй задум, падтрымкай лепшых традыцый, адкрытасцю да эксперыментальных праектаў, імкненнем да стварэння новых творчых сувязей. Абвешчаны конкурс — у рэчышчы самых важных, надзённых ініцыятыў.

На пачатку сустрэчы за "круглым сталом" кіраўнік літаратурна-драматургічнай часткі БДАМТ Вольга Нікалаеўская азнаёміла прысутных з умовамі конкурсу, заяўкі на ўдзел у якім будуць прымацца да 1 снежня 2012 года. Працягваючы размову, мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч зазначыў: "Мы чакаем творы беларускіх аўтараў пастаянна. Не сакрэт, мы знаходзімся ў складаным фінансавым становішчы, але ў тэатра ёсць партнёры, гатовыя падтрымаць — каб на нашай сцэне з'явіліся цікавыя спектаклі. У нашым рэпертуары ёсць два творы беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча: балет "Мефіста" і мюзікл "Шклянка вады". Але на беларускай мове, да сораму нашага, нічога няма. Кіраўніцтва тэатра паабяцала, праз прэсу, гэты прагал ліквідаваць. І калі ў выніку конкурсу з'явіцца некалькі годных твораў (музычная камедыя, камічная опера, аперэта, мюзікл), якія не страцяць сваю актуальнасць праз год ці тры, яны ўсе будуць пастаўлены: па спектаклі ў кожным чарговым сезоне. У працэсе працы над увасабленнем задумы тэатр (прынамсі, рэжысёры, дырыжоры) будзе аказваць прафесійную дапамогу творцам "на грамадскіх асновах". У гэты конкурс не ўключана намінацыя "Спектакль для дзяцей", але калі будзе прапанаваны такі твор на беларускую тэму, мы падтрымаем, бо хацелася б, каб з'явіўся і свой, беларускі дзіцячы музычны спектакль".

Дыскусія працягвалася дзве гадзіны. Гаварылі пра адсутнасць у Беларусі "цэху" лібрэтыстаў і праблему навядзення стасункаў дый паразумення ў супольнай працы між літаратарамі ды кампазітарамі, пра боязь патэнцыяльных канкурсантаў "напісаць у стол" і адсутнасць фінансавых гарантый для тых, хто ахвяруе год свайго жыцця на стварэнне праекта з туманнымі перспектывамі, пра неабходнасць захавання ананімнасці ў падачы заявак... Справаздача з "круглага стала" будзе надрукавана ў "ЛіМе".

## Сустрэчы

# З добрым словам да землякоў

Алена ЯКАВЕНКА

**Сустрэчу з пісьменнікамі Паўлам Саковічам, Галінай Трафімавай і Сяргеем Трафімавым, ураджэнцамі г. Орша, арганізавалі работнікі Дубровенскай ЦРБ.**

Павел Саковіч — лаўрэат Усесаюзнага літаратурнага конкурсу, літаратурных прэмій імя К. Крапівы і В. Віткі. Узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры "За ўклад у развіццё культуры Беларусі". Аўтар 10 кніг прозы, паэзіі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей, суаўтар шматлікіх зборнікаў і анталогій. Цяпер працуе ў рэдакцыі альманаха сатыры і гумару "Вожык".

Пісьменнікі Галіна і Сяргей Трафімавы — лаўрэаты Міжнародных прэмій, аўтары праграм і вучэбных дапаможнікаў па курсе "Здаровы лад жыцця". На іх творчым рахунку — больш як 100 выданняў. Гэта — падручнікі, хрэстаматыі, рабочыя сшыткі, метадычныя распрацоўкі і інш.

Удзельнікамі сустрэчы сталі навучэнцы 4 — 6 класаў мясцовых школ. Павел Саковіч расказаў пра свой творчы і жыццёвы шлях, прачытаў гумарыстычныя вершы. Вельмі спадабаліся прысутным загадкі пісьменніка. Напрыканцы свайго выступлення П. Саковіч паведаміў, што разам з бібліятэкай альманах "Вожык" мае намер правесці конкурс-віктарыну, прысвечаную 70-годдзю выдання, вынікі якога будуць падведзены ў І квартале 2012 года.

Выступленне Галіны і Сяргея Трафімавых праходзіла ў забаўляльна-гульнявой форме. Дзеці акунуліся ў мора пазнавальнай інфармацыі, якая аказалася цікавай як для іх, так і для дарослых. Пісьменнікі прэзентавалі свае кнігі з серыі "Расказы Дзеда Прыродазнаўцы". Герой гэтых кніг, дзед Прыродазнаўца, запрашае юных чытачоў у падарожжа да таямніц прыроды, прапануе розныя займальныя заданні, захапляльныя гульні.

Пасля развітальных апладысментаў найбольш актыўная частка прысутных не спяшалася разыходзіцца, абступіўшы гасцей. Жадаючыя атрымалі кнігі з аўтографамі пісьменнікаў. Прыемна, што і фонды цэнтральнай раённай і дзіцячай бібліятэк папоўніліся кнігамі, падоранымі гасцямі.

Літабсягі

# З Гродна — у Оршу



**У культурным жыцці Оршы адбылася значная падзея: Гродзенскі музей Максіма Багдановіча і Аршанскі музей Уладзіміра Караткевіча распачалі першы этап сумеснага творчага праекта "Вянок паэтычнага сугучча".**
**З гэтай нагоды адбылася прэзентацыя выстаўкі з фондаў Гродзенскага музея М. Багдановіча "Мая душа, як дзікі ястраб, што рвецца ў неба на прастор!" Адметна, што прэзентацыя адбылася напярэдадні 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча.**

**Галіна ЮРКЕВІЧ, загадчык Аршанскага музея У. Караткевіча**

Гэту сустрэчу аршанцы, прыхільнікі творчасці Максіма Багдановіча і Уладзіміра Караткевіча, чакалі даўно. На прэзентацыю завітала шмат людзей: музейныя работнікі горада, навучэнцы педагагічнага каледжа, беларусазнаўцы, вучні школ, аршанскія пісьменнікі. З прывітальным словам да прысутных звярнуўся дырэктар Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны Уладзімір Кузубаў, які падкрэсліў, што менавіта М. Багдановіч і У. Караткевіч сваёй творчасцю стваралі ўзор служэння Радзіме, свайму народу, фарміравалі самасвядомасць беларусаў. Дзякуючы ім Беларусь ведаюць у свеце.

Старшы навуковы супрацоўнік Аршанскага музея У. Караткевіча Вольга Пашковіч распавяла пра ўплыў М. Багдановіча на творчасць У. Караткевіча, узгадала вершы, эсэ, прысвечаныя пісьменніку.

На прэзентацыю выстаўкі прыехала дырэктар Гродзенскага музея М. Багдановіча Святлана Рапецкая, якая з першых хвілін зачаравала аршанцаў. Толькі прафесіянал, апантаны чалавек мог зладзіць такую шыкоўную экскурсію па выстаўцы. Яна распавяла шмат цікавага, невядомага раней для аршанцаў. Прывезла ў падарунак кнігі, відэафільмы. Пазнаёміла аршанцаў з гісторыяй стварэння Гродзенскага музея М. Багдановіча, узгадала пра яго былога дырэктара Дануту Бічэль, якая шмат зрабіла для ўстановы.

У наступным годзе навуковыя супрацоўнікі Аршанскага музея У. Караткевіча плануюць працяг творчага праекта — у Гродзенскім музеі М. Багдановіча з фондавых збораў Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны будзе арганізавана выстаўка, прысвечаная У. Караткевічу.

***На здымку: падчас прэзентацыі праекта "Вянок паэтычнага сугучча".***

Артлінія

# Ажывае легенда...

**Летась на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ўпершыню былі паказаны аднаактовыя спектаклі "Шахеразада" і "Жарт-птушка" з вядомага праекта "Рускія сезоны XXI стагоддзя".**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**



Напярэдадні той падзеі Андрыс Ліепа, мастацкі кіраўнік праекта і кіраўнік дабрачыннага фонду, заснаванага яго знакамітым бацькам Марысам Ліепам, ініцыятарам рэканструкцыі легендарных "Рускіх сезонаў" Сяргея Дзягілева, заўважыў: "Калі наш першы візіт у Мінск пройдзе паспяхова, супрацоўніцтва паміж фондам Марыса Ліепы і тэатрам оперы і балета Беларусі працягнецца". Тады ж кіраўнікі тэатра і праўлення фонду падпісалі г. зв. пратакол пра намеры.

Як далей развіваліся падзеі і што сталася з намерамі, аматары мастацтва адчулі на сабе: аншлагавы балетны вечар мінулай восенню; праз год — новы візіт расійскіх артыстаў і зноў ажыятаж вакол паказу іх пастановак "Тамар" ды "Балеро" плюс эксклюзіўны сольны нумар народнага артыста Расіі Фаруха Рузіматава "Прысвячэнне Дзягілеву"... Але вынікам нядаўняга прыезду Андрыса Ліепы і яго творчай каманды сталіся не толькі ўражанні ад новага відовішча. Вобразы "Рускіх сезонаў XXI стагоддзя" атрымалі прапіску ў рэпертуары НАВТ оперы і балета Беларусі: тут адбылася прэм'ера ўзноўленых пастановак "Шахеразада" на музыку М. Рымскага-Корсакава і "Тамар" на музыку М. Балакірава.

Удзельнікі ўнікальнага супольнага праекта, сустрэўшыся з журналістамі, распавялі пра асаблівасці рэканструкцыі гістарычных балетаў, падзяліліся ўражаннямі ад супрацоўніцтва. Андрыс Ліепа падкрэсліў, што харэаграфію М. Фокіна ў "Шахеразадзе" ўдалося аднавіць і захаваць практычна ў першапачатковым выглядзе (дзякуючы кіна- і фотадакументам, кампетэнтным апісанням, жывым сведкам ранейшых пастановак), а "танцавальны расповед" пра іншую ўсходнюю прыгажуню быў страчаны, таму сённяшняя "Тамар" — чарговы "рымэйк", версія літоўскага балетмайстра-пастаноўшчыка Юрыюса Смарыгінаса. Да "Рускіх сезонаў..." сталі спрычыніліся расійскія мастакі Ганна ды Анатоль Нежныя, якія пераствараюць даўнія сцэнічныя касцюмы і дэкарацыі, вывучаючы захаваныя эскізы, малюнкі, фота са спектакляў, музейныя артэфакты і дадаючы плён уласнай фантазіі паводле прынцыпу "мирискусников". Гэтым разам яны абапіраліся на звесткі пра афармленне балетаў, якое рабіў Лявон Бакст (дарэчы, ураджэнец Гродна).

Дзевяноста працэнтаў поспеху прэм'еры — майстэрства і творчы тонус артыстаў ды натхнёнае выкананне жывой сімфанічнай музыкі. Гэта ў нашым тэатры ёсць. Госці, не хаваючы здзіўлення, ухвалілі прафесіяналізм і працавітасць беларускай балетнай трупы, салістаў, якія вывучылі матэрыял за рэкордны тэрмін, высокі ўзровень аркестра пад кіраўніцтвам маэстра Віктара Пласкіны, майстэрства беларускіх дэкаратараў, якія арганічна і ярка ўвасобілі ідэю сцэнографаў. Супрацоўніцтва працягнецца.

***На здымку: народны артыст Расіі Андрыс Ліепа.***

Повязі

# Аб'ядноўвацца дзеля высокай мэты

**Міжнародная канферэнцыя "Праваслаўна-каталіцкі дыялог: хрысціянскія этычныя каштоўнасці як унёсак у сацыяльнае жыццё Еўропы" праходзіла ў Мінску тры дні.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота БелТА**

На форум з'ехаліся ўплывовыя дзеячы каталіцкай і праваслаўнай цэркваў з Расіі, Германіі, Польшчы, Італіі, Францыі, у тым ліку старшыня Папскага савета па садзейнічанні хрысціянскаму адзінству кардынал Курт Кох, які наведаў Беларусь упершыню.

"Сумесных міжканфесійных праектаў у Беларусі будзе ўсё больш, гэта патрабаванне жыцця", — заявіў журналістам на адкрыцці канферэнцыі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч, патлумачыўшы, між іншым, чаму наша краіна больш за іншыя прыдатная для правядзення такіх дыялогаў. Беларуская талерантнасць — аснова таго, што мы спакойна можам арганізоўваць не толькі міжканфесійныя хрысціянскія, але і хрысціянска-ісламскія, хрысціянска-іудзейскія форумы. Ёсць агульначалавечыя каштоўнасці, якія трэба абараняць незалежна ад рэлігійных поглядаў.

Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка пацвердзіў: захаванне міжнацыянальнага і міжканфесійнага міру — прыярытэт палітыкі Беларусі. І, між іншым, ініцыятывы ў гэтай сферы зыходзяць якраз ад найбольш аўтарытэтных у нашай краіне канфесій — праваслаўнай і каталіцкай. Менавіта яны садзейнічаюць умацаванню ідэй верацярпімасці, дапамагаюць знайсці паразуменне ў вырашэнні такіх праблем, як алкагалізм, нарказалежнасць, злачыннасць, распад інстытута сям'і.



Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі выказаў думку, што для каталікоў і праваслаўных ёсць пэўныя перспектывы ўзаемадзеяння ў міжнародных арганізацыях, такіх, як ААН і АБСЕ. Ён падкрэсліў, што дыялог каталіцкай і праваслаўнай цэркваў — сфера праяўлення царкоўнай тактоўнасці, і выказаў спадзяванні, што ў працэсе такога дыялогу будзе больш аб'яднальных, чым раз'яднальных фактараў.

Апостальскі нунцый архіепіскап Клаўдзіа Гуджэроцці звязаў надыход эканамічнага крызісу ў Еўропе з "этычнай катастрофай" еўрапейцаў і заклікаў католікаў і праваслаўных імкнуцца да хрысціянскай святасці.

Святары і палітыкі, выступаючы на форуме, унеслі шэраг канструктыўных прапаноў па супрацоўніцтве ў розных сферах жыцця сучаснага грамадства. Нас больш звязвае, чым раз'ядноўвае, — гэтая думка гучала ў кожнай прамове.

***На здымку: Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі і Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч падчас канферэнцыі.***

З-пад пяра

На радзіме Анатоля Астрэйкі, у вёсцы Пясочнае на Капыльшчыне, адзначылі 100-годдзе з дня нараджэння пісьменніка. Актыўны ўдзел у арганізацыі свята ўзялі Капыльскі райвыканкам, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Саюз пісьменнікаў Беларусі. На свяце выступілі крытык і празаік Алесь Марціновіч, вучоны сакратар музея гісторыі беларускай літаратуры Ірына Шматкова. Пісьменніца, галоўны рэдактар альманаха "Вожык" Юлія Зарэцкая ўзгадала той час, калі Анатоль Астрэйка працаваў адказным сакратаром газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну!", а пазней — часопіса "Вожык". Гучалі таксама ўспаміны сваякоў і родных паэта, яго вершы і песні.

**Юлія АНДРЭЕВА**

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прадстаўляе дабрачынны праект "Хай дзяцінства будзе шчаслівым!" Праект распачаўся адкрыццём выстаўкі тэкстыльных работ Алены Мацяш "Домік з абрэзкаў". Экспазіцыя прапануе інтэр'ер для дома, дзіцячага пакоя, утульнай гасцінай: напрыклад, 3D-дыван ці пано-гадзіннік. Праект уключае ў сябе правядзенне майстар-класаў, экскурсій, семінараў, канцэртаў, а вырučаныя ад продажу квіткоў грошы Міжнародны дабрачынны фонд дапамогі дзецям "Шанц" пералічыць цяжкахворым.

**Дар'я ШОЦІК**

У серыі "Бібліятэка Гомельскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі" выйшла новая кніга Міхася Слівы "Лік, які выратоўвае" (Мазыр, 2011 год). У ёй змешчаны літаратуразнаўчыя і краязнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі, нататкі. Асаблівая ўвага ўдзелена творчасці літаратараў Гомельшчыны. Большасць матэрыялаў, што ўвайшлі ў кнігу, былі апублікаваныя ў часопісе "Нёман", газетах "Літаратура і мастацтва", "Настаўніцкая газета" і інш. Выданне адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**Таццяна ЖЭЎНЕРАВА**

Прэзентацыя кнігі Міхася Башлакова "Віно адзінокіх", якая выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", адбылася ў бібліятэцы № 14 г. Мінска. Пра новую кнігу лірыкі шчыра і пранікнёна гаварылі загадчыца бібліятэкі Наталля Стрыгельская, рэдактар кнігі Мікола Мінзер, паэт Мікола Шабовіч. Міхась Башлакоў як заўсёды эмацыянальна, натхнёна і ўзнёсла не толькі чытаў свае вершы, але і адказваў на пытанні прысутных.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

З'яўленне зборніка духоўнай паэзіі і прозы "Дазволь прычасціцца…", у які ўвайшлі творы шаснаццаці берасцейцаў, членаў літаб'яднання "Выток", што гуртуецца пры спецыялізаванай бібліятэцы-філіяле № 12 Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна — прыхільнікі філасофскай мастацкай літаратуры чакалі з нецярпеннем. У выданні зборніка, укладальнікам якога стала паэтка Надзея Парчук, брала ўдзел Брэсцкая епархія Беларускай Праваслаўнай Царквы. Прэзентацыя кнігі прайшла ў актавай зале Брэсцкай абласной арганізацыі інвалідаў па зроку, членамі якой і з'яўляюцца ўсе аўтары.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# У пошуках героя

## Нататкі з пісьменніцкай вандроўкі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Група літаратараў, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, здзейсніла чатырохдзённую паездку па Мінскай і Магілёўскай абласцях, знаёмячыся з лепшымі прадпрыемствамі і гаспадаркамі гэтых рэгіёнаў. Паездка, падчас якой празаікі, паэты і драматургі пільна высочвалі герояў для будучых літаратурных твораў, стала магчымай дзякуючы ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.**



Фота Рагнеда Малахоўская

### Як нараджаюцца ідэі?

На сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі ў канцы кастрычніка кіраўнік дзяржавы заўважыў, што сёння чытач чакае маштабных літаратурных твораў, у цэнтры якіх паўстане герой-сучаснік. Але для таго, каб дакладна паказаць сучаснасць, упэўнены творцы, пісьменніку трэба шмат бачыць, пастаянна знаходзіцца ў віры падзей. Сёння па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын літаратары не ўяўляюць як след, што сапраўды адбываецца ў краіне. Асабліва гэта датычыць маладых пісьменнікаў, у якіх за плячыма няма жыццёвага вопыту.

І сапраўды, пра што можа напісаць нават вельмі таленавіты чалавек, калі ўся інфармацыя пра поспехі і дасягненні беларускага народа прыходзіць толькі з тэлеэкрана ці са старонак газеты? Пра каханне, пра хараство прыроды і любоў да знаёмага гарадскога пейзажу за вакном. Можна прыдумаць казку ў стылі фэнтэзі, каб перанесціся з рэальнасці, якой не ведаеш як след, у фантастычны свет несапраўднага гіпертрафіраванага гераізму і нематываванай агрэсіі. Але ўсё гэта — у той ці іншай ступені ўцёкі ад рэчаіснасці. Што ж наблізіць творцу да яе? Толькі актыўнае ўключэнне ў жыццё і сустрэчы з самымі рознымі людзьмі.

Выслухаўшы разважанні літаратараў, Прэзідэнт прапанаваў ім здзейсніць своеасаблівую вандроўку па Беларусі, каб пабачыць на ўласныя вочы краіну, якая адраджае самыя найлепшыя традыцыі. Краіну герояў працы і падзвіжнікаў духоўнасці. Пісьменнікам ідэя спадабалася.

### Ёсць такая ўстанова — кадэцкае вучылішча

Першым населеным пунктам, дзе спыніўся пісьменніцкі аўтобус, стаў горад Слуцк. У старажытным Слуцку, авеяным вайсковаю славаю князёў-ратаборцаў Сямёна і Анастасіі Алелькавічаў, знаходзіцца кадэцкае вучылішча — Мінскае абласное. Яно зусім нядаўна адчыніла дзверы для юнакоў і дзяўчат, якія звязваюць сваю будучыню са службай у арміі, міліцыі, атрадах Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Першы набор адбыўся ў 2010 годзе. Прадстаўляючы пісьменнікам навучальную ўстанову, дырэктар “кадэткі” Сяргей Мяцельскі, паведаміў, што сёння тут вучацца 204 выхаванцы, сярод якіх — 38 дзяўчат.

Госці заўважылі, што класы, памяшканні для заняткаў спортам, басейн, пакоі для адпачынку і спальныя пакоі — усё яшчэ захоўвае пах свежасці. І здзівіліся. Усё ж такі прайшло два гады напружанай вучобы. Але кадэты — народ асаблівы. У вучылішча не бяруць людзей недысцыплінаваных і нематываваных у сваіх учынках. Дарэчы, дысцыплінаванасці не бракавала б мець кожнаму з нас. Бо тое, што развальвае любую справу, прыводзіць грамадства ў стан разрухі, нараджае ўсялякія крызісы — ад палітычных і эканамічных да духоўных — якраз і ёсць недысцыплінаванасць.

Тым не менш задача настаўнікаў — выхаваць усебакова развітую творчую асобу. Таму тут заахвочваецца і развіваецца любы талент. Афіцэрская эліта ў Беларусі павінна мець уяўленне пра лепшыя творы сусветнага мастацтва, валодаць мовамі і нават умець танцаваць.

Бачыліся пісьменнікі і з самімі кадэтамі. Цікаўныя вочы, светлыя твары. Пакуль што ідэалізаванае бачанне таго, чым ім давядзецца займацца ў будучым. Але, можа, недавер і скептыцызм — уласцівасць тых, чыё разуменне пра тое, што правільна, а што няправільна, што ёсць дабро, а што — зло, размыты? Можа, і будзе наша будучыня ідэальнай, крышталёва сумленнай і яркай, калі мы ўсе станем верыць у справядлівасць, як вераць сёння гэтыя хлопчыкі і дзяўчаты?

— А ці ведаеце, трыццаць з нашых кадэтаў — дзеці-сіроты, — сказаў намеснік дырэктара вучылішча Анатоль Булгак. І, ужо адказваючы на маё пытанне, дадаў: — У іх ёсць перавага перад іншымі — залічваюцца без экзаменаў пры адпаведнай фізічнай падрыхтоўцы і паспяховым праходжанні псіхалагічнага адбору.

Выхаванцы дзіцячых дамоў, дзеці з самым складаным, часта пераламаным лёсам! Ім сёння ў Беларусі даецца цудоўная магчымасць пабудаваць свой лёс прыгожа, стабільна, моцна, узняцца на самую вышэйшую ступень грамадства, уліцца ў шэрагі эліты. Ці ёсць такое дзесьці за мяжой? Сумняваюся.

### У глыбіню, да самай «апраметнай»!

Пра прадпрыемства “Беларуськалій”, якое сёння дае самы адчувальны прыток валюты ў краіну, хто ж не чуў! Безумоўна, усіх пісьменнікаў натхніла тое, што ў плане сустрэч у Мінскай вобласці значылася наведванне славутага прадпрыемства. А калі ім паведамілі, што пры жаданні можна будзе і ў шахту спусціцца, дзве трэці групы адназначна вырашылі скарыстаць гэтую магчымасць.

Чацвёрты руднік, куды павезлі нашу частку групы, аказаўся самым аддаленым ад цэнтра горада. У каляровых спяцоўках і аранжавых шлемах мы выглядалі нязвыкла, але цалкам арганічна. І таму з задавальненнем здымалі адно аднаго фотаапаратамі. Але весялосць змянілася насцярожанасцю, а потым і занепакоенасцю, калі спачатку ліфт незвычайна доўга цягнуў нас пад зямлю (вушы стала закладваць ад змены ціску, галава налілася цяжарам), а пасля больш як пятнаццаць хвілін спецыяльная машынка-перавозчык па цёмных, прасечаных у глыбінных пластах, тунэлях везла нас да месца, дзе цяпер працуюць забойшчыкі. Пісьменнікам растлумачылі,



што спусціліся мы на 900 метраў пад зямлю, але гэты ўзровень для працы цалкам камфортны, бо шахцёры могуць стаяць тут у поўны рост. Гэтак не паўсюль. Іншы раз забойшчыкам даводзіцца працаваць напаўсагнутымі, а то і наогул стоячы на каленях.

Соль выглядала надта прыгожа — сцены тунэляў пераліваліся ласосева-бэжавым колерам. Кавалачкі пароды пад нагамі пры бляску шахцёрскіх лямпачак падаваліся каштоўнымі камянямі. Гасцям дазволілі ўзяць сабе па аднаму такому “самацвету” на ўспамін, растлумачыўшы, што бэжавыя пражылкі — гэта паваранная соль, а ласосевыя — соль калійная.

У той час як мы прыбылі на руднік, змена ўжо скончылася, шахцёраў у забоі было няшмат. Спачатку гэта выклікала засмучэнне. Але потым пісьменнікі зразумелі, што насамрэч ім пашанцавала. Каб народ у гэты час працаваў, то за грукатам і ляскам машын (адбойнымі малаткамі ў сучасных шахтах даўно ніхто не працуе, суперсучасная магутная тэхніка літаральна зразае соль са сцен “пячоры” пласт за пластом) мы нічога не пачулі б і, пэўна, задыхнуліся б ад салянога пылу, які густа засыпае шахцёраў. Нават калі работы скончаны, пыл гэты лунае ў паветры, раздражняючы горла і робячы салёнай сліну. А падчас працы ратуе толькі рэспіратар. Зрэшты, на адну хвілінку для цікаўных усё ж такі ўключылі “агрэгат”. Гэтага было дастаткова, каб кожны з нас зразумеў, што і восем мільёнаў рублёў — а менавіта такі сёння сярэдні аклад у шахцёра — недастатковая плата за іх цяжкую працу.

Між іншым, гарнякі любяць сваю шахту і сумуюць па ёй, выходзячы на заслужаны адпачынак. Сярод тых, каго сёння неадступна праследуюць у снах гэтыя таямніча-бліскучыя агні саляных “самацветаў”, — чатыры поўныя кавалеры знака “Шахцёрская слава”. Пяць поўных кавалераў — іх пераемнікі — яшчэ паспяхова працуюць на чацвёртым рудніку. У Салігорску ведаюць сваіх герояў, пазнаюць іх на вуліцах, вітаюць гэтак жа, як лётчыкаў-касманаўтаў ці папулярных артыстаў. А кнігі пра шахцёраў Салігорска, між іншым, усё яшчэ няма.

### З клопатам пра людзей

— Давайце я раскажу вам пра наш “Калгас «Радзіма»”, — старшыня гэтага СВК Аляксандр Лапацентаў — высокі, гучны мужчына. Відавочна — месца такому на полі, ці на пастцы, ці на шырокім мехдвары.

“Радзіма” ў Бялыніцкім раёне — славутая гаспадарка. Тут вырабляецца больш як 40 працэнтаў сельгаспрадукцыі раёна, дзейнічаюць 12 сучасных малочнатаварных і жывёлагадоўчых комплексаў і ферм, камбікормавы завод. Мясцовыя даяркі атрымліваюць 34 — 35 тон малака ў суткі. На мехдвары побач з айчыннай тэхнікай — тры бельгійскія “Ньюхоланды”.

— Добра, што набылі, — кажа старшыня. — Мы на іх 70 працэнтаў усяго ўраджаю сабралі.

Пытанне: чаму адным кіраўнікам удаецца “разгарнуцца” і атрымліваць высокія паказчыкі, а другім — аніяк? Зрэшты, Лапацентаў гатовы падзяліцца вопытам з кожным, каму гэта цікава. Ён пазбаўляецца ад гультаёў і заахвочвае добрасумленных працаўнікоў даплатамі, бясплатным жыллём. Дадатковыя выплаты прадугледжаны і ўдзельнікам культурна-масавых і спартыўных мерапрыемстваў, пенсіянерам, бацькам, у якіх дзеці вучацца ў школе на “выдатна” і “добра”, стыпендыі самім гэтым дзецям, надбаўка маладым спецыялістам, каб прыязджалі сюды, сяліліся і працавалі.

— Не кожнаму нават самаму сумленнаму пяцідзесяцігадоваму працаўніку новую тэхніку даверыш, — кажа старшыня. — Яна надта аснашчаная, ён будзе яе пабойвацца. На сучасную тэхніку пойдзе моладзь. Значыць, трэба, каб моладзь гэтая ў вёсцы заставалася.

І моладзь у гаспадарцы, сапраўды, не толькі “водзіцца”, але і заяўляе пра сябе яркімі перамогамі ў працоўных спаборніцтвах і ўзнагародамі на “Дажынках” розных узроўняў. Пра адпачынак сваіх работнікаў старшыня таксама думае — пабудаваў Дом культуры. Добрую справу зрабіў і збудаваўшы царкву ў гонар святых Пятра і Паўла, а настаяцель здзяйсняе цяпер малітвы перад пачаткам сяўбы і жніва, за што людзі яму асабліва ўдзячны.

### Роля асобы ў гісторыі

За час сваёй паездкі пісьменнікі паспелі заўважыць: аазісы зладжанай працы, стабільных даходаў, абароненага ад сацыяльных узрушэнняў быту ўзнікаюць у тых кутках краіны, дзе на дырэктарскую ці старшынскую пасаду трапляе неардынарная асоба. Перад сельгаскааператывам “Калгас «Радзіма»” дэлегацыя наведвала аграгарадок “Казловічы” на Случчыне, дзе мы захапляліся арганізацыяй работы сацыяльных аб'ектаў, і пасёлак Чысць, які выглядае як маленькі горад з самай сучаснай інфраструктурай і можа пахваліцца тым, што вось ужо колькі гадоў запар тут назіраецца станоўчая дэмаграфічная сітуацыя, і радзіму Прэзідэнта Беларусі аграгарадок “Александрыя”.

Пісьменнікі наведалі “Магілёўліфтмаш”, дзе былі ўражаны магутнасцю абсталявання, а на малочным прадпрыемстве “Бабушкина крынка” здзівіў неверагодны асартымент высакаякаснай прадукцыі.

Мы бачылі дзясяткі выдатных кіраўнікоў, якія, кожны на сваім узроўні, будзь гэта палац спорту, музей, школа, універсітэт, прадпрыемства ці то цэлы раён, узмацняюць нашу краіну, выхоўваюць яе будучыню, мацуючы эканоміку, клапоцячыся пра здароўе працаўнікоў і іх духоўную культуру. Адчулі, якая вялікая, сапраўды, у сучаснай гісторыі роля асобы. Але зразумелі і тое, што народныя масы таксама складаюцца з асоб, якія ў пэўнай сітуацыі могуць і павінны сябе праявіць, як гэта робяць шахцёры Салігорска, працаўнікі сельгаскааператыва “Калгас «Радзіма»”, майстры “Бабушкиной крынкі”, выкладчыкі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Можа, і нам, пісьменнікам, сёння самы час праявіць сябе — у новых творах. Не пра крымінальных алігархаў, не пра фэнтэзійных “звышчалавекаў” — такой літаратуры ўжо напісана шмат — а пра рэальных, жывых людзей, сумленных і працавітых, якія, па сутнасці, і ёсць сапраўдныя героі нашага часу.

***На здымках: галоўныя рэдактары літаратурных часопісаў “Полымя” і “Маладосць”, паэты Мікола Мятліцкі і Таццяна Сівец, падобныя на сапраўдных шахцёраў; школьнікі, члены клуба “Аўтомир” цэнтра аўтамабільнай культуры і тэхнічнай творчасці, атрымалі ад старшыні СПБ Мікалая Чаргінца ў падарунак кнігу з аўтографам.***

Кітай далёкі і блізкі

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

**Кітайцы ўспрымаюць мастацтва як неадʼемную частку жыцця. Нездарма графічнае пісьмо лічылася прадметам жывапісу і паэзіі, а каліграф, які пісаў іерогліфы, быў сярод самых паважаных людзей. Старажытны кітайскі жывапіс меў сваю асаблівую арыгінальную манеру, якая істотна адрознівалася ад заходняй.**



# Няма праўды без мастацтва

Галоўныя тэмы пейзажаў — звычайна горы і вада — гэта ўвасабленне мужчынскага пачатку Ян і жаночага Інь. Кветкі і птушкі — другі найбольш распаўсюджаны матыў кітайскага жывапісу. Кітайскім жывапісам, у адрозненне ад заходніх, якія абапіраліся на гульню святла і светлаценю, уласціва перш за ўсё выкарыстанне ліній. Так працавалі класікі Цы Байшы, Сюй Бэйхуна і іншыя.

У жывапісе не прымянялася ні лінейная перспектыва, ні светлаценевае мадэліраванне. Уражанне абʼёму перадавалася контурнымі лініямі і штрыхамі, а ілюзія прасторы — размяшчэннем прадметаў у розных планах, дзякуючы чаму разгортваўся панарамны пейзаж з далёкім гарызонтам, які нібы назіраўся з высокай гары.

Карціны ўяўляюць сабой трыадзінства жывапісу, каліграфіі і паэзіі.

Тое ж датычыць і іншых відаў мастацтва. Само існаванне адкрытай пастаяннай выставы паркавай скульптуры, дзе мясцовыя майстры поруч з калегамі з іншых краін стварылі ўнікальную галерэю, выкарыстоўваючы ўсе звышсучасныя прыёмы, яскрава пацвярджае гэта. Паўсюль паўстаюць бронзавыя, гіпсавыя, мармуровыя, металічныя коні і людзі, птушкі, рыбы і звяры. Трапляюцца як зусім сюррэалістычныя вывы, так і класіка. Асабіста мяне ўразіла скульптурная група коней, якія ў палёце быццам бы скачуць па парку, нагадаўшы мне славутае "Дзікае паляванне караля Стаха". Прыемна было ўсведамляць, што сярод аўтараў гэтых цудоўных работ ёсць і беларусы — Аляксандр Фінскі і Віктар Копач.

Дарэчы, у час майго наведвання Пекіна там працавала выстаўка работ Ван Гога, якая збірала вялікую колькасць гледачоў.

Сучасную літаратуру мой новы сябар Гаа Ман — вядомы перакладчык, мастак і паэт — ахарактарызаваў так:

— Ёсць, канечне, маладыя людзі, якія капіруюць Захад, але ў цэлым кітайская культура дастаткова самабытная, сыходзіць з кітайскіх традыцый. У нас ёсць свая фантастыка, прыгоды са старажытных часоў. Несумненна, папулярныя і Хэмінгуэй, і Фолкнер, але ўсё роўна мы не цураемся сваёй гістарычнай даўніны.

Адносіны да пісьменнікаў у грамадстве самыя добрыя. Нядаўна тут адкрыўся першы агромністы Дом паэта. Ды і Саюз пісьменнікаў атрымаў свой велізарны дом з гатэлямі, заламі. Цяпер ганарары выраслі, і пісьменнікі, якія актыўна працуюць, могуць жыць "на вольным хлебе". Устанаўліваюцца сувязі з пісьменнікамі розных краін.

— Мне здаецца, у кітайскай літаратуры назіраюцца вельмі цікавыя з'явы, — працягвае Гаа Ман. — Маладыя пісьменнікі прыходзяць з новай стылістыкай, новым падыходам да героя. Напрыклад, Фан Тыцай — вельмі тонкі стыліст, Ван Ман, Чан Цье — самыя таленавітыя з жанчын-пісьменніц. Шкада, што мы ў апошні час вельмі мала ведаем адно пра аднаго, мала перакладаў... Патрэбны больш цесныя кантакты.

Гэты легендарны чалавек сустракаў мяне з роднымі ў сваёй кватэры, а вячэралі ў рэстаране. Падавалі там пекінскую качку, і Гаа Ман вучыў мяне карыстацца сталовымі палачкамі.

На развітанне Гаа Ман падараваў свае кнігі з кранальнымі надпісамі на беларускай мове. А праз пару дзён кур'ер прынёс нам ад Гаа Мана падарунак — накід майго партрэта алоўкам і верш, прысвечаны мне.

Падчас гаворкі з Гаа Манам я ўвесь час лавіў сябе на думцы пра нейкую неверагодную фантастычнасць нашай сустрэчы. Гэта ж трэба: я гутару з сучаснікам і сябрам Максіма Танка, Барыса Палявога, мастакоў Вярэйскага і Анікушына, перакладчыкам на кітайскую мову



амаль усяго Пушкіна, Астроўскага, Ахматавай і многіх савецкіх паэтаў.

Гаа Ману — 86 гадоў. Ён нарадзіўся ў Харбіне. У сем гадоў паступіў у школу хрысціянскага саюза моладзі, настаўнікамі якой былі рускія. У той час там жылі і працавалі многія вядомыя мастакі, музыканты, артысты, пісьменнікі. Гаа Ман захапляўся жывапісам, браў урокі ў рускіх мастакоў А. Кляменцьева і В. Осіпава. Але галоўным захапленнем юнака ў той час была літаратура. Яго дэбют як перакладчыка адбыўся на старонках харбінскай газеты "Дабэй сіньбаа". Гэта быў пераклад вершаў у прозе І. Тургенева.

З таго часу працягваецца шматгранная перакладчыцкая дзейнасць Гаа Мана. Ён увасобіў на кітайскай мове вершы Пушкіна, драму Лермантава "Іспанцы", паэму Тараса Шаўчэнкі "Кацярына", п'есы Маякоўскага, вершы Ахматавай і Пастарнака. Ён намаляваў партрэты Л. Талстога, Гогаля, Герцэна, Тургенева, Горкага...

З 1962 па 1989 Гаа Ман працаваў у часопісе "Сусветная літаратура", быў яго галоўным рэдактарам.

Мастацтва Кітая мадэрнізуецца разам з эканомікай. Мая знаёмая Ганна Алаберт у сваёй кнізе "Месца канфуцыянства ў мадэрнізацыі Кітая" піша: "У сучаснай сітуацыі кітайскае грамадства не можа проста адкінуць каштоўнасці старой айчыннай культуры і ажыццяўляюць увесь комплекс рэформ, не ўлічваючы асаблівасці нацыянальнага фактару".

*"Выкарыстоўваючы ўсе найноўшыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, не адкідваючы мадэрнісцкія пошукі ў літаратуры і мастацтве, кітайцы не адмаўляюцца ад традыцыйных маральных і светапоглядных каштоўнасцей, упарта займаюцца выхаваннем асобы, удасканаленнем яе маральнага аблічча.*

Але паводле прызнання большасці кітайскіх культуролагаў, сама духоўная спадчына мае патрэбу ў мадэрнізацыі.

Увогуле, што цікава, выкарыстоўваючы ўсе найноўшыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, не адкідваючы мадэрнісцкія пошукі ў літаратуры і мастацтве, кітайцы не адмаўляюцца ад традыцыйных маральных і светапоглядных каштоўнасцей, упарта займаюцца выхаваннем асобы, удасканаленнем яе маральнага аблічча. Нягледзячы на пранікненне ўсіх негатыўных тэндэнцый, характэрных для сучаснага заходняга грамадства, існуе нябачная сістэма перасцярогі, стрымлівання і г. д. У любым газетным кіёску можна купіць "COSMOPOLITAN" на кітайскай мове, іншыя модныя часопісы, але з экранаў тэлевізараў не ліецца бруд насілля, гвалту, не праводзяцца гей-парады, не выносяцца ў ранг галоўных каштоўнасцей яхты, машыны, асабнякі, крымінальныя "дахі"...

Кітайцы, як і многія беларусы, штовечар глядзяць па тэлевізары серыялы. Пазнаёміўся з імі і я, балазе ёсць канал на рускай мове. "Мыльныя оперы" падобныя да большасці, паказ якіх ідзе і ў нас, за выключэннем страляніны, паліцэйскіх і бандытаў, — усёй той "чарнухі", якой напіхваюць нас расійскія каналы.

Бадай, ці не самае яркае ўражанне пакінула пекінская гранд-опера — Вялікі Нацыянальны тэатр оперы і балета. Гэта велізарнае яйкападобнае збудаванне плошчай амаль сто пяцьдзясят тысяч квадратных метраў і вышынёй сорак шэсць метраў, нібы ўтопленае ў возера непадалёк ад галоўнай плошчы горада.

Архітэктар — славуты француз Поль Андро, аўтар і суаўтар шматлікіх буйных праектаў, сярод якіх сорак аэрапортаў, лыжны трамплін у Куршавелі, французскі тэрмінал тунэля пад Ла-Маншам. Будаўніцтва абышлося дзяржаве ў больш як тры мільярды юаняў. Планіроўка падганялася пад стандарт ідэальнай простасці. Уваход у будынак — адразу са станцыі метро. Гэты дваццаціметровы падземны калідор паступова пераходзіць у вестыбюль. Яго столь шкляная, на шкло зверху наліта вада — дно басейна, які акружае оперу. Далей мы трапляем у агромністае фае тэатра, у якім, як на плошчы, размешчаны тры залы.

Пад тытанавай бранёй схаваныя тры залацістыя цыліндрычныя абʼёмы, якія ўмяшчаюць оперны і канцэртны залы і малую сцэну. Від будынка зверху нагадвае іерогліф "Інь-Ян", што азначае гармонію. Скажу шчыра, такіх збудаванняў мне не даводзілася сустракаць. Адчуванне, што ты знаходзішся ў нейкім фантастычным горадзе будучага. І побач людзі, кавярні, залы для прэс-канферэнцый і невялікіх канцэртаў.

"Я заўсёды пазбягаў замыкацца ў рамках аднаго стылю або аднаго пункту погляду: кожны праект патрабуе асаблівага падыходу, асаблівага пошуку. У гэтым сэнсе пекінская опера адкрывае для мяне новыя абсягі...", — гэтыя словы вялікага Поля Андро я вычытаў у адной з праграмак, якія прадаваліся для наведвальнікаў балетнага спектакля "Марка Пола".

Сюжэт спектакля пра вядомага падарожніка Марка Пола, які больш як семсот гадоў таму трапіў у Кітай і закахаўся ў прынцэсу, стаў асновай для ўнікальнага відовішча, якое дэманструе традыцыі кітайскага народа, яго гасціннасць, імкненне да адкрытасці. Марка Пола адзін з першых "праклаў" мост паміж Захадам і Усходам. Лепшыя артысты кітайскай сцэны, грандыёзныя дэкарацыі, цудоўная музыка — усё гэта трымае гледачоў у шчаслівым напружанні і асалодзе. Глядзельная зала нібы затаіла дыханне, перарывала дзеянне гарачымі воплескамі і гучнымі воклічамі захаплення, доўга не адпускала артыстаў і стваральнікаў спектакля са сцэны пасля таго, як прагучалі апошнія акорды.

Рэжысёр і прадзюсар спектакля Чэн Вэя ў гутарцы з намі зазначыў, што асоба Марка Пола, яго падарожныя нататкі натхнілі аўтарскі калектыў на грандыёзную пастаноўку пра вечныя каштоўнасці, якія ўласцівыя ўсім людзям на зямлі.

Партыя Марка Пола была адмыслова напісана для саліста тэатра Ла Скала Міка Зені, які прыязджае сюды спецыяльна, бо ён — адзіны выканаўца гэтай партыі, адзіны не кітайскі артыст на сцэне. Пасля спектакля мы з маімі гасціннымі гаспадарамі падышлі да артыста, і я папрасіў яго падзяліцца ўражаннямі.

— Так, удзел у гэтай пастаноўцы для мяне вельмі значная падзея. Гэта галоўны герой у балеце. Я кожны дзень чытаю раман "Марка Пола" і ўяўляю, што ён бачыў і адчуваў у час падарожжа ў Кітай. Падчас рэпетыцый я часта гутару з кітайскімі калегамі, якія мне вельмі дапамаглі. Мова танца ў нас адна, тут няма ніякіх межаў, і мы з партнёрамі добра разумеем адзін аднаго.

У цудоўнай музыцы кампазітар Чжан Цдзяны спалучыў кітайскія і еўрапейскія элементы. Адметна, што ў аўтарскім калектыве чынны ўдзел бярэ дызайнер па святле Уладзімір Лукасевіч з марыінскага тэатра ў Санкт-Пецярбургу.

На прыкладзе балета "Марка Пола" можна ўбачыць, як хутка і плённа кітайскае мастацтва ўбірае еўрапейскія традыцыі, якія на нацыянальнай глебе набываюць непаўторнае гучанне.

***На здымку: Навум Гальпяровіч і Гаа Ман; у парку скульптур — коні.***

## Эпоха 1910 — 1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста

Міхась МУШЫНСКІ,
доктар філалагічных навук

**Зрухі, якія пакрысе пачаліся ў жыцці савецкай краіны пасля сакавіцкіх падзей 1953 г., закранулі і Якуба Коласа. І ў яго светапоглядную пазіцыю жыццё ўнесла пэўныя карэктывы, хоць пазітыўны вынік стаў бачны не адразу: кіруючыя палітычныя колы не былі зацікаўленыя ў кардынальных зменах і ўсяляк стрымлівалі іх. Тым не менш ужо ў прамове Коласа на IV пленуме ЦК КПБ (25 — 27 чэрвеня 1953 г.) беларуская грамадскасць убачыла шмат у чым іншага пісьменніка. На жаль, тэкст гэтага выступлення не стаў рэальным фактам грамадска-культурнага жыцця. І толькі ў 1990 г. часопіс “Коммунист Белоруссии” (№ 7. С. 73 — 75) “амаль цалкам прывёў гэтае выступленне, якое раней не друкавалася”.**



# Клопат пра духоўную спадчыну

Тут увага Коласа была засяроджана на балючай праблеме становішча беларускай мовы, на пагражальным звужэнні сферы яе функцыянавання: мы, зазначыў дэлегат, перасталі карыстацца нашай мовай як мовай рабочай, “не зважалі на тое, што яна выходзіць з ужытку нават такіх устаноў і арганізацый, як Акадэмія навук, Міністэрства асветы, былое Міністэрства кінематаграфіі, былы камітэт па справах мастацтваў, навучальныя ўстановы, тэатры, саюзы мастакоў і кампазітараў і іншыя”. Падобнае становішча негатыўна адбіваецца на развіцці ўсёй нацыянальнай культуры, і таму нельга пасіўна назіраць за гэтым небяспечным працэсам, які трэба неадкладна спыніць.

Сур’ёзныя закіды былі зроблены Якубам Коласам у адрас кіраўнікоў, якія “не разумеюць усёй важнасці рэальнага ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, падыходзяць да гэтай справы фармальна, не клапоцяцца аб належным падборы нацыянальных кадраў”. Зусім недастаткова, калі ў анкеце работніка напісана “беларус”. Трэба, каб ён валодаў мовай, усведамляў сябе дзеячам, які працуе дзеля пасляховага развіцця рэспублікі, развіцця яе культуры, навукі, мастацтва. Шмат крытычных заўваг зрабіў Колас беларускім выдавецтвам, якія выпускаюць у свет кнігі са значнымі моўнымі хібамі, а пераклады масавай, дзіцячай літаратуры і падручнікі стаяць на нізкім узроўні. Не спяшаюцца сплачваць свой доўг перад грамадскасцю беларускі оперны тэатр, радыё, дзе мала беларускамоўных пастановак і перадач, а ў рэспубліканскай газеце на кожным кроку можна сустрэць не ўласцівыя нашай мове формы.

Як бачым, у выступленні народнага паэта была акрэслена змястоўная праграма, ажыццяўленне якой дапамагло б скіраваць развіццё беларускай мовы, дзейнасць грамадскіх, культурных, навучальных, асветных устаноў, творчых саюзаў у плённым кірунку. На жаль, многія праблемы, узнятыя Якубам Коласам амаль шэсцьдзясят гадоў таму, і сёння застаюцца нявырашанымі. Але гэты сумны факт не змяншае заслугі пісьменніка-грамадзяніна перад Бацькаўшчынай, перад нацыянальнай культурай.

Да згаданай тэмы, якая востра хвалявала народнага песняра на працягу ўсяго творчага жыцця і была вынесена на абмеркаванне партыйнага пленума ў чэрвені 1953 г., ён звярнуўся і ў маі 1956 г. Але гэтым разам пісьменнік абраў іншую форму вырашэння пастаўленай задачы — форму пісьмовага выкладу думак, афіцыйнага звароту непасрэдна “У Бюро ЦК КП Беларусі”. Ён зноў гаворыць пра мову як пра найвялікшае духоўнае багацце народа. “Таму задача савецкай інтэлігенцыі рэспублікі — берагчы мову, вывучаць яе, распрацоўваць і пашыраць”. А дасягаецца зберажэнне і пашырэнне мовы “яе ўжываннем у побыце, на рабоце, у дзяржаўных і культурных установах”. На практыцы ж гэтае патрабаванне не захоўваецца. Колас робіць справядлівы закід кіраўнікам устаноў, якія “вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, на ёй не гавораць з наведвальнікамі, у гарадах няма беларускіх шыльдаў і надпісаў, мала беларускіх афіш і плакатаў”. Няма беларускіх надпісаў на айчынных аўтамабілях, трактарах, станках, тканіне, цукерках, цыгарэтах.

Шмат слушных пажаданняў выказаў Колас саюзам кампазітараў і мастакоў, якія таксама ігнаруюць беларускую мову. Так, кажа пісьменнік, у гэтых майстроў формы і сродкі выяўлення думак, пачуццяў — “не моўныя”, спецыфічныя. “Аднак зрабіць уклад у нацыянальнае мастацтва і музыку, не ведаючы мовы народа, немагчыма”. І, паглыбляючы сваю думку, аўтар звароту робіць глыбокую канцэптуальную, агульнатэарэтычную, метадалагічную выснову: “Мова — важнейшы элемент нацыянальнай формы, не ведаючы яе, не карыстаючыся ёю, ні мастак, ні кампазітар не здолеюць аўладаць усімі духоўнымі багаццямі народа”.

Імкнучыся даць партыйнаму кіраўніцтву рэспублікі малюнак рэальнага становішча, у якім знаходзілася ў той час беларуская мова, Колас аналізаваў адносіны да гэтай праблемы прадстаўнікоў самых розных творчых саюзаў, аб’яднанняў, камітэтаў. І ўсюды ён бачыў праявы абыякавасці, пагарды, непрымання багаццяў народнай мовы. Артысты парушаюць правілы вымаўлення, засмечваюць мову словамі-калькамі з рускай мовы. У школах, ВНУ выкладанне не вядзецца па-беларуску. Беларускіх школ мала, яны размешчаны на ўскраінах, у горшых будынках. Мяшчанская гарадская праслойка грэбліва ставіцца да ўсяго беларускага, падбухторвае органы народнай асветы на закрыццё, на ліквідацыю беларускай школы.

*“Зусім недастаткова, калі ў анкеце работніка напісана “беларус”. Трэба, каб ён валодаў мовай, усведамляў сябе дзеячам, які працуе дзеля пасляховага развіцця рэспублікі, развіцця яе культуры, навукі, мастацтва.*

Па вялікім рахунку, трэба ацаніць спробу Якуба Коласа раскрыць вытокі, патлумачыць сапраўдныя прычыны “сягонняшняга становішча з мовай”. Адна з прычын — масавы пераслед, рэпрэсіі значнай колькасці партыйнай, савецкай інтэлігенцыі, пісьменніцкіх, навуковых сіл. Баючыся быць абвінавачанымі ў нацыяналізме, людзі кідалі гаварыць па-беларуску. Перад беларускай грамадскасцю, упэўнены народны паэт, стаіць нялёгкая задача па пераадоленні шматлікіх штучных бар’ераў, якія перашкаджаюць нармальнаму развіццю беларускай мовы, літаратуры, культуры на нацыянальнай глебе.

*“ “Ліст пра выхаванне моладзі” з’яўляецца адбіткам глыбокіх роздумаў народнага песняра над такімі негатыўнымі з’явамі, як антыграмадскія паводзіны моладзі, праявы хуліганства, крадзяжу, рабаўніцтва. Асаблівую трывогу пісьменніка выклікае ўзрост удзельнікаў злачынных акцый — “ад 17 да 25 — радзей 30 год. Горка і крыўдна!”*

Змястоўнымі, востра праблемнымі былі і прамовы Якуба Коласа на XXI і на XXII з’ездах Камуністычнай партыі Беларусі (адпаведна 10 — 13 лютага 1954 і 24 — 27 студзеня 1956 г.). Тэкст першага выступлення змешчаны ў газеце “Звязда”, у нумары ад 14 лютага. Яно карэнным чынам адрозніваецца ад папярэдніх публікацый аналагічнага характару: пасля лаканічнай заўвагі адносна “шпаркага і няспыннага” поступу “нашай сацыялістычнай культуры” Колас перайшоў да сур’ёзнай размовы пра недахопы, “якія не спрыяюць далейшаму руху наперад у гэтай галіне”. Як бачым, істотна змянілася структура прамовы на грамадскім, а ў дадзеным выпадку на партыйным, форуме. Інакшай стала ацэнка суадносін станоўчага і адмоўнага ў тагачасным жыцці. Паводле логікі разважанняў Коласа нельга не зважаць на негатыўныя з’явы і перабольшваць свае дасягненні, як гэта яшчэ нядаўна рабілася, трэба вырашаць надзённыя праблемы.

Не меней востра стаяла і праблема вывучэння гістарычнага мінулага беларускага народа. Якуб Колас і тут робіць сур’ёзныя крытычныя закіды ў адрас вучоных, якія не парупіліся напісаць вельмі патрэбныя кнігі па гісторыі, геаграфіі. Выйшлі з друку кнігі дакументальных матэрыялаў, але яны не могуць замяніць падручнік. “Без вывучэння мінулага і сучаснага мы не можам прадбачыць будучага”. Была звернута ўвага і на няўважлівае, абыякавае стаўленне да пошукаў і захавання матэрыялаў па гісторыі Беларусі. Усё яшчэ застаюцца неасветленымі падзеі, якія звязаны з сялянскімі паўстаннямі ў Беларусі. У практычным аспекце было разгледжана прамоўцам і пытанне арганізацыі і адкрыцця цэнтральнага гісторыка-культурнага музея (неабходна стварыць калектыў работнікаў, пачаць збіраць экспанаты і многае іншае).

Заслугоўвае грунтоўнага разгляду яшчэ адзін змястоўны публіцыстычны матэрыял Коласа — яго “Ліст пра выхаванне моладзі”. Як і “Зварот у Бюро ЦК”, “Ліст…” выразна дэманструе ўзровень грамадзянскай пазіцыі Коласа пасля падзей 1953 г., шырыню яго поглядаў на праблему дзяржаўнага, нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Ці былі накіраваны дакумент у адпаведныя інстанцыі, ці атрымалі яго адрасаты, пакуль не ўстаноўлена. Паводле ж змястоўнай напоўненасці “Ліст…” з’яўляецца адбіткам глыбокіх роздумаў народнага песняра над нявырашанымі сацыяльнымі і маральнымі праблемамі тагачаснага жыцця, над такімі негатыўнымі з’явамі, як антыграмадскія паводзіны моладзі, праявы хуліганства, крадзяжу, рабаўніцтва. Каб падмацаваць свае высновы, Колас спалучае агульныя разважанні і канкрэтыку, прыводзіць дакладны адрас пэўнага здарэння. Асаблівую трывогу пісьменніка выклікае ўзрост удзельнікаў злачынных акцый — “ад 17 да 25 — радзей 30 год. Горка і крыўдна!” Крыўдна з тае прычыны, што новае пакаленне павінна быць лепшае за папярэдняе.

Можна было б, разважае Колас, спісаць негатыўныя з’явы на нядаўнюю вайну, якая пакінула па сабе багата сірот, безбацькоўства, беднасць і г. д. Аднак сярод злачынцаў, хуліганаў, аматараў лёгкага жыцця часта апынаюцца дзеці забяспечаных, паважаных бацькоў. Напрыклад, у групу тых, што займаліся рабаўніцтвам, уваходзіў сын начальніка міліцыі аднаго з гарадскіх пасёлкаў. Колас звяртае ўвагу на беспакаранасць злачынцаў, гаворыць пра пачуццё страху ў пацярпелых людзей, не ўпэўненых, што яны знойдуць абарону ў праваахоўных органах. “Калі застаюцца беспакаранымі злодзеі і рабаўнікі, то хуліганы зусім распускаюцца. Нельга пакараць за знявагу асобы, за тое, што хуліган плюнуў табе ў твар, брыдкасловіў, чапляўся з цынічнымі прапановамі да жанчыны. А караць трэба. У гэтым выпадку павінны ўступаць у свае правы клопат пра чалавека, яго спакой і бяспеку. Ні адно злачынства не павінна заставацца непакараным. Спушчаны з рук несумленнасць, хуліганскі выбрык могуць развіцца, калі не будуць асуджаныя, не будуць даведзеныя да грамадскасці”.

Якуб Колас папярэдзіў адрасатаў «Ліста…», каб яны не лічылі адміністратыўныя меры адзіным эфектыўным сродкам, з дапамогай якога можна нейтралізаваць, выкараніць антыграмадскія ўчынкі. Каб перамагчы сацыяльнае зло, патрэбныя агульныя намаганні. Многае могуць зрабіць і дзеячы культуры, навукі, педагогі. “Кожная антыграмадская праява, нават зародак яе, павінны сустракаць рэзкі адпор, асуджэнне працоўных, каб вінаваты адчуў мярзотнасць сваіх паводзін”.

Як вынікае з разгледжанага матэрыялу, у дзейнасці Коласа-публіцыста былі творчыя ўдачы і істотныя страты. У цэлым жа публіцыстычная спадчына народнага паэта ўяўляе цікавую старонку гісторыі айчыннага прыгожага пісьменства. Лепшыя артыкулы, выступленні, прамовы Коласа-публіцыста ўсё ж вытрымалі праверку на мастацкую каштоўнасць і сталі арганічным складнікам яго шматграннай літаратурна-творчай спадчыны, а яго традыцыі па-ранейшаму застаюцца адным з рэальных фактараў дабратворнага ўплыву на літаратурны працэс, на грамадска-культурнае жыццё. Каштоўны вопыт Якуба Коласа паспяхова ўзбагачаецца творчай практыкай новых пакаленняў беларускіх публіцыстаў.

***Здымак прадастаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа.***

Алесь ПАПЛАЎСКІ

# І я прыйду…

"Ісціна адносная", — сцвярджаюць некаторыя скептыкі і, магчыма, не памыляюцца. Бо кожны з нас здольны дасягнуць таго, чаго здольны дасягнуць, чаго варты. Але відавочнае не патрабуе пацвярджэнняў і доказаў. І, на жаль, чалавек пакуль яшчэ не тое месца, дзе мог бы пасяліцца Бог. Большасць з нас Ён толькі наведвае час ад часу. І тое па нашым капрызе. Паэзія, на маю думку, імкнецца якраз наблізіць нас да Божага, існага, дасканалага. Ва ўсякім разе, яна агаляе фальш і прафанацыю складанага свету, у якім мы жывём. І мне, як і Іосіфу Бродскаму, хацелася б верыць, што "людзі, якія займаюцца паэзіяй, — самыя дасканалыя, з біялагічнага пункту гледжання, узоры чалавечага роду". Што ёсць жыццё? Вечны двубой паміж існым і лжывым, і калі ў пошуках ісціны мы не здольныя наблізіцца да Бога, мы не здольныя спазнаць Яго. Падобнае пазнаецца падобным.

Менавіта тэме жыцця і смерці, пакаяння і вялікай зямной Любові прысвечаная чарговая кніга паэзіі "Бурштынавы яблык", выдадзеная ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", вядомай беларускай паэтэсы і літаратуразнаўцы з Падляшша Галіны Тварановіч. Зборнік цэльны па структуры і змесце. Нездарма, відаць, у сваёй кнізе аўтарка звяртаецца да некаторых ранніх твораў. Яны ёй патрэбныя для той спавядальнай цэльнасці, у якую яна залучае і нас, чытачоў. Творы сваёй шчырасцю вымушаюць прайсці разам з лірычнай гераіняй складаны жыццёвы шлях, а значыць,




адчуць уражанні і эмоцыі, якімі яна жыла і жыве, якімі наскрозь прасякнута яе шчырая споведзь. І мы праходзім гэты шлях ад мары "быць смыком, якога цемра бяжыць" і да ўсведамлення таго, што ёсць "пругкая прага — быць"; ад разумення, што жыццё ўсяго толькі "сухое лісце пад крокамі наступнікаў" да ўсведамлення асацыятыўнага вобраза Пысінскага "бурштынавага яблыка ў зялёнай траве". Але "дарога пачынаецца з першага кроку", і хто абяцаў, што яна выпадзе не пакручастай і выбоістай.

*Пекла й рай,*
*дабро й зло,*
*цемра й святло —*
*усё гэта я,*
*тое ражно,*
*што папярок устае*
*боскай святое задумы*
*аб чалавеку...*

Верш "Паядынак", на маю думку, якраз і ўвасабляе адпраўную кропку, той першы крок, які мы баімся зрабіць. Але без усведамлення сваёй грахоўнай сутнасці няма пакаяння. Бо грэх магчымы толькі ў прасторы людской маралі. І прычыну сваёй недасканаласці трэба шукаць у сабе.

*Глянь, вунь тваё горняе*
*б'ецца крыламі аб столь*
*цеснай чалавечай галубятні.*
*Цішэй шукай дзверы —*
*у сабе…*

Але ўсё дасканалае нараджаецца ў пакутах. І гэта не хвілінная прыхамаць, гэта цяжкая душэўная праца. І праўда вартая любых пакут. Таму, магчыма, і нараджаюцца наступныя радкі:

*Трывай —*
*няма другога шляху*
*у росныя блакіты…*

На жаль, мудрасць прыходзіць да нас вельмі позна. Але жыццё на тое і жыццё, каб мы на працягу яго змаглі спасцігнуць тое, што схавана ад нас, што не паддаецца нашаму разуменню. У паэта адна зброя — слова. Паэзія тым, верагодна, і адрозніваецца ад іншых літаратурных форм, што гаворыць пра тое, пра што іншаю моваю, акрамя як моваю паэзіі, не скажаш. Вершы — гэта своеасаблівая форма малітвы. А малітва не здольная на фальш.

Нехта з вялікіх сцвярджаў, што "сапраўдная паэзія пачынаецца па-за межамі паэзіі". І гэта так. Гэта ёсць нашы ўяўленні і ўражанні, тое, што здольны ўспрымаць наш розум, тое, што мы дадумваем, да чаго нас падштурхоўваюць словы. Паэтка сціплая ў некаторых сваіх выказваннях, і ад гэтага да яе толькі больш даверу.

*Сваім*
*слабым, мітуслівым словам*
*спрабую выказаць тое,*
*што выгаворваецца*
*адно цішынёю вачэй,*
*адчыняецца нязмушана,*
*пакрысе спеліцца часам,*
*а ва ўладзе паспешлівай*
*натугі — згасае.*

Насамрэч яна выгаворвае тое, што многія з нас баяцца пачуць. Але згодна з галоўным законам уяўлення, сапраўдны творца выходзіць за межы свайго існага "Я". Уважлівы і ўдумлівы чытач найперш шукае ў творах самога сябе, а не атасамляе напісанае з міфічнымі прататыпамі. Чытач і аўтар заадно. Яны мысляць ва ўнісон. І ў гэтым ёсць сапраўдны талент творцы.

*Прыкмячаю часам,*
*як аднекуль —*
*з глухіх глыбінь*
*ці з зіхоткіх вышынь —*
*маё вечнае "я"*
*вельмі выразна*
*пасміхаецца з таго майго "я",*
*што ўвасоблена ці зняволена*
*у вярыгах слабое плоці…*

Шмат увагі ў зборніку "Бурштынавы яблык" надаецца тэме кахання. Гэта важная частка нашага зямнога шляху, і дзіўна было б, каб гэтая тэма была выкраслена з кантэксту твораў. "Паэзія кахання, нават калі яна звяртаецца да аднаго чалавека, заўжды мяркуе, што яе пачуе і нехта іншы", — сцвярджаў Эліот.

*Стрэліся:*
*Дзве пакуты,*
*Два маўчанні,*
*Каб мовіць —*
*Каханне.*

Зборнік паэзіі Галіны Тварановіч прасякнуты тугой па радзіме, шчымлівым болем па тым незваротным, аднойчы страчаным, чаго ніколі ўжо не вернеш, але да якога вяртаешся зноў і зноў. Бо без яго і жыццё не жыццё.

*Цеханавецкі збанок,*
*бельская хата,*
*а верасы — з Дараганава,*
*Што ў Пцічы на плячы*
*хваёвае прымасцілася…*

На жаль, нельга быць у гэтым свеце нікім іншым, акрамя як самім сабой. І паэт на тое і паэт, каб усё ўскладняць. Ён хутчэй не хворы пацыент, а доктар. І найперш для нас, чытачоў. Нехта трапна заўважыў: "…калі мы плачам без усякай на тое падставы, гэта прыкмета таго, што мы ўсё зразумелі…" Але да гэтага яшчэ трэба дарасці.

## Новае выданне

# Жытне-жыццёвыя вершы

Сяргей ЧЫГРЫН

**З друку выйшла новая кніга вершаў беларускай паэткі з Беластока Міры Лукшы "Пад знакам Скарпіёна". Выданне ажыццёўлена ў бібліятэчцы беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" за кошт сродкаў Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы.**




Скажу шчыра: пра вершы Міры Лукшы пісаць няпроста. Але калі ўжо вырашыў паразважаць пра яе паэзію, то не трэба скакаць з берага верша. Вобраз "бераг верша" прыдумала сама паэтэса. Выдатны вобраз.

Міра Лукша мае вялікі творчы вопыт, яна — аўтар шматлікіх кніг вершаў і прозы. Для творчага чалавека галоўнае, як некалі казаў Рыгор Семашкевіч, улавіць рух дыялектыкі, хаця б асноўныя яе напрамкі ў сваім часе. Вядома, для аднаго таленту, якім бы значным ён ні быў, не пад сілу ахапіць усё. І таму, калі казаць пра імкненне да цэласнасці, на першы план выступае цэласнасць светаадчування, характару, якая вызначае напрамак таленту, яго развіццё. Вершы Міры Лукшы — гэта паэзія захапленняў, вобразаў, параўнанняў, настальгіі і жыцця. Бывае, што паэтэса захапляецца колерамі. Часцяком у яе паэтычных радках дамінуе чырвоны. І бывае, ён нават надакучвае: "абкладзены чырвонай цэглай", "кроў чырвоная, як у брата роднага", "у чырвонай імгле", "па дне чырвонага мора", "пояць кроплі чырвоныя" і г.д. Мы ведаем, што ў паэзіі Алеся Пісьмянкова шмат белага. Але гэты колер надае яго вершам нейкай чысціні, свежасці, святла. Чырвоны і нават крывавы колер у вершах Міры Лукшы выклікае адчуванне самотнай тужлівасці, трывогі, адчаю, настальгіі. Вершы-роздумы гэтай паэтэсы скіраваны ў нашу сучаснасць і прасякнуты трывогай за шчасце ўсіх, хто здабывае жыццё:

*Ласкавы коласе,*
*калышаш сусвет,*
*Затулі нас*
*сярод сваіх зярнят.*

Міра Лукша звяртаецца да вобраза зерня, наогул — да жыта. Для яе, як і для ўсіх беларускіх паэтаў, зерне, каласы, жыта — гэта вышэйшая мера чалавечага плёну, свята, гуманістычны пафас дабрыні і шчырасці, адчуванне народных каранёў, гэта сваё, роднае, беларускае, якое абароніць ад усіх няшчасцяў. "Зачыню цябе ў зярняці" — піша паэтэсы. Ці так: "разам з жытам я хвалююся ў паклоне". Альбо: "з гуку і з прыску ў зерне, з якога хлеб кладзецца на язык лустай, прычасцем і выбухам смаку". Жыта, жыццё, жывіца… Лепшыя "жытне-жыццёвыя" вершы Міры Лукшы вабяць ёмістасцю зместу і свабодай выяўлення, тонкай паэтычнасцю і глыбінёй думкі. Уражвае скіраванасць, здольнасць казаць і думаць пра істотнае, важнае, нязменная вернасць народным традыцыям, вытокам.

У многіх вершаваных радках паэтэса вядзе дыялог сама з сабой. Гэты дыялог падкупляе шчырасцю перажывання чалавека, якога хвалююць шматлікія "чаму?". Гэта, мусіць, непазбежныя пытанні, якія чакаюць кожнага, хто з вышыні гадоў аглядае пражытае і перажытае, хто на шалях сумлення ўзважвае ўсё добрае і благое, што часам прайшло праз яго сэрца. Каб сказаць, што аўтарка зборніка "Пад знакам Скарпіёна" шкадуе пра пражытыя гады, дык не, хаця яна з горыччу разважае, што на гарышчы хаты "поўна ўсяго, і тых ботаў зусім непаношаных… бо няма каму іх насіць, бо ногі завялікія, або стапталіся, або і пайшлі на пагорак за Семяноўкай да Ошарка".

Сэрцавіннае ў паэзіі Міры Лукшы ўсё тое, чым яе лірычная гераіня жыве. Адсюль у вершах глыбіня пачуццяў, іх натуральнасць, псіхалагічная праўдзівасць. І можна казаць нават пра сонечнае спляценне розных пачуццяў, розных матываў у самой істоце гэтай паэзіі, настолькі яны счэпленыя ў сваёй цэласнасці, адзінстве выяўленага праз іх чалавечага характару, уласнага характару аўтаркі:

*Не дзялю сябе*
*ні з кім я*
*з кім я.*

Хто, як не паэт, сёння абароніць паэтаў, паразважае пра іх творы, жыццё, спадзяванні і расчараванні? Спрабуе гэта зрабіць і Міра Лукша. Яе разважанні суб'ектыўныя і няпростыя, настраёва-тужлівыя і філасофскія: "Будуць судзіць паэта — украў адзін дзень у Бога", "вечны дом паэтаў пад вадой", "той верш каштаваў жыцця", "як пісаць верш першы і апошні" і г.д. Арыгінальнасць Лукшы-паэткі перш за ўсё ў смелым асацыятыўным мысленні, у збліжэнні паняццяў, з'яў далёкіх і блізкіх. Міра — паэтэса, патрабавальная да сябе. Яна піша не так і шмат вершаў, але яе творы арыгінальныя па форме, вельмі спакойныя і чуллівыя.

Вершы беларускіх паэтаў Беласточчыны заўсёды здзіўляюць мяне насычанасцю вобразамі, параўнаннямі, філасофскімі роздумамі, паэтычнымі адкрыццямі. Усяго гэтага вельмі шмат і ў Міры Лукшы. Чытач проста смакуе такія вобразы: "матылькі агню", "харугвы дрэў", "нітка дыму", "абочына часу", "сноў сузор'е" і г.д. Сённяшні свет паэтэса азірае даволі пільна, дэталёва даследуе яго ў развіцці, бачыць дыялектыку гэтага развіцця, робіць свае высновы. У вершах аўтарка спадзяецца не толькі на сябе, але і на прыроду. З прыродай яна на "ты". На дзіва выразна, поўна, хораша раскрываецца лірычная гераіня Міры Лукшы "ў прыродзе", на яе фоне, у адчуванні яе хараства, у сваёй душэўнай светласці, дабрыні, паэтычнасці, у няўрымслівасці і рамантычнасці. "Мае дрэвы не ў самоце растуць за мяне" — разважае паэтка. "Трава трывае маё крананне" — прызнаецца аўтарка. "Нарва — мая рака рве мяне, як нарыў" — ці то радуецца, ці то шкадуе паэтэса. У вершах больш за ўсё кідаецца ў вочы імкненне аўтаркі да гульні на кантрастах, нечаканых паваротах думкі. І яшчэ да ігры на нюансах слова, якія ахапляюць, як маланкі, робяцца і тваім празрэннем, і адкрыццём.

Як і ў кожнага паэта, у новым вершаваным зборніку аўтаркі з Беластока ёсць радкі і пра каханне. Але гэта не юнацкае рамантычнае каханне і наіўныя дзявочыя пачуцці, а каханне сур'ёзнае, дарослае, дзе лірызм спалучаецца з псіхалагізмам, з філасофскай заглыбленасцю:

*Я не ўмею чакаць,*
*Хоць жанчына павінна*
*З-пад рукі выглядаць*
*Скуль павінен*
*вяртацца мужчына…*

Зборнік "Пад знакам Скарпіёна" пачынаецца вершам, у якім паэтка прызнаецца ў любові да роднага Падляшша і яго людзей:

*Мая душа гаворыць з вашай*
*у белай хмары*
*над Падляшшам…*
*…чула кранаюць цёплай ласкай*
*верных людзей*
*з зямлі падляшскай.*

Гэтыя радкі можна смела назваць эпіграфам да ўсяго зборніка. Падляшша і яго людзі працягваюць натхняць беларускую паэтэсу, і яна шчыра "ходзіць па свеце і вітае душы". Няхай яе творчая хада яшчэ доўга-доўга прыносіць плён і творчыя адкрыцці.

# Паэзія



Мікола Чарняўскі

* * *

**М. С. Ціцянкову**

*Ёсць дзіва, адвечнае дзіва,*
*Яго спасцігаю змаля,*
*Бо гэтае дзіва —*
*Радзіма,*
*Маёй Беларусі зямля.*
*Зямля, што ў сувоях гасцінцаў,*
*У сінім паркалі азёр.*
*Мне выпала тут нарадзіцца,*
*Усцешыцца ласкаю зор.*
*Тут выпала першыя крокі*
*Зрабіць у нязведаны свет.*
*Тут выпала ўбачыць аблокі,*
*Вясновых садоў першацвет.*
*Тут выпала колісь спаткацца*
*З каханнем найпершым сваім...*
*Тут верыць вучыўся,*
*Здзіўляцца*
*Красой, хараством трапяткім.*
*Тут словам, сябры, прычасціўся*
*На мове душы і вякоў...*
*Дамогся чаго я ў жыцці —*
*ўсё*
*Ад ласкі й любові бацькоў.*
*Ёсць дзіва, крынічнае дзіва —*
*Радзіма мая і твая.*
*Тут выпіў да кроплі адзінай*
*Настой лугавінавы я.*
*О, як ён у жылах пульсуе,*
*Сумленню заснуць не дае:*
*То жаўранкам раннім вяснуе,*
*То мовай пушчанскай пяе,*
*То ў сэрца крынічкаю льецца,*
*Каб стала ў ім больш чысціні,*
*Той самай, якое, здаецца,*
*Паменела ў нашыя дні...*
*Ёсць дзіва,*
*Зямлі маёй дзіва —*
*Гняздуецца ў кронах дубоў.*
*І гэтае дзіва —*
*Радзіма,*
*І гэтае дзіва —*
*Любоў.*
*Яе не адменіш загадам,*
*Бо ў сэрцы карэнні яе,*
*Буслінным крылом па-над садам*
*Мне дні асвячае мае.*

* * *

*Адны прадаюць,*
*А другія — купляюць:*
*Што ж, рынку закон*
*Не парушыш.*
*Шкада,*
*Што пры гэтым*
*Памінкі спраўляюць*
*Не рэчы,*
*А — нашыя душы.*

* * *

*Адны крычаць пра дабрабыт.*
*Другія — адмаўляюць.*
*Адны маўчаць,*
*Нібы рабы,*
*Другія —*
*Бэсцяць, лаюць.*

*Адны настырна ўперад пруць,*
*Другія — адступаюць.*
*Але ж усе*
*Часцей — бяруць,*
*Чаго не мелі —*
*Маюць.*

*Што Бог мне даў,*
*Я ўсё прайшоў,*
*Жыву —*
*Як сам умею.*
*Што я згубіў,*
*Што я знайшоў?*
*Падумаю —*
*Нямею.*

* * *

*Ходзіць рэха,*
*Ходзіць рэха —*
*Пацяшаецца.*
*Той — пайшоў,*
*А той — паехаў,*
*Бо спяшаюцца.*

*Я ж нікуды*
*Не спяшаю,*
*Я на рэха*
*Не зважаю.*
*Успаміны варушу,*
*Хоць не веру, —*
*Варажу*
*На зязюль,*
*Палын-траву —*
*А ці доўга пражыву?*

*Што за дзіўныя зязюлі —*
*Паляцелі,*
*Як пачулі...*

*Ходзіць рэха,*
*Ходзіць рэха,*
*Забаўляецца:*
*Гулкім смехам,*
*Гулкім смехам*
*Рассыпаецца.*
*Як і рэха,*
*Не тужу,*
*Ды цяпер я варажу*
*На адну палын-траву...*

*Задурманіў галаву!*



Фота Кастуся Дробава



Ізяслаў Катляроў

* * *

*Запытаў — маўкліва хоць, —*
*можа, ветру ў полі:*
*“Што рабіў — было супроць*
*нейчай гордай волі?”*
*Слухаў доўга цішыню,*
*быццам бы маўчанне.*
*І была яна яму*
*тым жа павучаннем.*
*Вецер нешта прабурчаў,*
*прасвістаў, пракаркаў,*
*а пасля і прашуршаў*
*дзесьці па-над паркам.*
*“Супраць? — хтось перапытаў,*
*можа, голас часу.*
*— Бог табе ўсё ж дараваў,*
*як няма адказу”…*

* * *

*Адзінае, а ўсё-ткі на дваіх:*
*маё — табе, тваё мне — для працягу,*
*ды ёсць шчэ дні няведамага страху, —*
*я анічога не раблю для іх.*
*Маё так проста дзеліцца тваім.*
*Тваё — маім... Ды ёсць нешта ў астатку,*
*што, можа, і не ўтойваем зусім,*
*а нейкую захоўвае загадку.*
*Дабавім да тваіх мае гады*
*ці да маіх твае гады дабавім…*
*Нас не было да стрэчы сапраўды,*
*таму пражыты разам час і славім.*
*Усё-такі жыццё дзялілі так*
*(у ім не раз было чаго страшыцца),*
*што раздзяліць сумелі мы няўзнак*
*і тое ўжо, што не магло дзяліцца.*

* * *

*Нават думкам ліе святло —*
*быць з табою...*
*Вось і сонца тваё ўзышло*
*нада мною.*
*Вось і вецер, ён твой, — цяплом*
*лашчыць рады...*
*Для цябе шалясцець лісцём —*
*шчасце саду.*
*І зусім ужо не ў журбе,*
*змыўшы далі,*
*зноў рака твая да цябе*
*коціць хвалі.*
*Твой дымок адляцець гатоў*
*з дальняй хаткі.*
*Твой вясёлкавы квет лугоў, —*
*анігадкі!*
*Расхінулася ўся зямля*
*ў свеце светлым...*
*Ўсё тваё, толькі ты — мая*
*з светам гэтым!*

* * *

*Аніякага не знаю веку, —*
*прад жыццём не мае доўгу час.*
*І, бадай што, не для чалавека*
*гэты гук і ціша — у адказ.*
*Ўсё — сабе і ўсё — само сабою*
*міма слыху, міма воч і рук, —*
*па-над доляй споведнай маёю*
*сам сябе бы абтрасае гук.*
*Ачышчаецца? Ці ачышчае?*
*Хоць і падае, а ўсё ж ляціць, —*
*штосьці абяцае, прычашчае*
*да таго, што ў памяці гучыць.*
*Ўсё не нам і створана не намі.*
*Што, урэшце, мой адчайны лёс?!*
*Зоркі... Ноч... І ў свеце, нібы ў Храме,*
*я стаю пад купалам нябёс.*

**Пераклад з рускай**
**Соф’і Шах**



Ігар Кананові́ч

## Жыцця майго сталіца

### (Ода вяртання)

*Куды б ні кінуў лёс, вяртаюся здалёк,*
*Як птушка з выраю — заўсёды, неадменна —*
*У наш маленькі і спакойны гарадок.*
*У любы Клецк. І вось дамоў знаёмых сцены*

*Зноў наблізжаюцца стракатаю гурмой,*
*Як дэлегацыя, каб госця дарагога*
*Сустрэць належна.*
*Хоць даўно я ў Клецку свой.*
*Бацькі аднойчы прывязлі мяне малога*

*З далёкай Драбаўшчыны ў новы, дзіўны свет.*
*Спярша тужыў, “вясковы рай” шукаў вачыма.*
*Пасля, гуляючы, асвоіўся як след,*
*Знайшоў другую — непаўторную — Радзіму…*

*Бо тут сям’я, сябры і процьма сваякоў.*
*“Збягаю” часам — маладому ж не сядзіцца.*
*Але вяртаюся, вяртаюся ізноў.*
*Ты, родны Клецк, жыцця майго сталіца…*

## Не чакай

*Не чакай хвілін, калі адчай*
*Распачне асобую гаворку:*
*Уварвецца ў твой “маленькі рай”,*
*Слаба абаронены знадворку,*

*І раздушыць цяжкаю пятой*
*Радасны спадзеў на перспектыву*
*Ды залье па берагі пакой*
*Сумных мрояў ртуццю палахлівай…*

*Выберы царкву і святара*
*Зрокам непадкупнага маленства.*
*Цвёрды крок зрабі на Шлях Дабра.*
*Хай не рытуал, а набажэнства*

*Ахіне нястрымную душу,*
*Там і тут зашытую няўмела.*
*Знікне мітусні надзённай шум,*
*І патухне тое, што гарэла…*

*З лёгкасцю ступаеш за парог —*
*Вольным ад грахоў. І ад расплаты.*
*Бо тваю душу ачысціў Бог:*
*Вымеў, з вокан зняў бязвер’я краты!*

*Думкаю прасветленай ляцiш*
*Да пяшчоты ў бяздані нябёсаў.*
*І нарэшце свой нацельны крыж*
*З вераю нясеш насустрач лёсу…*

## Спрадвечны міф

*“Каханне — сэнс! — крычыць*
*нахабная “папса”. —*
*Няма ў кароткага жыцця вышэйшай мэты!”*
*А я кажу, яно — не божая раса.*
*І хай клянуць мяне ўсе іншыя паэты.*

*Шлях праз каханне — гэта пекла на зямлі.*
*Прынамсі, восем з дзесяці на ім згарэлі*
*І — відавочна — адрадзіцца не змаглі.*
*Дзіця, пабіўшы лоб, зноў сядзе на арэлі?*

*Каханне — чорт, які падводзіў сто разоў*
*Мяне да краю і трымаў над ім са смехам.*
*Каханне — чорт! Яму паверыўшы ізноў,*
*Здзяйсняў учынкі, нібы “з розуму паехаў”!*

*Каханне — час. Тугой зламаныя гады.*
*Бясконцасць пошукаў спакуслівай хімеры…*
*Там недзе згінуў пазітыў мой малады*
*І без пары “дайшлі” магчымыя кар’еры…*

*Спрадвечны міф! Табе я столькі заплацілў*
*Даніны шчырай: вершам,*
*песняй, перспектывай!*
*…Іду, спакойны, абазнаны, па жыцці*
*І не шукаю сцежкі вусцішна-“шчаслівай”…*

## Цягнік

*Вера, Надзея, Любоў…*
*Састаўляю цягнік,*
*але ніяк не магу*
*разабрацца:*
*дзе паравоз, дзе вагоны!*

*Раздражнёны і стомлены,*
*сыходжу курыць.*

*Свежы вецер*
*і свежы дым разам*
*мне наперабой тлумачаць:*
*“Тэта ж — тры паравозы!*
*А вось табе*
*і адзіны вагон*
*цягніка —*
*Натхненне!”*

# У вянок еўрапейскаму творцу

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**Імя Максіма Багдановіча напярэдадні яго юбілею гучыць асабліва часта не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Літве, Латвіі, Украіне. Тут праходзяць літаратурныя вечарыны, выстаўкі, адбываюцца прэзентацыі новых выданняў, прысвечаных яркай асобе паэта. Асаблівае месца ў шэрагу юбілейных імпрэз заняла прэзентацыя рэспубліканскага культурна-асветніцкага мультыпраекта "Вянок Максіму", што прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У мультыпраект увайшоў шэраг асобных праектаў — кніжных, мультымедыйных, выставачных. Але пра ўсё па парадку.**

### Скарбы для даследчыкаў

Як распавяла першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па абслугоўванні карыстальнікаў і ідэалогіі Алена Даўгаполава, мультыпраект НББ склалі некалькі кампанентаў, у раскрыцці якіх удзельнічаюць літаратурныя і мастацкія сродкі. Яны дапамагаюць найбольш поўна адлюстраваць жыццёвы і творчы шлях паэта. Так, гэта выстаўка "Я не самотны, я кнігу маю…" у Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі. У экспазіцыі змешчана больш як 200 дакументаў з фондаў НББ. Гэта прыжыццёвае выданне кнігі вершаў "Вянок" з аўтографам аўтара, брашура "Братья-чехи" (Яраслаўль, 1916), "Беларускае адраджэнне" на рускай і ўкраінскай мовах (1915, 1916), іншыя выданні, у якіх апублікаваны артыкулы Максіма Багдановіча, а таксама кола дакументаў, што раскрываюць розныя аспекты яго творчасці.

Асобнымі кампанентамі мультыпраекта сталі кніжная экспазіцыя "І зорка гарыць, і не вяне вянок…" і фотабіяграфічная выстаўка "Максім Багдановіч". У межах апошняй упершыню прадэманстраваны сабраныя разам 48 фотаздымкаў бацькоў, сяброў, блізкіх і родных Максіма, здымкі мясцін, звязаных з лёсам паэта. Дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Тацццяна Шэлягові падчас выступлення зазначыла: "Цудоўна, што ў Нацыянальнай бібліятэцы краіны з'явілася задумка ажыццявіць гэты праект менавіта сярод кніг. І Максіма называлі "кніжнікам", ён з самага дзяцінства заўсёды быў сярод кніг. Бацькі мелі найлепшую бібліятэку ў Яраслаўлі, у якой было ўсё самае значнае, выдадзенае на той час".

Рэспубліканскую мастацкую выстаўку складана назваць толькі часткай праекта. Гэта самастойны праект! Некалькі выставачных залаў НББ, каля сямі дзясяткаў твораў жывапісу, графікі і фота беларускіх мастакоў, сярод якіх такія слынныя творцы, як Арлен Кашкурэвіч, Рыгор Сітніца, Фёдар Ястраб і многія-многія іншыя знакамітыя імёны. У межах экспазіцый прадстаўлены работы з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску, фондаў Нацыянальнай бібліятэкі, а таксама асабістых калекцый мастакоў. Прадстаўляючы мастацкую экспазіцыю, загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ, мастак Фёдар Ястраб зазначыў:

— Чаму быў задуманы такі, па сутнасці, глабальны праект? Ды таму, што постаць Максіма Багдановіча вымушае значных высілкаў. 120 год з дня нараджэння выбітнай асобы — вялікае свята для тых, хто не цураецца ідэнтычнасці з беларускай нацыяй. Багдановіч — геніяльны паэт. Гэта першы сапраўды еўрапейскі творца ў беларускай культуры, інтэлектуал, які даў новыя тэмы ў літаратуры, ужыў новыя формы паэзіі. Таму не дзіўна, што словы Багдановіча — як кроў у нашых жылах. І мастацкі праект павінен засведчыць — гэта велізарная з'ява ў нашым жыцці.

Сімвалічна, што выстаўка спыніць сваю працу ў дзень нараджэння Максіма — 9 снежня.



### Выдадзенае — застаецца

Выстаўкі — з'ява часовая. Настане дзень закрыцця, і згадкі пра іх застануцца толькі на фотаздымках і ў дакументацыі. У межах мультыпраекта былі прадстаўленыя набытыя аматарамі Максіма выданні, якія назаўжды займуць пачэснае месца на паліцах асабістых бібліятэк. Гэта падарунак ад выдавецтва "БелЭн імя Петруся Броўкі" — энцыклапедыя "Максім Багдановіч" (яна ўжо друкуецца і хутка з'явіцца ў кнігарнях і бібліятэках), а таксама мультымедыйнае выданне "Паэт красы і гармоніі", падрыхтаванае НББ сумесна з Літаратурным музеем Максіма Багдановіча (дыск ужо можна набыць у кіёску Нацыянальнай бібліятэкі).

Што да энцыклапедыі, то гэта трэцяя ў гісторыі беларускага кнігадрукавання персанальная энцыклапедыя, прысвечаная асобнаму пісьменніку. У выдавецтве раней пабачылі свет кнігі такога кшталту, прысвечаныя Францыску Скарыну і Янку Купалу. Як распавёў прадстаўнік "БелЭн", ідэя стварыць такі праект узнікла яшчэ ў канцы 1980-х, калі ў краіне рыхтаваліся святкаваць стагоддзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Тады быў напісаны шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў, але, на жаль, справа прыпынілася. Два гады таму прынята рашэнне аднавіць гэтую пачэсную справу. У стварэнні энцыклапедыі актыўны ўдзел прынялі больш як 50 аўтараў: супрацоўнікі Літаратурнага музея паэта, выкладчыкі, навукоўцы. Усяго ў кнігу ўвайшло каля дзвюх тысяч артыкулаў, прысвечаных самому Максіму, яго блізкім, сваякам, сябрам, знаёмым, усім людзям, якія пакінулі след у яго творчасці і лёсе; артыкулы пра мастакоў, кампазітараў, якія натхніліся Багдановічам, пісалі яго партрэты; шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў, дзе праводзіцца глыбокі аналіз кожнага з твораў Багдановіча.

Дыск "Паэт красы і гармоніі" — сапраўдны скарб для даследчыкаў. Юбілейнае мультымедыйнае выданне сталася чацвёртым у шэрагу праектаў НББ — пасля Напалеона Орды, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча. Яно ўключае вялікі аб'ём бібліяграфічнай, фактаграфічнай, гукавой інфармацыі, звязанай з імем і творчасцю Максіма. Гэта і алічбаваныя аўтографы паэта, і рукапісны зборнік "Зеленя" з фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча, і электронныя копіі мастацкіх твораў па матывах творчасці паэта, запісы песень і рамансаў на вершы Максіма, фрагменты кінафільмаў. Можна тут знайсці і звесткі пра дзейнасць музеяў паэта ў Мінску, Гродне і Яраслаўлі.

***На здымку: Наталля Атрушкевіч, метадыст аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ, прадстаўляе юбілейную выстаўку ў Музеі кнігі.***

*У падтрымку чытання*



**Дызайнер Ірына Дзёміна:**

## Мне па-ранейшаму падабаецца Таркоўскі

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

У класе пятым мяне прываблівала прыгодніцкая літаратура, а вось фантастыка ніколі не падабалася. Шмат чытала прозы — апавяданні, аповесці савецкіх аўтараў, імёны якіх цяпер ніхто і не ўспомніць. Вельмі падабалася кніга Вільяма Казлова "Едзем на Вял-возера" пра карэльскія мясціны.

Стрыечная сястра падарыла мне чатыры блакноты з вершамі, якія яна перапісвала з кніг у бібліятэках. Зборнікаў паэтаў было не дастаць. Потым я сама хадзіла ў бібліятэку, выпісвала ў блакноты тое, што мне падабалася, — і ў мяне іх з'явілася яшчэ дзесяць.

На памяць ведаю добрую палову гэтых вершаў: Цвятаева, Ахматава, Пастарнак. Дарэчы, сёння ўжо далёка не ўсё падабаецца. Напрыклад, калі жарсці адкіпелі, Цвятаева адышла на другі план. А вось Таркоўскі па-ранейшаму падабаецца. Апошнім часам зацікавілася літаратурай па псіхалогіі. А з твораў любімых аўтараў нядаўна прачытала "Мішахеразаду" Міхаіла Велера.

*Кніжная шафа*

# Кардыяграма грамадства



Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ

**Інстытут імя Гётэ ў Мінску прэзентаваў новы зборнік сучаснай нямецкамоўнай драматургіі "ШАГ-4".**

У гэтым годзе праекту "ШАГ" (сімвалічная назва — абрэвіятура з назваў краін, дзе жывуць драматургі-ўдзельнікі: Швейцарыя, Аўстрыя, Германія), арыентаванаму на знаёмства з новай нямецкамоўнай драматургіяй тэатралаў Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі, споўнілася 10 год. У 2001-м ён распачаўся ў Маскве серыяй сцэнічных чытак у рамках фестываля "Новы еўрапейскі тэатр". Зборнік п'ес "ШАГ-2" (2005 г.) адзначыўся ў беларускай тэатральнай прасторы паспяховым увасабленнем на малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы п'есы Інгрыд Лаузунд "Бесхрыбетнасць. Вечар для людзей з парушэннямі асанкі", якая ў сцэнічным варыянце займела назву "Офіс" (рэжысёр Кацярына Аверкава). Выхад у свет "ШАГа-3" (2008 г.) паспрыяў правядзенню ў межах мінулагодняга фестывалю "ПАНТОН: беларуска-нямецкія тэатральныя сустрэчы" сцэнічных чытак п'ес "Жыццё на плошчы Рузвельта" Дэа Лоэр (рэжысёр Тацццяна Арцімовіч) і "Брыдкі" Марыуса фон Маенбурга (рэжысёр Аляксандр Марчанка) на пляцоўцы Цэнтра беларускай драматургіі і рэжысуры.

У зборніку "ШАГ-4", які днямі прэзентавалі ў Мінску, прадстаўлены 10 п'ес у перакладзе на рускую мову. Сярод самых знакамітых аўтараў — Дэа Лоэр з п'есай "Злодзеі" (мазаіка з 37 гісторый, што пераўтвараюцца з камедыі ў трагедыю) і Лукас Бэрфус з гісторыяй пра эўтаназію "Падарожжа Алісы ў Швейцарыю". Магчыма, што некаторыя з "электракардыяграм сучаснага грамадства", знятыя драматургамі (так назваў сабраныя ў анталогіі п'есы ў прадмове да яе расійскі тэатральны дзеяч Раман Далжанскі), будуць расшыфраваныя і на беларускай сцэне.

# Вяртанне да класікаў

***Наступны год будзе знакавым для нашай краіны. Менавіта на 2012 год выпадаюць 130-гадовыя юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, чые імёны сталі сімвалам Беларусі. Увага да святочных дат творцаў падтрымана на дзяржаўным узроўні. Сведчаннем таму — з'яўленне указа № 487 "Аб мерапрыемствах, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа", падпісанага Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Гэтым дакументам зацверджаны склад рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта па правядзенні ўрачыстых мерапрыемстваў. Узначаліў яго намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоль Тозік. У склад аргкамітэта ўвайшлі прадстаўнікі Савета Міністраў, міністэрстваў культуры, інфармацыі, юстыцыі, замежных спраў, фінансаў, Нацыянальнай акадэміі навук, гар-, рай- і аблвыканкамаў, дырэктары музеяў класікаў і іншыя паважаныя асобы. План урачыстых мерапрыемстваў складаецца з некалькіх пунктаў, але ахоплівае ўсе напрамкі дзейнасці — ад перавыдання твораў класікаў да добраўпарадкавання тэрыторый гісторыка-культурных аб'ектаў, звязаных з іх жыццём і творчасцю. Пракаменціраваць гэту падзею мы папрасілі начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Шавялёва і начальніка ўпраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алену Паўлаву.***

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Алена Паўлава:**

— Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа выдаўцы прапанавалі шэраг цікавых праектаў. Гэта выпуск кнігі М. Мушынскага "Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа" і завяршэнне выдання збору твораў Якуба Коласа ў 20 тамах ("Выдавецкі дом «Беларуская навука»"), падрыхтоўка і выпуск зборніка архіўных матэрыялаў "Купала і Колас, вы нас гадавалі", кнігі-альбома "Якуб Колас у выяўленчым мастацтве" (РВУ "Літаратура і Мастацтва"), фотаальбома "Мясцінамі Янкі Купалы" ("Беларусь"). Плануецца выпусціць шэраг твораў класікаў у серыі "Школьная бібліятэка". Выдавецтва "Мастацкая літаратура" прапанавала ажыццявіць факсімільныя выданні Янкі Купалы "Шляхам жыцця" і Якуба Коласа "Сымон-музыка", у серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" рыхтуюцца кнігі, прысвечаныя песнярам. Хочацца адзначыць адказны падыход калектываў выдавецтваў да юбілеяў нашых класікаў — асоб сусветнага маштабу: кнігі рыхтаваліся імі нашмат раней, і не проста перавыдадзены.

Усе гэтыя прапановы будуць разглядацца Экспертным саветам па фарміраванні плана выпуску сацыяльна значнай літаратуры ў 2012 годзе. Праекты, якія ўвойдуць у дзяржзаказ, будуць часткова фінансавацца дзяржавай.



Канечне, актыўна падтрымаем і іншыя мерапрыемствы — не чакае шмат цікавых тэлепраграм, радыёперадач і да т. п. Дзень беларускага пісьменства будзе адзначаны буйной экспазіцыяй твораў вядомых пісьменнікаў.

**Уладзімір Шавялёў:**

— Нягледзячы на тое, што план мерапрыемстваў да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа ўключае ўсяго пяць пунктаў, ён усеабдымны. У ім закладзена думка пра тое, што святкаваць павінна ўся рэспубліка, прычым пры падрыхтоўцы належыць зрабіць так, каб пра юбілейную дату даведаліся далёка за межамі нашай краіны, і не апошнюю ролю ў гэтым павінны адыграць урачыстыя мерапрыемствы, якія будуць праводзіцца нашымі дыпламатычнымі ўстановамі, этнічнымі беларусамі, якія жывуць за мяжой.

Будзем рабіць так, каб гэтыя даты былі адзначаны не толькі на рэспубліканскім узроўні. Наша мэта — каб святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя песнярам, прайшлі ў кожнай школе, у кожным класе.

Гэты год — год 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча — Міністэрства прапанавала праводзіць пад дэвізам "Давайце чытаць Багдановіча разам". Дык вось, давайце ў гэтым і ў наступным годзе вернемся да нашых класікаў. Давайце будзем чытаць Янку Купалу, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Максіма Танка, давайце ўвогуле чытаць менавіта нашу, беларускую, родную літаратуру. А яшчэ цудоўней было б, каб мы чыталі яе на роднай мове. Таму спадзяёмся, што работнікі культуры, усе, хто будзе мець дачыненне да святкавання 130-годдзя з дня нараджэння Коласа і Купалы, паставяцца да сваіх абавязкаў з разуменнем і з душой: каб мерапрыемствы прайшлі не дзеля "птушачкі", а закранулі пэўную струну ў чалавечай душы.

Спадзяёмся, юбілейным датам вялікая ўвага будзе нададзена пры правядзенні Дня беларускага пісьменства, які ў наступным годзе пройдзе на Віцебшчыне, у Глыбокім.

І зноў жа падкрэслю: добра было б, каб бацькі разам з дзецьмі пабывалі на Стаўбцоўшчыне, прайшлі сцежкамі дзядзькі Якуба, наведалі Вязынку. Было б нядрэнна, каб кожны з нас знайшоў час і пацікавіўся экспазіцыямі літаратурных музеяў Якуба Коласа і Янкі Купалы, прыгадаў, што з гэтых песняроў пачалася наша літаратурная беларуская мова.

***На здымку: З. Паўлоўскі "Янка Купала і Якуб Колас гуляюць у шахматы" (1945, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы).***

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● З 27 снежня па 5 студзеня ў мінскім Палацы мастацтва будзе ладзіцца выстаўка дзіцячай літаратуры "Кніжкі ў штанішках". У якасці яе арганізатара выступіць прадпрыемства "Экспафорум". Экспазіцыю складуць кніжныя навінкі выдавецтваў, перыядычныя выданні, экспанентамі таксама стануць бібліятэкі, пісьменніцкія аб'яднанні і іншыя. Праграма выстаўкі ўключае шэраг мерапрыемстваў, скіраваных на павелічэнне зацікаўленасці дзяцей і бацькоў у чытанні кніг, — семінары, "круглыя сталы", майстар-класы, гульні, конкурсы, дабрачынныя акцыі, прэзентацыі. У імпрэзах возьмуць удзел педагогі, дзіцячыя псіхолагі, пісьменнікі, артысты.

▬ Аўтацэнтр "Атлант-М Баравая" Ford адкрые першую ў Беларусі аўтабібліятэку. Новы праект дазволіць кліентам цэнтра і ўладальнікам аўтамабіляў маркі Ford самастойна абменьвацца літаратурай і сфарміраваць унікальны бібліятэчны фонд. У аснову праекта па стварэнні бібліятэкі будзе пакладзена схема буккросінгу, свабоднага кругазвароту кніг. У інтэрпрэтацыі кампаніі ідэя атрымае новае развіццё і стане пачатковай кропкай рэалізацыі яе сацыяльнай праграмы.

● У Гродне распачаты выпуск серыі невялікіх кніг пра горад "НгоnоГродно". Іх тэматыка прысвечана перш за ўсё забытым старонкам гісторыі Гродна і Гродзеншчыны. Гэта кнігі пра культуру, адукацыю і спорт, страчаную і яшчэ існуючую архітэктуру, вольны час і побыт горада і гараджан, важнейшыя гістарычныя падзеі. У напісанні і падрыхтоўцы выданняў бяруць удзел лепшыя гродзенскія гісторыкі і краязнаўцы. Першая кніга праекта "НгоnоГродно" прысвечана зараджэнню, станаўленню і развіццю ў Гродне галоўных культурных складнікаў грамадскага жыцця горада: тэатру лялек, кінатэатрам і цырку. Яе аўтарамі сталі краязнаўцы Віктар Саяпін і Таццяна Касатая. У выданні ўпершыню публікуюцца ўнікальныя архіўныя, графічныя і фатаграфічныя матэрыялы па тэме.

▬ Самая тоўстая ў свеце кніга аб'ёмам у 23 675 старонак хутка выйдзе ў свет у Даніі. Гэты том выпускаецца касай па страхаванні ад беспрацоўя "Min A-kasse". Са старонак кнігі чытач даведаецца пра ўсе нормы і правілы, згодна з якімі ў Даніі расходуюцца фонды дапамогі грамадзянам краіны, што страцілі працу. Выдавец самай аб'ёмнай кнігі разлічвае трапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса.

● Пабачыў свет новы раман караля містычнага жанру Стывена Кінга. Гэтым разам аўтар вяртае свайго героя, а разам з ім і чытачоў, у 1960-я гады. У аснове сюжэта — гісторыя пра тое, як сучасны амерыканскі настаўнік са штата Мэн трапляе ў мінулае і імкнецца прадухіліць адно з самых гучных злачынстваў — забойства прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі. Дата трагедыі ў амерыканскай версіі напісання — "11/22/63" — стала назвай кнігі. Аўтар задаецца пытаннем, як змяніўся б свет, калі б 22 лістапада 1963 года не прагрымелі тры лёсавызначальныя стрэлы. Чакаецца, што новы раман стане асновай сцэнарыя фільма.

▬ У ЗША пабачыла свет першая афіцыйная біяграфія Курта Вонегута. Кнігу *And So It Goes: Kurt Vonnegut: A Life* пра жыццё і творчасць пісьменніка напісаў Чарлз Шылдс. Напісаць біяграфію Вонегута аўтар задумаў яшчэ пры жыцці пісьменніка — у 2006 годзе. На ліст з такой прапановай Вонегут спачатку адказаў адмовай, аднак Шылдс здолеў прадэманстраваць яму, наколькі ён захоплены абранай тэмай і наколькі сур'ёзна да яе падыходзіць. Так, увесь 2007 год Шылдс размаўляў з Вонегутам і атрымаў доступ да яго архіва. Памёр Вонегут у тым жа 2007 годзе.

# Восеньскі падлік

Вольга НОРЫНА

**У гэтым годзе стартаваў вялікі праект выдання дваццаціпяцітомнага Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, на які аб'яўлена падпіска. Наколькі актыўна адгукнуліся беларускія чытачы на прапанову падтрымаць унікальнае выданне?**

Як паведаміў галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп, за верасень пералічылі грошы на падпіску пятнаццаць жыхароў рэспублікі і прыслалі гарантыйныя лісты 36 бібліятэк краіны (некаторыя замовілі ад 2 да 15 экзэмпляраў, Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. Куляшова — 4 экзэмпляры). На сённяшні дзень гарантавана аплата 300 экзэмпляраў.

Мы разаслалі падпісныя лісты па бібліятэках краіны, кнігарнях, размясцілі рэкламу ў Інтэрнэце і амаль ва ўсіх газетах, я паведаміў пра яе ў сваім блогу, укладальнік выдання Анатоль Верабей разаслаў сотню ліст па навучальных установах краіны. Рэклама ўпрыгожвае і апошнія старонкі многіх выданняў "Мастацкай літаратуры". Нават у адзінаццаціпавярховым будынку, дзе месціцца наша выдавецтва, на ўваходзе наведвальнікаў сустракае абвестка пра шматтомнае выданне Караткевіча. У выніку прымаем шмат званкоў. Людзей цікавіць тэрмін, на які запланаваны выхад серыі. Не стамляемся даводзіць кожнаму, што такое ўкладанне грошай — справа пачэсная. У спадчыну нашчадкам — дзецям і ўнукам — пакінуць Караткевічавы кнігі будзе не сорамна. І ў 2050 годзе, і надалей творы Уладзіміра Сямёнавіча будуць актуальнымі.

Колькі б ні было падпісчыкаў, ад сваіх планаў мы не адмовімся! Зразумела, першы том (плануем выдаць яго тыражом дзве тысячы экзэмпляраў) з'явіцца і ў вольным продажы. Але на палічкі кніжных крам трапіць экзэмпляраў 50 — 100 (для тых, хто прымае канчатковае рашэнне, патрымаўшы ў руках кнігу). І пасля таго, як людзі набудуць гэтую кнігу, думаю, колькасць падпісчыкаў на выданне ўзрасце.

Падтрымаць праект можа кожны: трэба да 1 снежня 2011 года ўнесці аплату за першы (46800 руб.) і апошні (58400 руб.) тамы ў аддзяленні паштовай сувязі і накіраваць у выдавецтва ліст з паведамленнем пра аплату. Інфармацыя пра выхад наступнага тома, кошт і тэрмін аплаты будзе змешчана ў выдадзеным томе. Пералік грошай па наступных рэквізітах: УП "Мастацкая літаратура", 220004 г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, р/р 3012001483810, аддзяленне № 538 у г. Мінску ААТ "Белінвестбанк", БІК 153001739, УНП 100055406 ОКПО 02477775 з паметай "Падпіска на творы Караткевіча". Даведкі пра праект можна атрымаць у выдавецтве па тэлефонах: 203-83-63; 226-66-16.

# Кто развязал Вторую мировую?

Денис МАРТИНОВИЧ

**Личность и произведения Виктора Суворова являются, пожалуй, одними из самых неоднозначных в современной исторической науке. Автор оригинальной концепции роли СССР во Второй мировой войне, для одних он является псевдоучёным и фальсификатором, для других — исследователем, открывшим правду. Читатели "Кніжнага свету" могут составить собственное мнение на основе книг В. Суворова, которые вышли в ООО "Харвест".**

## Резун, ставший Суворовым

Среди учёных и журналистов, которые занимаются биографиями известных людей, есть традиция искать истоки их взглядов, концепций и идей в детском и юношеском возрасте. Но в нашем случае такой подход вряд ли принесёт ощутимые результаты. Уроженец Приморского края, Владимир Резун (это его настоящие имя и фамилия) закончил Калининское суворовское училище, служил на различных постах в армии, в 1968 году участвовал во вводе советских войск в Чехословакию. После учёбы в Военно-дипломатической академии был направлен в Женеву для работы в местной резидентуре Главного разведывательного управления.



В 1978-м английская разведка, с которой Резун установил сотрудничество, вывезла его с семьей в Великобританию. Причина такого поступка до сих пор не ясна. Противники Резуна говорят о банальном предательстве. Сторонники верят его версии о том, что это был вынужденный шаг: нашего героя якобы хотели сделать крайним за провалы в резидентуре. Но как бы ни было, с того времени Владимир Резун живёт в Англии. Возвращаться не собирается: согласно его сведениям, в СССР он был заочно приговорён к смертной казни. Но кроме страны проживания Резун сменил ещё и фамилию с именем и стал Виктором Суворовым. Банальная конспирация? Ответ подскажут произведения нашего героя.

Спустя три года после приезда в Англию Резун решил заняться писательской деятельностью. Издатель, к которому он обратился, порекомендовал Резуну использовать в качестве псевдонима русскую фамилию, которая состояла бы из трёх слогов и вызывала "военные ассоциации" у западного читателя. Так Резун превратился в Суворова. Именно под этой фамилией были изданы книги, в буквальном смысле слова перевернувшие представления читателей о Второй мировой войне.

## Концепция Суворова

Перу Виктора Суворова принадлежит значительное количество книг, кстати, переведённых на 20 языков мира.

Чтобы облегчить читателю знакомство с изданиями, сгруппируем их. Пенталогия "Ледокол" включает в себя книги "Ледокол", "День «М»", "Последняя республика", "Очищение" и "Самоубийство". Трилогия "Последняя республика" состоит из одноимённой книги, "Святого дела" и "Разгрома". В трилогию входят "Тень Победы" и "Беру свои слова обратно" (третья часть ещё не вышла). Отдельно можно назвать роман "Выбор". И все они внутренне взаимосвязаны, что позволяет говорить о концепции Виктора Суворова. В чём же она заключается?

Согласно В. Суворову, главной причиной Второй мировой войны являлась агрессивная политика Иосифа Сталина, направленная на расширение социалистического лагеря на европейском континенте вплоть до мировой социалистической революции. Для этого вождь СССР сознательно содействовал усилению могущества Германии и смотрел сквозь пальцы на её захваты в Европе. По мнению Суворова, общеевропейская война, развязанная Гитлером, должна была ослабить континент. Именно поэтому фюрер выступал в качестве "ледокола" революции (отсюда и название первой книги). После этого Сталин якобы намеревался напасть на Гитлера и под лозунгом "освобождения Европы" фактически оккупировать её, установив в ряде стран марионеточные правительства.

По мнению автора, Красная армия в 1941 году готовилась напасть на Германию (вероятная дата нападения — 6 июля). Именно поэтому немецкая армия, чья подготовка не была доведена до конца, напала на СССР 22 июня, осуществляя превентивный удар. Катастрофические поражения СССР в 1941-м



объясняются тем, что Сталин готовился не к оборонительной, а к наступательной войне. Как утверждает В. Суворов, репрессии 1930-х годов в армии следует рассматривать именно с ракурса подготовки к войне. Якобы количество жертв было сильно преувеличено. Кроме того, они не оказали влияния на боевые возможности Красной армии.

Среди частных концепций Виктора Суворова необходимо выделить его отношение к маршалу Жукову. В книгах "Тень Победы" и "Беру свои слова обратно" утверждается, что Георгий Константинович являлся весьма посредственным полководцем. А решающий вклад в победу внесли совсем другие люди (сам Сталин, маршал Василевский и другие).

## Аргументы и факты

Какие же аргументы выдвинул Виктор Суворов в защиту своей концепции? Исследователь обратил внимание, что к лету 1941 года на советско-германской границе скопилось огромное количество советских войск и техники, там же находились запасы обмундирования. По его мнению, все они готовились к нападению. Сталин активно поддерживал разработку техники, предназначенной для нападения, и блокировал разработку оружия для обороны.



В августе 1939 года началась скрытая мобилизация. В сентябре того же года был принят закон о всеобщей воинской обязанности, который снизил призывной возраст с 21 до 19 лет (для некоторых категорий и до 18 лет). Поскольку срок службы составлял 2 года, в сентябре 1941 года Красную армию ждало бы резкое сокращение состава. Соответственно, было необходимо начать военные действия до этого времени.

Кроме того, Суворов проводит интересную параллель. 29 августа 1939 года вышло постановление Политбюро о призыве в армию 4 тысяч коммунистов-политработников, а через 19 дней СССР вступил в войну против Польши. 17 июня 1941 года вышло постановление Политбюро о призыве 3,7 тысячи коммунистов. Поэтому Суворов делает вывод о том, что нападение на Германию могло начаться 6 июля 1941 года.

## Pro et contra

Произведения Виктора Суворова быстро завоевали популярность среди читателей. Лёгкий, понятный стиль, отсутствие научной терминологии, а также убедительность, которая достигалась опорой на открытые источники информации, содействовали огромным тиражам книг автора. Разумеется, нашлись те, кто не принял рассматриваемую нами концепцию исходя из личности её автора. Однако в свете дальнейших перспектив наиболее важной являлась реакция профессиональных историков. А тут единства не наблюдалось и близко.



С одной стороны, ряд специалистов по военной истории выступил с поддержкой всей концепции Суворова или её отдельных положений, отмечая смелость автора, неординарность его мышления. Даже отдельные критики были вынуждены признать, что Суворов очертил круг проблем, наименее разработанных в исторической науке. С другой стороны, оппоненты обвиняли его в слабом использовании документальной базы, искажении фактов, тенденциозном цитировании и произвольной трактовке событий.

Пожалуй, кто-то из читателей может спросить об отношении автора этих строк к Виктору Суворову и его концепции. Что касается проблемы правдивости или ложности теории, то, как ни банально это звучит, свой вердикт должны вынести специалисты, которые профессионально занимаются историей Второй мировой войны. Но у меня нет сомнений в том, что сам Виктор Суворов принёс обществу огромную пользу. Для его сторонников эту мысль объяснять нет необходимости. Что касается противников, то вряд ли кто-нибудь будет спорить с тем, что идеи Суворова способствовали невиданному всплеску интереса к событиям прошлого. Согласитесь, это тоже немало.

# «Terra incognita»



Данила АРТИМОВИЧ

Дайджест публикаций по белорусской истории "Деды", издаваемый с 2009 года в серии "Неизвестная Беларусь", уже успел занять свою нишу в белорусской исторической литературе. Подавляющее большинство исследований по истории Беларуси выходит на белорусском языке. Однако не всё население пользуется им достаточно свободно. Да и научный стиль ряда работ далеко не всегда содействует распространению монографий среди массового читателя. Стремясь избежать этих сложностей, бессменный составитель дайджеста Анатолий Тарас разработал собственную концепцию издания. Во-первых, его дайджест включает публикации на русском языке, часть которых переведена с белорусского. Во-вторых, составитель редактирует материалы с целью их некоторого упрощения и лучшего понимания.

Недавно А. Тарас представил на суд читателей седьмой выпуск "Дедов". Общей темой 15 статей стали события Великой Отечественной войны, а также послевоенное антикоммунистическое сопротивление на территории БССР. Публикуемые материалы сгруппированы в трёх тематических разделах.

Первый, "Под красным флагом со звездой", представляет события с советского ракурса. Интерес читателей несомненно вызовут статьи "Дивизия имени Кастуся Калиновского", «Мы за ценой не постоим»: об операции «Багратион»", а также ряд других. Во втором разделе, "Под красным флагом со свастикой", акцент смещается на события, происходившие на оккупированной территории Беларуси. Третий раздел, "Жестокое время...", посвящён трагическим взаимоотношениям между белорусским и польским национальными движениями, немецкой и советской властью, которые разыгрывали в своих комбинациях "белорусскую карту".

*Прэзентацыя*

# Чалавецтва: місія выканана?

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



Адразу папярэдзім, што ў якасці пляжнага ці аўтобуснага чытва гэты твор не падыходзіць, хаця ўменне аўтара вытрымліваць напружанне сюжэта ўсім вядома. Новы раман Сяргея Трахімёнка "Чаша Петры, ці Руская цывілізацыя: генезіс і праблемы выжывання", што ўбачыў свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", патрабуе ўвагі і засяроджанасці.

Месца дзеяння — Заходняя Еўропа, Расія, планета Зямля, час дзеяння — неабмежаваны. Героям наканавана павандраваць у мінулым і зазірнуць у будучае. Намацванне далейшага шляху чалавецтва — навуковыя даследаванні, у якія ўкладаюць грошы еўрапейскія магнаты, пошукі новай ідэалогіі, вечныя спробы асэнсавання жыцця і смерці, наканавання, адказнасці за свае ўчынкі, ролі асобы ў гісторыі — пададзены ў "абгортцы" то дэтэктыўнай інтрыгі, то падарожжа. Дасведчаны чытач прыгадае і Герберта Уэлса, і Джонатана Свіфта, і спрэчкі заходнікаў са славянафіламі: адлюстраванне аўтарам жарсцей сучаснага свету — доказ, што чалавецтва за час свайго існавання не вельмі змянілася.

Хаця Сяргей Аляксандравіч на гэты конт заўважае: "Не погляды заходнікаў і славянафілаў, хутчэй ідэя малога, якое канкурыруе з вялікім. Гуманітарныя веды ў крызісе. Патрэбна адшукаць выйсце з яго, а дзеля гэтага неабходна дакладна апісваць рэчаіснасць. Ні логіка, ні навуковая метадалогія гэтага не дазваляюць. Таму што ў іх пакладзена логіка Арыстоцеля і закон выключанага трэцяга. Згодна з ім з двух супрацьлеглых меркаванняў адно заўсёды памылковае. На самай справе гэта характэрна толькі для тэхнічнага віда руху. Тэхнакратычная цывілізацыя — гэта там спрацоўвае. Прыгадаем прытчу пра кола, у якой быць суддзёй запрасілі Хаджу Насрэдзіна. Судзіліся каротнік, што зрабіў кола, і гаспадар, у якога яно занадта хутка рассыпалася. "Праўда на тваім баку", — сказаў Хаджа, выслухаўшы гаспадара. Але выслухаўшы довады майстра, што гаспадар выпрабоўваў кола ў гарах, дзе на карэтах не ездзяць, прызнаў, што праўда на яго баку. Калі ж сведка зрабіў заўвагу: "Хаджа, абодва не могуць быць правы", адказ быў той жа самы. Тыповы варыянт нелагічнага з пункту гледжання тэхнакратычнай, ці фармальнай, логікі паводзін, але менавіта ён найбольш адэкватны развіццю сітуацыі. Сто гадоў таму фізікі прыйшлі да высновы, што галоўная ўласцівасць матэрыі — гэта нелінейнасць, а мы дасюль на яе абапіраемся. Гістарыяграфію апісваем лінейна. І гэтыя неадэкватныя адзнакі прыводзяць да таго, што мы прымаем неадэкватныя рашэнні, у сувязі з чым узнікае пытанне — каго пажадае бачыць на шахматнай дошцы Дэміург, калі чалавецтва не выканае сваю задачу?"

Ды ці існуе ўвогуле шанс для чалавецтва? Хаця экскурсы ў будучыню ў рамане досыць схематычныя ў параўнанні з насычанымі дэталямі падарожжамі ў мінулае, аўтар не дае чытачу магчымасці адкласці кнігу і забыцца пра цывілізацыю пацукоў з небам без зор, бо большасць пацукоў не жадае іх бачыць. "А ў тваёй цывілізацыі ці мала было тых, хто нічога не хацеў ведаць апрача гарэлкі?" — у якасці контраргумента пытаецца адзін з іх у галоўнага героя.

І калі чытач ужо даверыўся аўтару і прыняў за аксіёму яго гіпотэзу, што чалавецтва заменяць пацукі, літаральна двума абзацамі пазначана: я прыгадваю трактат аднаго з пацыентаў дома для вар'ятаў, які пераканаўча выкладаў, што наступнымі гаспадарамі Зямлі стануць… павукі.

Сяргей Трахімёнак застаецца верным сабе — у канцы рамана ён пакідае чытача на раздарожжы. Той абсалютна разгублены: ці адбыліся падзеі насамрэч, ці прымроіліся чалавеку, які вырашыў памерці ў палатцы на беразе ляснога возера… Адказ на пытанне, ці выканана місія чалавецтва, давядзецца шукаць самастойна.

**На першы погляд, у айчыннай гісторыі няма больш даследаванага перыяду, чым Вялікая Айчынная вайна. Але толькі цяпер беларусы адкрываюць для сябе погляд сучасных нямецкіх даследчыкаў. Якія кнігі пра вайну выходзяць у Германіі? Якія даследаванні чакаюць свайго перакладу на беларускую мову? Пра гэта чытачам "Кніжнага свету" расказвае вядучы беларускі германіст Сяргей Новікаў, загадчык кафедры айчыннай гісторыі і сусветнай культуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.**



# Вялікая Айчынная вайна. Погляд з Германіі

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

**— Сяргей Яўгенавіч, ужо амаль дзесяць гадоў у Мінску праводзяцца штогадовыя канферэнцыі "Беларусь — Германія". Якія нямецкія даследчыкі бяруць у іх удзел? Якія тэмы іх даследаванняў могуць быць цікавымі беларускаму чытачу?**

— Сярод нямецкіх даследчыкаў магу назваць Фелікса Акермана (Франкфурт-на-Одэры), Крысціяну Ботцэт (Фрайбург), Аляксандра Бракеля (Берлін), Крысціяна Герлаха (Берлін), Паўля Коля (Берлін), Бернарда К'яры (Патсдам), Петэра Ліба (Мюнхен), Петру Рэнтрап (Берлін), Таню Пентэр (Бохум), Дытэра Поля (Мюнхен). На жаль, большая частка іх прац не перакладзена на беларускую мову, таму застаецца маладаступнай айчыннаму чытачу. Шчаслівым выключэннем стала з'яўленне на беларускай мове кнігі Б. К'яры "Штодзённасць за лініяй фронту. Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі 1941 — 1944 гг.". Прычым гэта ўжо яе другое выданне. Першае выйшла яшчэ ў 2005 годзе і прэзентавалася ў Мінску з удзелам аўтара.

**— Якім жа чынам прадставіць нямецкіх аўтараў у Беларусі?**

— Напрамкаў працы некалькі. Папершае, неабходна ўлічваць існаванне прафесіяналаў, якія свабодна карыстаюцца нямецкай мовай. Ім патрэбны хутчэй не пераклад, а знаёмства з новай літаратурай. Таму актыўна выступаю з рэцэнзіямі ў "Беларускім гістарычным часопісе", "Беларускім гістарычным аглядзе" і іншых выданнях. За апошнія гады быў прааналізаваны шэраг манаграфій. Толькі ў мінулым годзе гэта былі кнігі Б. Квінкерт "Прапаганда і тэрор у Беларусі 1941 — 1944. Нямецкае "ментальнае" вядзенне вайны супраць насельніцтва і партызан", Б. Мусяла "Савецкія партызаны ў 1941 — 1944 гг.: міфы і рэчаіснасць" і А. Бракеля "Пад чырвонай зоркай і свастыкай: Баранавічы ў 1939 — 1944 гг. Заходняя Беларусь пад савецкай і германскай акупацыяй". Заўважу, усе кнігі выйшлі ў 2009 годзе, таму з'яўляюцца найноўшымі даследаваннямі. Цяпер на маім працоўным стале знаходзіцца 9-томнае выданне "Месца тэрору. Гісторыя нацысцкіх канцэнтрацыйных лагераў", у якім разглядаецца і ваенная Беларусь. Упэўнены, усе яны заслугоўваюць перакладу на беларускую мову.

**— Як ажыццяўляецца праца ў гэтым кірунку?**

— Для нас вельмі істотным з'яўляецца кантакт з берлінскім даследчыкам Паўлем Колем, аўтарам кніг пра ваенныя падзеі ў акупаваным Мінску і на тэрыторыі Беларусі. У 2007-м выйшаў пераклад на беларускую мову яго працы "Найлепшыя прывітанні з Мінска", падрыхтаваны з удзелам выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта на чале з Сяргеем Паўлавіцкім. Пры ўдзеле выкладчыкаў універсітэта адбылося выданне на рускай мове пратакола нарады гебітскамісараў генеральнай акругі "Беларусь", якая прайшла 8 — 10 красавіка 1943 года ў Мінску. Але калі апошняя праца была адразу прыкмечана гісторыкамі і амаль маланкава ператварылася ў бібліяграфічную рэдкасць, дык першая вельмі доўга ішла да беларускага чытача.

**— Нямецкі бок якое месца займае ў сумеснай працы?**

— Роля Германіі сапраўды значная. Праца беларускіх даследчыкаў у гэтай краіне ажыццяўляецца дзякуючы кантактам з супрацоўнікамі мясцовых універсітэтаў, інстытутаў, музеяў і архіваў. Да ліку такіх устаноў можна аднесці перш-наперш Цэнтр ваенна-гістарычных даследаванняў (Патсдам), вядомы праз выданне 11-томнай серыі "Германскі рэйх і Другая сусветная вайна", Інстытут сучаснай гісторыі (Мюнхен), Інстытут сацыяльных даследаванняў (Гамбург), Цэнтр па даследаванні антысемітызму пры Берлінскім тэхнічным універсітэце (Берлін), Цэнтр па даследаванні сучаснай гісторыі (Патсдам), Федэральны ваенны архіў (Фрайбург). Падчас навуковых стажыровак мне давялося папрацаваць з фондамі дакументаў і нямецкай навуковай літаратуры ў названых установах, а таксама ў Федэральным і зямельным архівах у Кобленцы, Бундэсархіве ў Берліне.

Напрыклад, наведванне Інстытута сучаснай гісторыі ў Мюнхене дало магчымасць упершыню выявіць унікальныя дакументы — дзённікавыя запісы берлінскіх яўрэяў М. Крон і Б. Руднера пра знаходжанне ў мінскім гета, а таксама выніковую справаздачу па дзейнасці "Эканамічнага штаба Ост" на акупаванай савецкай тэрыторыі, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі ў 1941 — 1943 гадах. Нямецкія дакументы, несумненна, патрабуюць крытычнага падыходу і навуковай верыфікацыі. Але без іх выкарыстання ў гісторыі Беларусі часоў Вялікай Айчыннай вайны яшчэ доўгі час будуць заставацца асобныя "белыя плямы".

**— Якія перспектывы акрэсліваюцца ў бліжэйшы час у галіне вашых даследаванняў?**

— Сёння стала відавочным, што даследаванне некаторых пытанняў перыяду вайны ў Беларусі практычна немагчыма без выкарыстання нямецкіх архіўных крыніц і навуковых прац. Прыемна, што гэта ўсведамляецца дзяржавай. Так, супрацоўнікі кафедры айчыннай гісторыі і сусветнай культуры МДЛУ ўдзельнічалі ў выкананні Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006 — 2010 гады "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці, нацыі і культуры". У яе рамках пад маім кіраўніцтвам даследавалася тэма "Гісторыя Беларусі перыяду Другой сусветнай вайны ў замежнай гістарыяграфіі". Значнае месца пры гэтым было адведзена вывучэнню германскай ваеннай беларусістыкі. Будзем спадзявацца, што даследаванне гэтай тэмы будзе мець свой працяг.

# Па слядах герояў Алены Васілевіч

Святлана РУСАКОВІЧ

**У аповесці "Новы свет" вачыма дзяўчынкі-сіраты Ганькі Алена Васілевіч апісвае падзеі 1930-х гадоў у старажытным мястэчку Урэчча. "Урэцкія" старонкі падаюцца аўтарам так рэалістычна і пранікнёна, што чытачу здаецца, нібы ён сам жыве сярод герояў аповесці. Але мне за вобразамі твора бачацца іншыя постаці — іх прататыпы.**

Асобнае месца ў аповесці займае школа — Урэцкая ўзорная. З псіхалагічнай глыбінёй аўтар малюе вобразы настаўнікаў. Самы любімы Ганьчын — выкладчык рускай мовы і літаратуры Ісак Майсеевіч. У пасляваенны час у бацькоўскім доме я бачыла паштоўкі ад настаўніка з Бабруйска Ісака Фрыдмана. Запыт у аддзел адукацыі Бабруйскага райвыканкама пацвердзіў здагадкі: так, Фрыдман сапраўды працаваў ва Урэччы ў 1930-я гады. Цікавая знаходка!

Дырэктар Канстанцін Фёдаравіч — актывіст, патрыёт Радзімы. Паводле ўспамінаў сведкаў, такім быў першы дырэктар узорнай школы К. Ф. Коршук. Пасля вайны ён працаваў у Мінску ў кіруючых органах педагогікі, я знайшла яго прозвішча ў спісах заслужаных настаўнікаў БССР. Калі ж была зусім маленькай, Коршук прыязджаў у наш бацькоўскі дом. У вобразе настаўніцы Раісы Антонаўны пазнаю сваю маці Аляксандру Антонаўну. Яна трапіла ва Урэчча ў межах кампаніі "Далоў непісьменнасць". Раіса Антонаўна, напэўна, не выкладала ў Ганьчыным класе, але ж дзяўчынка прыкмеціла яе. А вось бягуць па школьным двары дочкі Раісы Антонаўны блізняты Лара і Лора, прататыпы якіх — хутчэй за ўсё мае старэйшыя сёстры. Яны не былі блізнятамі, мелі невялікую розніцу ва ўзросце. На старым урэцкім фотаздымку стаяць абняўшыся, амаль роўныя, аднолькава падстрыжаныя, у аднолькавых касцюмах.

У "Новым свеце" паўстае і трагічны вобраз "урэцкай Рывы" — ахвяры людскога неразумення. На жаль, рэшткі кепскіх паводзін хлапчукоў, што дражнілі няшчасную Рыву, не сцёрліся ў грамадстве праз многія дзесяцігоддзі і сустракаюцца сёння.

З Аленай Васілевіч я бачылася толькі аднойчы, калі ёй было ўжо за 70. Пісьменніца ўважліва адносілася да людзей, з падзякай успаміна школьныя ўрокі мовы і літаратуры, якія сталі падмуркам яе творчай працы. У мінулым годзе яе аповесць "Новы свет" адзначыла сваё 40-годдзе. Твор выходзіў асобнай кніжкай і як частка рамана "Пачакай, затрымайся...", за які А. Васілевіч атрымала Дзяржаўную прэмію БССР.

## Мастак і кніга

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Першыя крокі



### Піцер, Мінск і «экспертны савет»

Дана Рунова нарадзілася ў Піцеры. А яе мама адсюль, з Беларусі. І сэрца ўвесь час клікала яе дадому. Таму сям'я пераехала ў Мінск. Дана падобная да мамы — яе вабіць далёкі Санкт-Пецярбург. Не выключана, што калі-небудзь яна туды вернецца. Бо лёгкасць да перамены месцаў у яе — ад таты, дальнабойшчыка. Як, дарэчы, і талент маляваць. Менавіта бацька займаўся з маленькай Данай, паказваў ёй сакрэты ліній на лісце паперы, прывучаў працаваць з фарбамі, арганізоўваў першыя пленэры.

А пачалося ўсё з таго, што ў пяцігадовым узросце Дана знайшла папку з татавымі школьнымі малюнкамі, пакрытую тлустым слоем пылу. Герої малюнкаў былі розныя, але настолькі гумарыстычна выканаяня і неслі столькі станоўчых эмоцый, што дзяўчынцы адразу ж захацелася навучыцца маляваць, і ў той жа момант прыйшла ўпэўненасць, што яе прафесія будзе звязана з мастацтвам.

Адзначыш, што героі яе малюнкаў вельмі добрыя — усмiхнецца і шчыра прызнаецца, што вельмі любіць дзіцячыя мульцікі савецкіх часоў, а ў іх самыя цудоўныя героі на свеце. Што да тэхнікі — яе Дана набывала, перамалёўваючы з любімых часопісаў "Каламбур", "Один дома".

Галоўныя эксперты, каму давярае свае работы, — чатырнаццацігадовы стрыечны брат і пяцігадовая пляменніца. (Кніжкі, героаў якіх "ажыўляла" Дана, разлічаны прыкладна на такі ўзрост.) І, зразумела, тата з мамай і старэйшы брат — іх меркаванне вельмі важнае. Гэта "экспертная камісія" і прымала котку Пусю, цацкі, вавёрку-гарэзу, ваўкоў і іншых намаляваных істот. Пазней да іх далучыцца і малодшы стрыечны брацік Даны, якому пакуль толькі годзік.

### Пуся і іншыя

"Вельмі люблю маляваць жывёл, — расказвае Дана. — Іх увогуле люблю. Дома ў нас жыве кот". Менавіта назіранне за хатнім любімцам ды фотаздымкі коткі, якія прынесла пачынаючай мастачцы Мая Гарэцкая, дапамаглі "ўхапіць" забаўныя позы, рухі, грымасы Пусі і пакінуць іх на старонках першай аздобленай Данай кніжкі. Яе Пуся глядзіць у акно нібы ў тэлевізар, бачыць у снах рыбак з акварыума, спіць у кошыку, смешна "прычэсваецца", "лечыць" калені сваёй гаспадыні і трапляе ў розныя прыгоды.

З другой кніжкай было трошкі складаней: патрабавалася стылізаванае ўяўленне сабакі і цялушкі, пеўніка і сарокі, зайчыка, папугаяў, пчол і іншых звяркоў і птушак, якія б дапамаглі дзецям добра запомніць урокі кніжкі: "Умей слухаць", "Вучыся выразна чытаць" і да т.п. Тут "экспертны савет" быў вельмі патрабавальны: ніхто не хацеў, каб было занудліва — а каб займальна і цікава.

> *Дана Рунова — студэнтка архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Але ў яе партфоліа ўжо дзве кніжкі, якія ўбачылі свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва", — "Умница Пуся" Маі Гарэцкай і "Азбука культурной речи" Віктара Кудлачова і Ірыны Фамянковай, здадзены малюнкі да трэцяй — "Гарэзы" Васіля Жушмы. Амаль увесь вольны час дзяўчына прысвячае менавіта малюнку. Гэта акалічнасць прыляла аднойчы Дану ў выдавецтва, дзе яе работы ўхвалілі і далі паспрабаваць свае сілы як кніжнаму ілюстратару.*



Трэцяя кніжка зноў парадавала — ў ёй і вавёрка (галоўная гераіня), і ваўкі. Ваўкоў дзяўчына таксама вельмі любіць маляваць, доўга назірала за імі ў заапарку.

Дана прызнаецца, што вельмі любіць коней, умее ездзіць вярхом. Але ў Ратамцы была толькі раз — там строгія правілы кантактаў, забаронена ездзіць дзе захочаш. Таму знайшла сабе каня Кузю ў вёсцы пад Пухавічамі. Характар у Кузі добры. Наведвецца да яго ў госці абавязкова з пачастункам — хлебам.

На пытанне, ці збіраецца працягваць працаваць над кніжкамі, Дана Рунова адказвае, што яшчэ канчаткова не вырашыла, чым будзе займацца. Проста ёй вельмі хацелася аздобіць кніжку і падабаецца маляваць. І алоўкам, і фарбамі, і на камп'ютары. Але калі на камп'ютары яна працуе, як усе, аловак ёй зручней трымаць у левай руцэ. Між іншым, калі ўважліва пагледзець на вокладку "Азбукі…", заўважыш, што дзяўчынка на ёй трымае слухаўку ў левай руцэ, і фея ў кнiжцы — любімая дзявочая гераіня — нясе чароўную палачку са ззяючай зорачкай таксама ў левай. З дапамогай камп'ютара Дана "даводзіць" гатовыя работы: "Калі лічыць у працэнтах, камп'ютарнай працы ў іх усяго каля пяці".

Як бы ні склаўся далейшы лёс Даны — галоўнае, што з яе дапамогай да маленькіх чытачоў прыйшлі добрыя кніжкі, а героі паўплываюць на іх светаўспрыманне. І ў любым выпадку Дана Рунова ўдзячная РВУ "Літаратура і Мастацтва", якая дапамагла здзяйсненню яе запаветнай мары — аздобіць кніжку.

***На здымках: ілюстрацыі Даны Руновай да кніжкі "Гарэза" Васіля Жушмы.***

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Бутэвіч, А.І. Таямніцы Мірскага замка: Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам / Анатоль Бутэвіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 128 с.**

Нашу зямлю калісьці называлі краінай замкаў. Шкада, што прайшоў той слаўны час. Добра, што мы пра яго памятаем, бо згадкі засталіся не толькі ў кнігах і летапісах, але і ў старажытнай архітэктуры. Найперш, гэта цуд беларускай зямлі — Мірскі замак, вакол якога дагэтуль не сціхаюць спрэчкі вучоных і даследчыкаў, узнікаюць новыя версіі, здагадкі, меркаванні. Вось і кніга Анатоля Бутэвіча, апроч таго, што займальна распавядае, інтрыгуе замкавымі таямніцамі, абуджае натуральную цікавасць, дык яшчэ і навучае, бо некаторыя факты ў шырокім ужытку згадваюцца ўпершыню.




**Сынок-з-кулачок: Беларуская народная казка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010. — 22 с.**

Думаецца, ва ўсе часы самым любімым літаратурным жанрам маленькіх чытачоў была, ёсць і будзе казка. Аўтарская ці народная, казка развівае фантазію, але разам з тым і навучае ўзорам паводзін, перадае традыцыйную народную мараль прадстаўнікам новых пакаленняў. Пра сынка-з-кулачок нам расказвалі бабулі і дзядулі, гэтую казку і сёння бацькі чытаюць сваім дзецям.




**Чарняўскі, М.М. Каменны век Беларусі / Міхась Чарняўскі. — Мінск: Тэхналогія, 2011. — 135 с.**

Археалогію лічаць адной з самых рамантычных навук у сістэме гісторыі. Складана з гэтым не пагадзіцца. Шматлікія экспедыцыі ў невядомыя мясціны, цікавыя знаходкі і, натуральна, доўгія вечары са спевамі пад гітару. Але гэта адзін бок. Кніга Міхася Чарняўскага прадставіць зусім іншы складнік археалогіі — навуковы. Па сутнасці, гэта канспект лекцый спецкурсу "Каменны век Беларусі", што чытаецца студэнтам-археолагам. Выданне змяшчае багаты фактычны матэрыял і суправаджае яго шматлікімі ілюстрацыямі. Навуковы складнік дапаможніка ў асноўным апрабаваны ў ранейшых публікацыях розных даследчыкаў, у тым ліку і аўтара. У той жа час спадар Чарняўскі не прэтэндуе на дагматызм уласных высноў: археалагічная навука няспынна развіваецца, таму не будзе дзіўным, калі некаторыя факты і палажэнні гэтага выдання ўжо бліжэйшым часам будуць дапоўнены, удакладнены або нават перагледжаны.




**Пёрл, М. Добро и зло / Майкл Пёрл. — Плезантвилль: No Greater Joy, 2010. — 329 с.**

Біблія ў выглядзе графічнага рамана… Смела, супярэчліва, сучасна. Сам аўтар сцвярджае, што пры стварэнні гэтага праекта перш за ўсё імкнуўся разбурыць стэрэатып пра сумныя і нецікавыя кананічныя біблейскія тэксты. Іх простае выкладанне ў даступнай і прымальнай форме можа дапамагчы прывесці моладзь да арыгінала (пад малюнкамі змешчаны спасылкі на тыя ці іншыя моманты з кніг Біблii). Думаецца, у гэтым ёсць логіка, што пацвярджаецца выпрабаваннем рынкам. Кніга пабачыла свет у розных краінах, здабыла папулярнасць і ў перакладзе на рускую мову.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара:* ***himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# «Заасенены мой радок»




Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

"Віно адзінокіх" — такую назву носіць зборнік лірыкі Міхася Башлакова, што ўбачыў свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў гэтым годзе. Для лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і міжнароднага конкурсу "Сто лепшых кніг свету" гэтая кніга — не шараговая. Яе выданне прымеркавана да юбілею паэта. З вялікай адказнасцю і патрабавальнасцю адбіраў ён лепшае з назапашанага паэтычнага багацця: краявіды родных мясцін, успаміны дзяцінства, партрэты блізкіх людзей. Нібы вытрыманае гадамі віно, яго паэзія дорыць асалоду не толькі пры прачытанні. Дарэчы, чытаць яе хочацца павольна, адкладаючы кнігу пасля кожнага верша, каб тонкі смак застаўся на некаторы час. Заплюшчыць вочы і ўбачыць апетыя М. Башлаковым "бакены ў водсветах зары", "коней на ўскрайку лугоў", "зжаўцелы ліст на цёплай далані", пачуць першыя ноты спеву шпака за акном на світанні, усміхнуцца, гледзячы, як хлапчукі імкнуцца ў неба "з бярозавай арбіты".

Зборнік складаецца з некалькіх раздзелаў, у якія ўваходзяць вершы розных гадоў, што дае магчымасць прасачыць станаўленне паэта. Паступова ў букет яго "віна" закрадаецца нота горычы ад страт блізкіх людзей, "будзе саланець на губах" ад самотнай песні жанчын на ўзлеску, мацнее жаданне адчуць "яблык спелы на далоні" пад срэбны звон Спаса, вярнуцца і пablукаць "па сцяжынках выцвілага лета". Нягледзячы на тое, што "душу заасеніла, занавесіла шэрым дажджом", яна засталася чуйнай да ўсяго, што навокал:

*У тумане на змярканні*
*Светлай музыкай кахання*
*Над ракою вечаровай*
*Адзавецца гэта слова…*

У прадмове да зборніка Юрый Фатнеў расказаў пра лёс паэта і тое, што на працягу доўгіх гадоў з'яўляецца крыніцай яго плённай творчасці, а таксама адзначыў: "«Віно адзінокіх» для тых, хто нарадзіўся паэтам, але па розных прычынах ім не стаў, для тых, хто па-сапраўднаму любіць і цэніць паэзію". Спадзяюся, у гэтай кнізе кожны з вас таксама знойдзе для сябе пранізлівы радок, які захочацца запомніць.

Дэбют


Андрэй Голуб

З Андрэем Голубам мы пазнаёміліся гады тры назад, калі ён, вучань, прынёс у "Маладосць" апавяданне на тэму, як памірае стары чалавек. Практычна ўсе маладыя аўтары пачынаюць такімі апавяданнямі. Я пагаварыў з Андрэем і параіў яму змяніць тэму. На шчасце, ён не паслухаўся. І вось я ўбачыў зусім іншы варыянт апавядання... Якое яно цяпер, меркаваць вам, шаноўныя чытачы.

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# Чалавек

Аляксей Антонавіч — дабрэйшы з людзей! І гэта не толькі мой погляд, пра гэта гавораць усе, з кім Аляксей Антонавіч быў знаёмы. А якія ў яго атрымліваліся аладкі. Ой! Смаката адна, ды і толькі.

Пачнём жа ўсё-такі спачатку. Аляксей Антонавіч працаваў на… Ён быў… Ведаеце, я нават і не помню, кім ён быў і дзе працаваў. Вось задача! Даўно гэта ўжо было. Даўно ён не працуе. Вельмі даўно.

Аляксей Антонавіч нарадзіўся ў вёсцы, вырас там, скончыў школу. Праўда, выдатнікам не быў. Ну што ж ты зробіш, калі хлапчук не любіў вучыцца.

Пасля атрымаў добрую, як сам думаў, спецыяльнасць. Ну гэта, канечне, было ўжо у горадзе. Застаўся там жыць. Потым ажаніўся. Жонка была так… Не вельмі… Трохі крыклівая, трохі гаварлівая, трохі… ну, усяго патрошку. Канечне, былі і добрыя якасці, аднак у агульным, так сказаць, малюнку яны ігралі ролю нявялічкіх штрышкоў, якія мала хто заўважаў на такой вялікай і неабсяжнай карціне сямейнага жыцця.

Дзеці... Іх было трое. Розніліся яны неяк дзіўна. Сын удаўся ў маці, ну, бог з ім. А дзве дачкі — у бацьку. Копіі. Не тое каб знешне, а вось унутрана — так. Вылітыя Аляксеі Антонавічы. І розумам, і характарам удаліся, і да працы здатныя, ну, карацей, добрыя выйшлі, у бацьку.

Вернемся ж яшчэ раз да жонкі Аляксея Антонавіча. Пражыўшы з мужам пятнаццаць гадоў, яна (невядома, што яе ўкусіла) забрала ўжо вялікіх дзяцей і кудысьці знікла. Канечне, дзеці — лепш сказаць, дочкі — потым пісалі бацьку. Пісалі, што жывуць у іншым горадзе, недалёка ад горада Аляксея Антонавіча. Што ў іх "новы тата". Ну гэта так, да слова, вялікім дзецям ён жа ўжо не патрэбен. Але ж усё адно... Пісалі, што ўсё ў іх добра, вучацца. Яшчэ — што сын Аляксея Антонавіча ўладкаваўся на завод рабочым ды потым і знік недзе. Праўда, бачылі яго неяк у іншым горадзе ў кампаніі, дзе ва ўсіх твары жоўта-сінія ды і рукі трасуцца, ну, бог з ім. З наступных пісем Аляксей Антонавіч даведаўся, што ягоная былая жонка памерла. Новы "тата", падвыпіўшы, агрэў бедную бутэлечкай. Дык і не ўратавалі. Ну што ж зрабіць. Відаць, лёс такі ў чалавека, пайсці ад шчасця свайго, не заўважаючы, што яно пад самым носам. Так створаны чалавек. Супраць прыроды не пойдзеш.

А да Аляксея Антонавіча дочкі прыязджалі ўжо з унукамі. Уяўляеце? Шчасце якое. Глядзіш і не наглядзішся. Да чаго ж усё-такі жвавенькія дзеці. Туды-сюды, туды-сюды і не ўгледзіш нават.

Ну і хай. Што ж я гэта ўсё пра іншых. Трэба дарасказаць і пра самога Аляксея Антонавіча. Пасля таго, як пайшла ад яго жонка, Аляксей Антонавіч прарабіў яшчэ дзесяць гадоў. Потым ён зламаў руку. І пайшоў, не сказаць каб спакойна, на пенсію. Неспакойна, бо ірваўся працаваць далей, а хто ж цябе возьме, калеку? "Такі ты нам не патрэбен, ты сам падумай. Ты больш сіл набірайся", — казалі яму сябры. Але ж для чаго? На гэтае пытанне і я не ведаю адказу. Аднак так яму казалі сябры.

Пайшоўшы на пенсію, Аляксей Антонавіч, доўга не думаючы, ірвануў у вёску. А што? Чым не выйсце? Усё ж такі радзіма, і яшчэ шмат плюсоў можна знайсці ў гэтым. Карацей, сабраўся Аляксей Антонавіч і прыехаў. Надвор'е сустрэла яго, як і вяскоўцы, добра. Блакітнае-блакітнае неабсяжнае неба, веселенькае сонейка, пераліваючыся на вадзе хуткай вясковай рэчкі, — усё вітала госця. Домік бацькоў ужо аджыў свой век. Выбітыя вокны, абшмулганыя, абточаныя шашалем сцены, дзіравы комін, гнілы на страсе шыфер, непралазны бур'ян на дварэ — карціна не з прыемных. Трэба адзначыць, што Аляксей Антонавіч, як вырваўшы некалі адсюль, з бацькоўскага гнязда, так болей і не вяртаўся, калі не лічыць, што прыязджаў на пахаванне, ды яшчэ аднойчы па нейкай справе, цяпер ужо і не ўспомніш.

Відаць, не проста так гаварылі, што Аляксей Антонавіч не ўломак які. Не прайшло і двух тыдняў, як усё аднавілася, ажыло. Нібы і не было тут аніколі ніякага заняпаду. Да таго і ў хаце ўсё ўпарадкавалася. Трэба сказаць, маці Аляксея Антонавіча была да таго добрая гаспадыня, што і пасля смерці яе ўсё знаходзілася ў ідэальным парадку, як і пры ёй жывой. Суседзі такой яе працавітасці здзіўляліся. А адзін дзядок з суседняй вёскі, казалі, нават намерваўся купіць гэты дом. Гаварылі яшчэ, што даваў немалую суму. Але Аляксей Антонавіч адмовіўся.

Здарылася потым яшчэ адна важная падзея ў маштабах адной хаты, хаты Аляксея Антонавіча. Знайшоўся ягоны "блудны" сын. Больш правільна, канечне, будзе сказаць, ён сам знайшоў бацьку. Знайшоў і застаўся разам з ім жыць, але ненадоўга. Пасадзілі сынка ў турму. А ўсё чаму? Усё гарэлачка родная, усё яна. У адзін вечар пабіўся сынок з нейкім дзядзькам. Дый добра, відаць, пабіўся, бо таго дзядзьку ледзь уратавалі, у рэанімацыі ляжаў. Сынок з турмы вярнуўся, праўда, на кароткі час. Бо праз паўгода памёр. Зусім жа яшчэ малады, а памёр. Орган адзін не вытрымаў. І вы самі добра ведаеце, які. Той, што часцей за іншыя адмаўляе ў такіх вось, як ён. Урачы казалі, пячонка амаль поўнасцю развалілася. Пахавалі сынка. Ціха так, нават сёстры, дочкі Аляксея Антонавіча, не прыязджалі. Па смерці сына Аляксей Антонавіч не надта моцна і гараваў. А навошта тут гараваць?

Вёска Аляксея Антонавіча ўжо зусім апусцела. Усе паўміралі, хоць бы адзін малады быў, дык не. Летам яна зноў напаўняецца людзьмі, але так, пастаянна, жывуць толькі трое: Аляксей Антонавіч, дзед Андрэй і баба Ганна — усё. Болей нікога. Цішыня. Толькі дзе-нідзе сабака забрэша, нагадаўшы пра сябе. А так пустка! Смерць лётае! Дарэчы, пра смерць. Яна, праклятая, потым праз тры месяцы і бабу Ганну да сябе забрала. Найдабрэйшага чалавека, скажу я вам. Заўсёды ўсміхалася, была прыветная і разумная па-свойму. Аднак памерла… І ніхто не ўспомніць болей.

Ну і хай.

Ганна памерла, засталося цяпер яшчэ менш людзей — толькі двое. Дзеду Андрэю вельмі блага. Апошнім часам яны на пару з Аляксеем Антонавічам моцна распіліся. Трэба сказаць, што і раней пілі, але так, як цяпер, — ніколі. Ды што ж ты зробіш. Адзінота такая рэч дзіўная. Не ведаеш, да чаго яна можа прывесці. Але вернемся да дзеда Андрэя. Ён ужо і лячыўся, у бальніцы ляжаў, дзеці нават да нейкай шаптухі вазілі, дык і яна не дапамагла старому. Ды ён ужо і не спадзяваўся. А потым яшчэ адна нейкая хвароба прычапілася: ногі баляць, не даюць хадзіць, ляжыць, бедны, не падымаецца. Каб не Аляксей Антонавіч, невядома што было б. Думаць нават не хочацца. Страшна… Але, дзякаваць богу, доўга не пакутаваў Андрэй Васільч, памёр… Памёр ціха, ноччу.

А да Аляксея Антонавіча ўнукі ўжо прыязджалі. Другі раз… А так выраслі за гэтых пятнаццаць гадоў, што не пазнаць. Усё ж такі шчасце мець унукаў. Ты нават іх любіш больш, чым дзяцей сваіх. Але, шкада, мала яны ў Аляксея Антонавіча пабылі. Нават і засумаваў потым стары. Можа, больш іх і не ўбачыць. Здароўе падводзіць. Сэрца не дае жыць — вось такі парадокс. Па гэтай прычыне дзеда дзеці нават у санаторый вазілі. Пацешылі на старасці. Не дапамагло. Давялося забраць Аляксея Антонавіча ў горад. Ужо нават і жыць адвык там. Не па-свойску неяк. Ды і змяніўся Аляксей Антонавіч. Дужа змяніўся. Не падобны стаў да таго добрага, спакойнага, вясёлага чалавека. Знешнасцю нават змяніўся. Губы сталі сінія, вочы і твар пажаўцелі, рукі пачалі чарнець. А позірк! Позірк як у чорта, далібог! Плакаць пачаў часта. А аднойчы невядома што здарылася, наляцеў на дачку! Уяўляеце? На родную дачку! Зусім звар'яцеў! Сам не мог паверыць, што так зрабіў. А ўсё за што? За нейкі няшчасны астатак той вадкасці, ад якой чалавек пакутуе. Але спыніцца ён ужо не мог.

Зноў вярнуўся ў вёску.

Як і ўсе, нясецца ён адзін у цемры. Нічога не відаць. Толькі вецер б'е па твары, халадком праходзіць па целе. А там, у канцы — святло. Маленькая кропачка. Вось яна расце, расце і расце. І слепіць чалавека. І набліжаецца да яго. Усё хутчэй і хутчэй нясецца ён. Здаецца, падае. Не, трымаецца. І тут раптам — бац! Правальваецца ў той белы свет. Усё раптам спыняецца, замірае, цяжкая густата ахінае цела…

26 красавіка раніцай Аляксей Антонавіч памёр ад інсульту…

Знайшлі Аляксея Антонавіча праз тры дні дочкі. Пахавалі каля сына, а ў таго і магілка зарасла, і крыж згніў. Зусім забылі! Пахавалі Аляксея Антонавіча ціха так, людзей на памінках было нямнога. Паставілі, канечне, помнік потым, малы чамусьці, але ж усё-такі. Там на фота ён малады яшчэ. Вясёлы, усміхаецца. Але час пройдзе, і помнік разваліцца і Аляксей Антонавіч на ім знікне, і памяць пра яго. І дочкі ягоныя потым памруць, і іх забудуць. Хутка забываюцца людзі ўсё-такі. Вельмі хутка. Вы, напэўна, ужо і не помніце ні жонку Аляксея Антонавіча, ні бабу Ганну, ні дзеда Андрэя. Але ж жылі такія людзі калісьці, адным з намі паветрам дыхаючы, ды вось забыліся...


Ларыса Коваль

# «Дай Божа»

Вось ужо які год людзі бедныя могуць стаць багатымі і вельмі ж, як цяпер кажуць, рэальным шляхам ажыццяўляюць сваю мару: выйграюць у латарэю — ці то "Ваша лато", ці то "Суперлато", ці то "Кена". Наогул, купіў білет — і ты ўжо мільянер, або кватэра, або грошы ў цябе ў кішэні.

Вось і Валодзю Мараву таксама захацелася, каб яму пашанцавала хоць раз у жыцці, каб засвяцілася ўдача на гарызонце, бо і дочкі ўжо на выданні, жонка стамілася ад яго пастаяннага п'янага выгляду, пустой кішэні і ад сваёй працы на нервах (у школе ўсё жыццё адпрацавала). Вырашылі купіць чатыры білеты, на кожнага ў сям'і, можа, хоць каму-небудзь пашанцуе, удача ўсміхнецца. Цэлы тыдзень гэтага ўрачыстага моманту чакалі, і вось ён нарэшце надышоў. Жонка Алена нават не лаялася з раніцы на Валодзю, хоць ён быў ужо на падпітку, і калі паспеў? Дочкі таксама былі ў добрым настроі, нешта абмяркоўвалі. Адна хацела выйграць кватэру, а другая — грошы, і тады можна імі распарадзіцца па-свойму. Былі б грошы, а што купіць — знойдзецца, выйграшу і на вяселле, і на кватэру новую ў іх маленькім гарадку хопіць.

Ну вось, нарэшце, і розыгрыш доўгачаканы пачаўся, вось ён, "момант удачы", трыумфальны час.

Жонка, муж і дочкі з нецярпеннем пачалі выкрэсліваць лічбы запаветныя, ці хмурачыся, калі не было патрэбнай лічбы ў білеце, ці ўсміхаючыся адна адной, калі лічбы супадалі.

— Алена, ну вось яшчэ адзін тур, глядзі, кватэра наша будзе, — з усмешкай казаў Валодзя.

Рэклама перапыняла і неяк разбаўляла гэту выбуховую сітуацыю, гэту "трыумфальную перамогу багацця над беднасцю".

— Што зробіш, Алена, калі выйграеш, га? Нам ці дочкам кватэра будзе, кажы хутчэй? Хочаш жа ў сталіцу пераехаць? Можа, жыццё новае пачнем. Піць кіну, вось табе крыж, добрую працу знайду.

— Ай, кінь ты дурное, Валодзя, не перашкаджай. Калі за дваццаць пяць год не кінуў, то цябе толькі магіла выправіць, дурань ты. Усё, сціхні, а то я нумары прапушчу!

Тут і дочкі на бацьку накінуліся.

— Тата, ну колькі можна, цішэй ужо! Менш піць трэба. А ў Мінску ты што не бачыў?

— Я ў гэтай кватэры жыць буду, і ўсё, — кажа старэйшая, — і жаніх ужо ёсць, ты ж ведаеш, тата, ужо два гады сустракаемся. Ой, як нам кватэра патрэбна, вось пабачыце, я кватэру выйграю, у мяне ж палова лічбаў закрэслена, пабачыце! — І вочы яе засвяціліся неяк не па-добраму.

— Ну ладна, ты кватэру, а я грошы хачу, і шмат, каб і на жыллё, і на ўсё хапіла.

— А Мінск гэты? Якая там табе работа будзе без адукацыі — вуліцу месці? Ці прыбіральшчыцай? — І маладзейшая рассмяялася ў твар старэйшай.

— А калі маеш грошы, дык і сам харошы, праўда, тата? Ты так заўсёды пасля зарплаты спяваеш?

— Так, так, дачушка. Дык, калі разбагацееш, пра нас з маці ці ўспомніш, дачушка?

— Ну зараз, тата. Вам што тут, у гэтай хаце, дрэнна? Дах, сцены ёсць, яшчэ і агарод, што вам яшчэ на старасці гадоў патрэбна? Я ў Мінск ехаць не збіраюся. Так што, прыйду адведаю, калі што, не хвалюйцеся. А грошы выйграю — знайду куды дзець: і жыллё куплю, і адзенне, а можа, вучыцца пайду, за грошы ўсё магчыма, можа, бізнес які зраблю і машыну куплю, знайду куды іх дзець.

Тым часам розыгрыш працягваўся, і страсці распальваліся. Ужо к канцу ён падыходзіў, а кватэра і грошы нікому з Маравых не даставаліся. Іх блакітныя мары растваралiся ў сінім тумане… Першым здаўся Валодзя. Вылаяўшыся смачна разоў пяць, выскачыў на вуліцу курыць. Алена схапілася за валяр'янку і ад хвалявання пайшла на кухню, пачала грымець посудам, нешта гатаваць спрабавала, але ўсё з рук валілася, нават талерку разбіла.

А дочкі ўсё ж дачакаліся "фінальнага свістка" і з кіслымі мінамі, перасварыўшыся, разышліся ў розныя куткі, сказаўшы адна адной пару ласкавых слоў. Сапсаваўся настрой ва ўсіх Маравых, і не на адзін вечар. Ну што зробіш? Калі некаму шанцуе, то павінна ж некаму і не шанцаваць — такі закон быцця. І вось праз некалькі хвілін усе чатыры білеты, разарваныя на шматкі, ужо ляжалі ў сметніку, а сям'я моўчкі ела не то нейкі боршч, не то суп. Не ўдаўся ён, не хапала не то солі, не то яшчэ чагосьці, ці то капуста, ці то бурак недаварыўся. Дочкі, праглынуўшы па тры лыжкі, паўставалі з-за стала з тымі ж кіслымі фізіяноміямі. Валодзя, задумаўшыся, глядзеў у адну кропку, працягваў вячэру, але раптам спыніўся.

— Не, Алена, гэта не боршч, прабач. — І неяк моўчкі выйшаў з-за стала. Алена заплакала. Не, не ад таго, што прайгралі і што яе ежа не спадабалася, так, шанцуе ёй па жыцці.

Час ідзе. Не адна сям'я пабагацела і грошай шмат атрымала, а мо і стала шчаслівай дзякуючы лато… Маравым так і не пашанцавала. І два, і тры, і нават шэсць білетаў куплялі яны яшчэ, і ўсё ўпустую. Раз ці дзесяць, ці дваццаць тысяч выйгралі, дык гэта нейкая насмешка, што сёння купіш за такія грошы!

А тут і зусім няўдача і гора пастукаліся да іх. Алена захварэла, сталі ногі падводзіць, бо і праца нервовая, і бясконцыя п'янкі мужавы, і лаянкі — пайшла на пенсію па інваліднасці. Валодзя ўсё не спыняўся, піць не кідаў. У адзін з летніх вечароў, якраз у дзень заробку, не дачакалася яго Алена. Вечар быў вельмі гарачы, замочвалі, як заўжды, заробак на беразе рэчкі, выпівалі, плюхаліся ў ваду, зноў выпівалі, зноў плюхаліся, мелі ж права ці не? І вось дамоў ужо трэба, а Валодзя яшчэ раз ахаладзіцца задумаў.

— Валодзька! Вова!!! — гукалі яго мужчыны, не дагукаліся…

На наступны дзень выцягнулі выратавальнікі бедака. Такі вясёлы ў труне ляжаў, з нейкай такой усмешкай, мусіць, не паспеў адчуць, што вось яно ўсё, скончана жыццё, а можа, думаў, што выйграе ён гэты джэк-пот, не ён, дык дочкі, ну, у наступны раз абавязкова пашанцуе.

Дочкам Валодзевым і праўда пашанцавала. Не, не ў латарэі — у жыцці. Выйшлі замуж у хуткім часе, хлопцы добрыя трапіліся ім, і з кватэрамі, і не п'юць — хоць маці, Алене, суцяшэнне. Толькі б шчасце ім Бог даў. Дай Божа.

# Падарункі на паўналецце

**Васямнаццаць гадоў хоць і не юбілей, але ўзрост адметны. Знакавы. Як жа справіў сваё паўналецце XVIII мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад"? Яшчэ напярэдадні афіцыйнага падвядзення яго вынікаў госці кінафоруму прызнаваліся журналістам: свята экраннага мастацтва ўдалося.**

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ, фота Аляксандра Дзмітрыева**

Шчодры мінскі "Лістапад" літаральна засыпаў падарункамі ўдзельнікаў сёлетніх конкурсных паказаў. Дыпломамі, спецпрызамі адзначаныя лепшыя работы ў шматлікіх намінацыях. Але ў памяці гледачоў застаецца зазвычай дзясятак імёнаў і назваў. Дарэчы, праз падлік рэйтынгавых балаў, выстаўленых аўдыторыяй пасля конкурсных сеансаў, быў вызначаны ўладальнік прыза глядацкіх сімпатый "Бронза «Лістапада»" (за лепшы ігравы фільм): "Дзённікі з Пола" рэжысёра Крыса Крауса (Германія — Эстонія). Прызам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі "За гуманізм і духоўнасць у кіно" ганаравана вядомая работа беларускага дакументаліста Галіны Адамовіч "Манашка" ("Инокиня"). Гран-пры "Золата «Лістапада»" атрымала мастацкая стужка "Паляўнічы" рэжысёра з Расіі Бакура Бакурадзэ. "Срэбра «Лістапада»" (у намінацыі "Фільм як з'ява мастацтва") — прыз міжнароднага журы кінапрэсы — дастаўся стужцы "Маці" македонскага майстра Мілчы Манчэўскага. Лаўрэатам Гран-пры "За лепшы дакументальны фільм" стаў "Урок аргенцінскага", створаны Войцахам Старанем (Польшча).

Спецыяльны прыз за яркае мастацкае ўвасабленне аднаго з драматычных фактаў нашай агульнай гісторыі журы прысудзіла ігравой стужцы "Чорны чацвер" рэжысёра Антоні Краўзэ (Польшча). А ўзнагарода "За лепшы фільм конкурсу ігравога кіно «Маладосць на маршы» імя народнага артыста СССР кінарэжысёра В. Ц. Турава" засведчыла поспех мексіканца Рыгаберта Пераскана (стужка "На поўнач дарогі няма")...

На конкурсе фільмаў для дзяцей і юнацтва прыз глядацкіх сімпатый "Залаты «Лістападзік»" заваявала работа германскага рэжысёра Петэра Ціма "Паляванне на скарбы Ганібала". А "Рыжык у Залюстэрччы" нашай Алены Туравай адзначаны спецпрызам журы "За развіццё традыцый кіноказкі з выкарыстаннем сучасных тэхналогій".

Запомняцца перамовы прадстаўнікоў беларускай кінематаграфіі з гасцямі форуму накont перспектыў творчага супрацоўніцтва; сустрэчы з легендарнымі Марынай Разбежкінай, Уладзімірам Грамацікавым, Кахі Каўсадзэ; майстар-класы спецыялістаў дырэкцыі фестывалю кароткаметражнага кіно "Сто" (Іран) з прэзентацыяй наватарскіх 100-секундных стужак; сцэнічныя імпрэзы артыстаў з Польшчы, Расіі, Францыі; пазаконкурсны паказ паўднёвакарэйскіх фільмаў...



Міністр культуры Беларусі Павел Латушка зазначае: "Мы дамагліся міжнароднага прызнання: фестываль на два гады прыняты ў Міжнародную федэрацыю асацыяцый кінапрадзюсараў. Спадзяюся, у будучыні "Лістапад" атрымае пастаянную міжнародную акрэдытацыю". Што ж, наш малады кінафорум — на парозе сталасці.

***На здымку: заслужаная артыстка Беларусі Святлана Сухавей і міністр культуры Павел Латушка — удзельнікі фестывальнай цырымоніі ля Палаца Рэспублікі.***

# Тэатральная бязмежнасць у межах фэсту

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

**20 лістапада ў Мінску адкрыецца V Міжнародны тэатральны фестываль "Панарама". Гэта значыць, што для прыхільнікаў Мельпамены пачынаецца тыдзень свежых мастацкіх уражанняў — і дадатковых клопатаў.**

Вялікая спакуса: убачыць тытулаваныя пастаноўкі шасці замежных тэатраў! Але задавальненне сціплай эстэтычнай патрэбы — балючы ўдар па сямейным бюджэце. Хаця б нешта адно пагледзець. Але калі ўжо нават вакол самых дарагіх білетаў разгараецца ажыятаж, дык самыя танныя, коштам 25 тыс. рублёў, — амаль дэфіцыт. Зрэшты, можа, гэтым разам не будзе ні ажыятажу, ні дэфіцыту і заўзятым тэатралам удасца спакойна патрапіць на спектакль, выбраны з праграмы-панарамы, дзе работы гасцей суседнічаюць з нашымі айчыннымі пастаноўкамі?

Што ж, давайце выбіраць. Вось толькі зрабіць гэта зусім не проста. У фестывальнай тэатральнай панараме, у адрозненне, скажам, ад панарамы рукатворнага гарадскога краявіду, няма сваёй ярка выяўленай архітэктурнай дамінанты. Міжнародны форум сцэнічнага мастацтва, заснаваны ў 2004 годзе Міністэрствам культуры Беларусі, Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам і Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы, мае шматзначны дэвіз: "Тэатр без межаў". Вось так арганізатары дэкларуюць сваю ідэю, згодна з якой і фарміруецца праграма. Яе складаюць відовішчы розных фарматаў, стыляў, жанраў; спектаклі традыцыйнага кірунку і сцэнічныя наваццы, драматургічныя эксперыменты і пастаноўкі класікі; знаходкі рэжысёраў-"кансерватараў" і эпатаж "мадэрністаў"... Калі глядач здолее патрапіць на ўсе фестывальныя імпрэзы, ён атрымае максімальна шырокае (наколькі гэта магчыма ў межах тыдня) уяўленне пра далягляды сучаснага тэатральнага жыцця і "ўзбуйнены" першы план яго надзённых мастацкіх прыярытэтаў.

**Такім чынам, "Панарама-2011" — гэта...**

Спектакль, якім у нядзелю на сцэне Цэнтральнага дома афіцэраў распачнецца свята Мельпамены: чэхаўская **"Чайка"**. П'еса класіка, якую прапануе Тэатр-фестываль "Балтыйскі дом" (Санкт-Пецярбург), — сёлетні расійска-літоўскі творчы праект. Знаёмыя нам зорныя імёны: рэжысёр-пастаноўшчык Ёнас Вайткус, акцёры Юозас Будрайціс, Раман Грамадскі, Рэгіна Лялейкітэ, Уладас Багдонас, Рэгімантас Адамайціс...



Яшчэ адзін твор А. Чэхава — "Тры сястры", год таму перачытаны ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек рэжысёрам Аляксеем Ляляўскім, у выніку чаго атрымалася крэатыўная версія драмы, вядомая пад назваю **"Драй швэстэрн"** і адзначаная сёлета Першай Нацыянальнай тэатральнай прэміяй у намінацыі "Лепшая рэжысура".

Ганараваны найвышэйшым нацыянальным прызам "Залаты Крыж сцэны" як самы лепшы спектакль сезона 2010 года ў Літве спектакль **"Ганна Карэніна"** паводле Льва Талстога — імпрэза Тэатра танца a|ch (Тэатр танца Анжалікі Холінай) з Вільнюса. Напэўна, толькі глядач, добра знаёмы з літаратурнай першакрыніцай сцэнічнага твора, спасцігне ва ўсіх тонкасцях тое, як хрэстаматыйны сюжэт праз рэжысуру Анжалікі Холінай ператвараецца ў гульню ўнутраных станаў чалавека, падпарадкаванага падсвядомасці.

**"Цырульніца"** — п'еса С. Мядзведзева пра ўтрапёнае "завочнае" каханне, увасобленая тытулаваным расійскім рэжысёрам Віктарам Рыжаковым у Тэатры імя Міхая Чаканаі венгерскага горада Дэбрэцэна. Гэтая работа адзначана летась Галоўнай прэміяй Усевенгерскага тэатральнага фестывалю ў намінацыі "Лепшы спектакль".

Нашумелая ў 2009 годзе інсцэнізацыя літоўскім майстрам Эймунтасам Някрошусам рамана Ф. Дастаеўскага **"Ідыёт"** (тэатр "Meno Fortas" з Вільнюса). Дыхтоўны акцёрскі ансамбль Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Яўгена Вахтангава: госці з расійскай сталіцы пакажуць "Прысвячэнне Еве" Э. Э. Шміта ў пастаноўцы Сяргея Яшына, дзе іграюць куміры публікі Васіль Ланавой ды Яўген Князеў.

**"Пінская шляхта"** В. Дуніна-Марцінкевіча: гэтым разам — як вынік беларуска-польскага супрацоўніцтва. Так, наша папулярная камедыя ў мінулым сезоне была пастаўлена ў Варшаве ў тэатры "Рампа". Пераклад зроблены Барбарай Крыжаноўскай-Чарнавескай, рэжысура Мікалая Пінігіна, музыка Андрэя Зубрыча, мастак Вольга Мацкевіч, танцы — ад польскага харэографа Малгажаты Фіялкоўскай. У ансамблі з польскімі акцёрамі саліруе народны артыст Беларусі Віктар Манаеў (у ролі Кручкова). Хіба не цікава параўнаць варшаўскую версію "Пінскай шляхты" са спектаклем купалаўцаў?

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы пазначыў сваю прысутнасць на фестывальным ландшафце двума спектаклямі: **"Не мой"** (нядаўні трыумфатар, лаўрэат Першай Нацыянальнай тэатральнай прэміі ў пяці намінацыях) ды **"Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл"**. Дарэчы, менавіта сёлетняй прэм'ерай паводле Францішкі Уршулі Радзівіл (сцэнічная адаптацыя Сяргея Кавалёва, рэжысура Мікалая Пінігіна) і завершыцца 27 лістапада "Панарама-2011".

Зарыентаваўшыся ў тэатральным бязмежжы, глядач усё ж можа зрабіць выбар, адпаведны свайму мастацкаму густу і на карысць уласнаму культурнаму досведу. Для самых жа тэатраў выбар абмежаваны: вахтангаўцам прапанавана канцэртная зала "Мінск", спектакль Анжалікі Холінай прымуць у Беларускім дзяржаўным музычным тэатры, іншыя госці ды сузаснавальнікі "Панарамы" купалаўцы падзеляць пляцоўкі Цэнтральнага дома афіцэраў і Палаца культуры прафсаюзаў. Толькі Беларускаму дзяржаўнаму тэатру лялек пашанцавала на прафесійны камфорт: выступаць падчас міжнароднага фэстывалю ў "намоленых" родных сценах — гэта крута!

***На здымку: сцэна са спектакля "Чайка", якім распачнецца фестываль.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА, фота аўтара**

Заўсёднікі НАВТ оперы і балета Беларусі атрымалі сапраўдную асалоду ад выступлення хору тэатра, якое адбылося на яго галоўнай сцэне. Калектыў, якім кіруе выдатны хормайстар Ніна Ламановіч, даўно ўжо набыў прызнанне і за межамі краіны — дзякуючы свайму яскраваму майстэрству, заўважнаму і ў музычных спектаклях, і ў канцэртных праграмах. Першае аддзяленне яго нядаўняга канцэрта ў родных сценах (рэжысёр Галіна Галкоўская) сталася прэм'ерай свежага і натхнёнага прачытання шэдэўраў акапэльнага спявання, праца над якімі стымулюе інтэлект, узвышае душу, выкшталцоўвае густ і выканальніцкую манеру. Гучалі фрагменты "Усяночнага дбання" С. Рахманінава, апрацоўкі народных песень, харавыя мініяцюры Г. Свірыдава, В. Шабаліна, З. Кодаі. А ў партнёрстве з сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Вячаслава Воліча ды ўдзелам оперных салістаў былі прадстаўлены хоры з "Рэквіема" В. А. Моцарта, "Месіі" Г. Ф. Гендэля, фрагменты з оперных твораў П. Чайкоўскага, Ж. Бізэ, Дж. Вердзі.

Да юбілею заслужанага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Віктара Скарабагатава, які днямі адзначыў свае 60, прымеркаваны сённяшні вернісаж. Выстаўка "Маэстра музычнай спадчыны", якая адкрыецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, дапоўніць аблічча вядомага і надзвычай адметнага чалавека, якога музейцы чакаюць гэтым вечарам у сваім утульным доме ў Музычным завулку. Віктар Скарабагатаў — оперны спявак і педагог, мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" і арганізатар мноства праектаў, скіраваных на адраджэнне айчыннай музычна-тэатральной спадчыны, аўтар кніг па гісторыі беларускай музычнай культуры. А яшчэ — захапляльны апавядальнік і дасціпны суразмоўца.



Да 20 лістапада ў сталічным Палацы мастацтва працуе юбілейная выстаўка Алеся Марачкіна (вядомы і як Алесь Мара) "Логіка рубероіду". Мастак адзначае сваё 70-годдзе паказам работ графічнага цыкла "Дзеячы гісторыі і культуры Беларусі", інсталяцыі "Прасніцы размаўляюць", маляваных дываноў, створаных пад уплывам беларускага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісных партрэтаў, пейзажаў, шматфігурных кампазіцый.

***На здымку: заслужаны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Віктар Скарабагатаў.***

# «Сны…» і рэаліі Канстанціна Яськова

**Чароўнае перапляценне гукаў беларускіх цымбалаў і сімфанічнага аркестра, якое захоплівае слухача і прапануе яму здзейсніць невялікае падарожжа ў славутую мінуўшчыну роднай зямлі — так можна акрэсліць уражанні ад новага твора маладога беларускага кампазітара Канстанціна Яськова "Сны замкавай гары". Прэм'ера опуса адбылася падчас аднаго з канцэртаў VI Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета на лепшай музычнай пляцоўцы Беларусі — у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, з удзелам знакамітых выканаўцаў: лаўрэата міжнародных конкурсаў, цымбалісткі Веранікі Прадзед, Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, якім у той вечар кіраваў сусветна вядомы эстонскі дырыжор Андрас Мустанен. Рэакцыя слухачоў і крытыкі пасля прэм'еры дазваляюць з упэўненасцю сцвярджаць: твор К. Яськова стаўся яскравай падзеяй у музычным жыцці нашай краіны. Мы пагутарылі з аўтарам цымбальна-сімфанічнага цуду.**



Кацярына ШЫМАНОВІЧ

**— Канстанцін, як вы прыйшлі да ідэі такога твора для цымбалаў і сімфанічнага аркестра?**

— Напярэдадні VI фестывалю Юрыя Башмета да мяне звярнулася знакамітая беларуская цымбалістка Вераніка Прадзед з прапановай ад дырэкцыі фэсту — напісаць новы твор для яе выступлення з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам.

**— Дык гэта было выкананне замовы?**

— Так. Але трэба сказаць, што замова гэтая адыграла ролю моцнага штуршка да натхнёнай працы. Напісанне партытуры сталася своеасаблівай творчай прыгодай, бо гэта быў мой першы вопыт стварэння музыкі для цымбалаў. Мне была дадзена поўная свабода для фантазіі. А падчас працы знаходзіўся ў пастаянным кантакце з салісткай, якая неаднаразова кансультавала мяне па тэхнічных і мастацкіх магчымасцях цымбалаў. Усё гэта спрыяла таму, што твор я пісаў ва ўзнёслым настроі.

**— Музычная мова "Сноў…" падалася нечакана дэмакратычнай. Што гэта: пачатак новага этапу вашай творчасці ці своеасаблівы творчы эксперымент?**

— Апошнім часам я заняты пошукам простай музычнай мовы, якая б грунтавалася на сінтэзе стыляў разнастайных пластоў музычнага мастацтва мінулага і сучаснасці: ад архаічнага фальклору да музыкі XX — XXI стагоддзяў. У "Снах…" імкнуўся аб'яднаць некаторыя жанры эпохі рэнесансу, барока са сродкамі музычнай выразнасці рамантызму, імпрэсіянізму, постмінімалізму. Да таго ж адной з мэт для мяне было паказаць цымбалы як інструмент арыстакратычны, варты займаць месца саліста акадэмічнага сімфанічнага аркестра.

**— Ці была мэта дасягнута?**

— Мне здаецца, так. Водгукі, якія я атрымаў як ад звычайных слухачоў, так і ад калег, былі толькі пазітыўныя.

**— Чытачы "ЛіМа" ведаюць, што вы ўзначальваеце Асацыяцыю маладых беларускіх кампазітараў пры Беларускім саюзе музычных дзеячаў. Якія поспехі і найбліжэйшыя планы на гэтай ніве?**

— Дзейнасць асацыяцыі актыўна разгортваецца: калі сёлета адбыліся толькі дзве буйныя падзеі — кампазітарскі конкурс-канцэрт "Сімфонія-малітва", прысвечаны 100-гадоваму юбілею мінскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены, і канцэрт-сустрэча з маладымі нямецкімі кампазітарамі "Terra Incognita II", то ў наступным годзе запланаваны ўжо шэраг мерапрыемстваў з удзелам нашага аб'яднання. Сярод іх — канцэрт маладых беларускіх кампазітараў у межах Рэспубліканскага фестывалю беларускай музыкі; лекцыя і канцэрт музыкі сербскіх кампазітараў; фестываль "Дыялогі-3" з удзелам украінскіх, польскіх і швейцарскіх музыкаў; серыя канцэртаў, лекцый і майстар-класаў у межах сумеснага беларуска-нямецкага праекта "Два берагі адной ракі". Акрамя таго, рыхтуецца да выдання зборнік дзіцячых твораў для фартэпіяна.

**— Здаецца мне, што ў вашых сутках значна больш як дваццаць чатыры гадзіны… Спадзяюся, што ваш прыклад пераканае скептыкаў, якія не вераць у паспяховую сучаснасць і будучыню беларускай музыкі. Творчага натхнення вам і бясконцай энергіі для здзяйснення яскравых аўтарскіх ідэй!**

— Дзякуй! У сваю чаргу я запрашаю ўсіх аматараў музычнага мастацтва на канцэрты сучаснай беларускай музыкі, бо кожны з іх абавязкова дорыць адкрыцці, знаёміць з новымі імёнамі, абуджае гонар за нашу родную краіну і тых людзей, якія сёння ствараюць непаўторнае нацыянальнае аблічча яе культуры.

***На здымку: дырыжор Андрас Мустанен (Эстонія), Вераніка Прадзед і Канстанцін Яськоў.***

# Музыкі высокі дух



**Гэтым летам пайшоў з жыцця народны артыст СССР, прэзідэнт Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расіі, прафесар Мікалай Пятроў. Ён быў не толькі вялікі піяніст, творчасць якога прыносіла асалоду слухачам, у тым ліку — беларускім, доўгія гады. Ён быў вялікім сябрам музыкантаў нашай краіны, з любасцю і шчырай зацікаўленасцю кансультаваў таленавітых дзяцей Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Мы памятаем апошні сольны канцэрт Мікалая Арнольдавіча ў Палацы Рэспублікі ў 2005 годзе, на які ён бясплатна запрасіў 300 чалавек — членаў Беларускага саюза музычных дзеячаў і навучэнцаў каледжа. Стаіўшы дыханне, мы слухалі яго апошні "біс" — "Музычны момант" фа мінор Ф. Шуберта: чароўныя гукі растваруліся ў цішыні. А аказалася — гэта было развітанне з намі…**

Уладзімір ВАСІЛЁНАК

Праз пяць гадоў, 16 мая 2011-га, вялікі Артыст зноў прыехаў у Мінск. Артдырэктар прадзюсарскага цэнтра "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў Валерый Уколаў, якога звязвала з Мікалаем Пятровым 20 гадоў аддананага сяброўства і прафесійнага супрацоўніцтва, рыхтаваў прэзентацыю Міжнароднага дабрачыннага Фонду Мікалая Пятрова ў Рэспубліцы Беларусь. Прэзентацыя мела адбыцца на наступны дзень у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Віселі афішы, навучэнцы каледжа рыхтаваліся да выступлення — адказнага экзамену перад Маэстра, усе былі ў радасным чаканні новай сустрэчы з любімым піяністам. Але ж лёс распарадзіўся інакш. Тая ліхая ноч з 16 на 17 мая сталася пачаткам пакутлівага згасання жыцця Музыканта.

Канцэрт адбыўся, але ўжо ў кастрычніку, і гэта была даніна памяці вялікаму музыканту сучаснасці, своеасаблівая эмацыйная рэтраспектыва чалавечых і прафесійных стасункаў Мікалая Пятрова з Беларуссю. Праграма прайшла на высокім прафесійным узроўні, з рэдкасным напалам эмоцый, "на ўзлёце" творчага духу.

Пачаўся вечар з "Ave Maria" Качыні ў выкананні Канцэртнага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Перліна. (Сімвалічна, што менавіта гэты калектыў вітаў Маэстра пры яго наведванні каледжа ў 2005 годзе, напярэдадні таго самага апошняга канцэрта). Затым выступілі Ваня Малібошка (клас Л. Шаламенцавай) і Даша Коваль (клас Э. Ахрэмчык), якія ў 2006 г. па запрашэнні Мікалая Пятрова бралі ўдзел у канцэрце юных талентаў Масквы і Мінска ў Вялікай зале Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных. Юны лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя У. Горавіца Мікіта Шастакоў (клас Л. Васільевай) рыхтаваўся выступіць у маі на прэзентацыі Фонду М. Пятрова, але давялося іграць яму ўжо на канцэрце памяці Маэстра. Як і Андрэю Шычко (клас Н. Ташчылінай), які быў апошні з навучэнцаў каледжа, каго слухаў Мікалай Пятроў. Сярод іншых удзельнікаў канцэрта-мемарыяла — Дзяніс Ліннік з Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка і студэнт БДАМ Павел Нетук (клас У. Няхаенкі). Стыльна і выразна прагучалі варыяцыі Ё. Гайдна ў выкананні лаўрэата міжнародных конкурсаў Аляксандра Музыкантава. Бліскуча і "з агнём" выканаў народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў "Рондa-капрычыёза" К. Сен-Санса ва ўласнай аранжыроўцы.

Завяршыўся вечар гучаннем таго самага "Музычнага моманту" Ф. Шуберта ў выкананні Мікалая Пятрова — у запісе, які зрабіла Сталічнае тэлебачанне з апошняга сольнага канцэрта Маэстра ў Мінску 19 снежня 2005 года. Зала слухала выдатнага музыканта стоячы. На вачах ва ўсіх былі слёзы.

Асаблівую атмасферу вечара, які на дабрачыннай аснове арганізаваў артдырэктар прадзюсарскага цэнтра "Класіка" БСМД Валерый Уколаў, сваім пранікнёным высокамастацкім словам стварыла вядучая — музыказнаўца Іна Зубрыч.

***На здымку: ля партрэта Мікалая Пятрова — музыказнаўца Іна Зубрыч і народны артыст Беларусі, прафесар Ігар Алоўнікаў.***

## Нашы юбіляры



**Валянцін Міхайлавіч ШЧЭРБАК** — *дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства.*



**Валянціна Пятроўна ПІСАРЧЫК** — *прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.*

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА. Тэлефоны:
*(017) 222-37-33 — працоўны;*
*(029) 507-55-05 — МТС;*
*(029) 699-32-00 — Velcom.*

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Дзве радзімы ўзнёслых вершаў



**Любоў Шашкова — адна з яркіх прадстаўніц рускамоўнай паэзіі Казахстана, аўтар вершаваных зборнікаў "Пора подсолнухов", "Диалоги с надеждой", "Луг золотой", кнігі нарысаў і эсэ "Хранители огня", кнігі публіцыстыкі "Предполагаем жить…" і інш. У яе творчасці захавалася ўся беларуская пяшчотнасць душы, блізкая таксама і казахстанцам.**

**Шмат вершаў Любові Шашковай прысвечаны беларускім гістарычным падзеям, асобным нашым мясцінам. Такія творы знаёмяць казахстанцаў з Беларуссю, прычым некаторыя з іх перакладзены і на беларускую мову. Прыемна, што Любоў Канстанцінаўна не парывае сувязей з Радзімай, прапагандуе беларускую літаратуру. Асабіста я вельмі ўдзячны ёй за дапамогу ў перакладзе вершаў Абая на беларускую мову: менавіта Любоў Шашкова пазнаёміла мяне з Кайратам Бакбергенавым, старшынёй Саюза перакладчыкаў Казахстана, які зрабіў падрадкоўнікі твораў гэтага класіка казахстанскай літаратуры. Выданне было сустрэта вельмі прыхільна не толькі ў Беларусі, але і ў Казахстане. Спадзяёмся, што ў будучыні адна з кніг Любові Канстанцінаўны таксама пабачыць свет на беларускай мове.**

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

***Карэспандэнт "ЛіМа" сустрэлася з Любоўю Шашковай у адзін з яе прыездаў на Беларусь, каб распытаць пра новую кнігу і тое, як натхняе яе родная краіна.***

**— Любоў Канстанцінаўна, што звязвае вас з Беларуссю?**

— У гэтым годзе ў Казахстане выйшла мая кніга "Два вольных крыла". Два крылы — гэта дзве мае добрыя радзімы, Казахстан і Беларусь, якія ўздымаюць мяне над мітуснёй часу, над горыччу і болем… Два крылы — гэта таксама два складнікі маёй творчасці, бо ў зборнік упершыню ўвайшлі не толькі мае ўласныя вершы, але і пераклады з казахскай, уйгурскай, сербскай, беларускай. Я пішу на рускай мове, працую ў рускамоўным часопісе "Простор", які ўжо 77 гадоў выходзіць у Казахстане. Мы робім абменныя часопісы з "Нёманам", пасля наведвання канферэнцый па культуры і літаратуры знаёмім чытачоў з іх удзельнікамі, якіх прадстаўляем праз творчасць — перакладаем вершы, паэмы, артыкулы. Культурныя сувязі між нашымі краінамі цяпер узмацніліся: спачатку пасольства Казахстана ладзіла канферэнцыі па культурным узаемадзеянні з Беларуссю, цяпер вельмі цікавыя сустрэчы ладзіць РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выдатна, што ёсць дыялогавая пляцоўка для літаратур, для пісьменнікаў, бо нягледзячы на тое, што сёння з'явіўся інтэрнэт, які нібыта зближае, магчымасць напрасткі кантактаваць адыгрывае вельмі значную ролю. Прычым Беларусь для Казахстана — гэта сапраўднае акно ў Еўропу, бо на канферэнцыях, якія ладзяцца тут, мы знаёмімся з творчымі асобамі, што жывуць у далёкіх ад Казахстана краінах. Асабіста я вельмі рада свайму знаёмству з Міколам Мятліцкім. Ён перакладае мае вершы на беларускую мову, і я вельмі шчаслівая, што мае творы пачалі гучаць на мове, якую сапраўды люблю, якая гучала для мяне ў песнях і казках маёй бабулі Фядоры Гаўрылаўны, маёй матулі Аляксандры Фядосаўны. Прыйсці да свайго народа вершамі — гэта, напэўна, самае вялікае шчасце для паэта. Тэма Беларусі, дзе прайшло маё дзяцінства, была для мяне адной з галоўных яшчэ ў самых першых вершах, і зараз я таксама часцяком вяртаюся ў творах на родную зямлю.

**— Наколькі цікавіцца казахстанскі чытач творчасцю беларускіх аўтараў?**

— У Казахстане жывуць людзі 130 нацыянальнасцей — між імі шмат беларусаў, якія прыехалі на цаліну, на будоўлю Казахстанскай магніткі, і іх вельмі ўсцешваюць творы беларускіх аўтараў. У нас ёсць Беларускі культурны цэнтр, і большая частка "Простора", прысвечанага Беларусі, трапляе менавіта туды.

**— Як атрымалася, што з Беларусі вы трапілі ў Казахстан?**

— Я нарадзілася ў вёсцы Васілёўка, на прыгожым узбярэжжы Бярэзіны. Наша пакаленне — гэта дзеці Перамогі, і мы ведаем, праз якое гора прайшла кожная сям'я, увесь наш народ, бо пасляваеннае жыццё было вельмі цяжкім. Мы, дзеці, чулі, што людзі нават зямлю баяліся араць, бо можна было падарвацца на міне. Мой бацька служыў на Далёкім Усходзе, меў там сяброў, і аднойчы вырашыў паехаць туды разам з сям'ёй, каб неяк уладкавацца. Сярэднюю школу я скончыла ў Таўдзе, потым вучылася ва Уральскім электрамеханічным інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. Хацела паступаць на журфак, але спалохалася сур'ёзных барадатых дзядзяў, да таго ж шмат у каго былі вельмі салідныя публікацыі. Журфак я такі скончыла — завочна, у Казахстане, калі ўжо працавала ў газеце.

У Казахстан — у горад Тэміртау — я трапіла па запрашэнні дзевера. Мы з мужам і маленькім дзіцём жылі ў Свярдлоўску, ён заехаў да нас пагасцяваць, сказаў, што ў такіх умовах расціць дзіця немагчыма, і запрасіў да сябе ў Тэміртау. Мне вельмі пашанцавала, бо Свярдлоўск — гэта вялізны, шумны горад, там мне, напэўна, было б больш складана сябе рэалізаваць. Тэміртау ж горад моладзевы, камсамольская будоўля, там выключная ўвага звярталася на культуру: туды прыязджалі артысты МХАТа, я бачыла там нават арыгіналы Чурлёніса! Увесь свет быў у гэтым горадзе, і калі ты малады, адкрыты душою, гэта вельмі ўплывае на станаўленне асобы. У Тэміртау было вельмі моцнае літаб'яднанне, я наведвала яго і на пачатку 70-х гадоў пачала пісаць вершы. "Ах, трава-мурава моего деревенского детства…" — так пачынаўся мой самы-самы першы твор.

**— Ці заставаліся на той час нейкія сувязі з радзімай?**

— Я пераехала ў Казахстан, а мае бацькі вярнуліся ў Беларусь. І кожнае лета мы з дзецьмі, як буслы, цягнуліся дамоў, у сваю буслянку. Амаль кожнае лета я праводзіла ў Васілёўцы альбо на лецішчы пад Бабруйскам. А ў 1990 г. мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Тады яшчэ была магчымасць наведваць дамы творчасці — і я замовіла пуцёўку ў Іслач. Гэта быў цудоўны дом творчасці, я там выдатна папрацавала. Тады, у маі, надрукавала безліч вершаў, і яны ўсе атрымаліся ў мяне выдатныя, як грыбкі-баравікі. Бо на роднай зямлі напісаныя! Я дагэтуль амаль усе тыя творы ўключаю ў свае зборнікі.

І менавіта тады пачынала адкрывацца новая літаратура: у Казахстане гэта была творчасць рэпрэсіраваных пісьменнікаў, у Беларусі — дарэвалюцыйныя, "нацыяналістычныя" вершы Купалы, творы Максіма Багдановіча. У бібліятэцы дома творчасці была кніжка паэзіі Янкі Купалы (1986 года выдання), у якую ўваходзілі яго творы, што раней не публікаваліся. Мяне вельмі ўразіла паэма "На Куццю", я пераклала яе на рускую мову — з дапамогай беларускіх пісьменнікаў, што адпачывалі разам са мной. Тады ж з'явіліся кнігі пра Вялікае Княства Літоўскае, пра старажытныя беларускія княствы, пра Рагнеду — я апантана чытала гэта, бо ў Казахстане, у Расіі знайсці такія кнігі было б складана. Да таго ж мы наведалі Заслаўе, і экскурсія мяне так уразіла, што ўжо дома я напісала паэму пра Рагнеду. Збіраць матэрыял мне дапамог гісторык Крываносаў з Мінска. Фрагменты паэмы пераклаў і змясціў у "Полымі" Мікола Мятліцкі, і я мару, што цалкам твор, магчыма, будзе перакладзены і выдадзены на беларускай мове ў наступным годзе — з нагоды святкавання 1150-годдзя Полацка.

**— Якія іншыя беларускія тэмы актуальныя для вашай творчасці?**

— Звычайна паэты пішуць санеты пра каханне, а мой вянок санетаў "Повторение пройденного" прысвечаны тэме вайны. Вайна моцна закранула маю сям'ю: бацька хлапчуком трапіў у канцлагер, маці жыла на акупаванай тэрыторыі і фактычна была партызанскай сувязной: партызаны-назіральнікі заплліталі ёй у косы запіскі, і яна бегала па кладачках праз балота ў штаб. Да 65-годдзя Перамогі наш беларускі культурны цэнтр у Алматы з дапамогай Асамблеі народа Казахстана выдаў кнігу "Освободители, вызваліцелі, азат етушілер". Яна пра тых казахстанцаў, хто быў між абаронцаў Брэсцкай крэпасці, адступаў з баямі, трапляў у палон і акружэнне, ваяваў разам з партызанамі, вызваляў з дзейснай арміяй Беларусь — і прынёс Вялікую Перамогу. У выданні змешчаны ўспаміны, нарысы, артыкулы, дакументы, вершы. Казахскія пісьменнікі, паэты, якім выпала ў час вайны трапіць на Беларусь, заўсёды вельмі цёпла ставіліся да мяне за тое, што я была беларускай, як бы пераносілі на мяне стаўленне да іх саміх у час вайны. Таму мой удзел у гэтай кнізе — гэта абавязак перад беларусамі і казахстанцамі, якія ваявалі і гінулі на беларускай зямлі. І гэта тэма вельмі значная для нашага пакалення, бо памяць пра вайну мы павінны, абавязаны несці маладым.

Да таго ж зноў згадаю Міколу Мятліцкага — нас вельмі злучыла тэма Чарнобыля. Ягоны Бабчын — выселеная вёска, мая Васілёўка знаходзіцца побач з зонай высялення, і ў лесе ўвесь час сустракаюцца знакі — куды можна, куды нельга ісці. Таму боль Чарнобыля для мяне вельмі блізкі, гэтай тэме прысвечаны мой цыкл "Весенние мотивы". Наогул, дзякуючы вершам Мятліцкага, напісаным вельмі прыгожай мовай, я ўсё больш і больш пачынала чытаць па-беларуску, потым пацягнуло перакладаць — і ўжо дзве вялікія падборкі яго вершаў выйшлі ў нас у "Просторе". Я імкнуся шырока прадстаўляць на старонках часопіса беларускую сучасную літаратуру – бо, безумоўна, яна гэтага вартая!

## Ад «Рагнеды» да перакладаў

**У Алматы на рускай мове пабачыла свет паэтычная кніга Любові Шашковай «Два вольных крыла».**

Мікола БЕРЛЕЖ




"У новую кнігу Любові Шашковай увайшлі творы, напісаныя ёй і сорак гадоў таму, — гаворыцца ў анатацыі да ёмістага фаліянта ў прыгожым паліграфічным выкананні, — і ў новым стагоддзі, і тыя вершы, што не друкаваліся. Два вольныя крылы — дзве добрых радзімы — Казахстан і Беларусь трымаюць сваёю любоўю душу паэта, уздымаюць яе вышыню над жаданнямі і горыччу стагоддзя, пакідаючы нязменнымі ў вершах і жыцці — веру, надзею, любоў". Доктар філалагічных навук Віктар Бадзікаў яшчэ ў 2000 годзе пісаў пра творчасць нашай землячкі наступнае: "Магутны, эпічны вольналюбівы пачатак якраз у традыцыі беларускай класікі (Я. Купала, З. Бядуля, П. Броўка, М. Танк і інш.). А мастацкае адраджэнне нацыянальнай гісторыі ў сённяшняй літаратуры беларусаў, як і ў казахаў, — народаў, якія вытрымалі каланіяльны гнёт на працягу некалькіх стагоддзяў (!), — цалкам лагічнае, і гаворыць само за сябе".

У кнізе Л. Шашковай многія вершаваныя старонкі прысвечаны Беларусі. У тым ліку — і паэма "Рагнеда". "Два вольных крыла" склалі пераклады Л. Шашковай — з казахскай і беларускай паэзіі. У тым ліку — і больш як трыццаць вершаў Міколы Мятліцкага.

## Сяргей Мілюхін:

# «Жыць трэба там, дзе твой дом»

Анастасія ГРЫШЧУК

**У Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла фотавыстаўка Сяргея Мілюхіна "Непрыдуманая Эфіопія". З фотаздымкаў на наведвальнікаў глядзелі людзі эфіопскіх плямёнаў мурсі, каро, хамер. Пра шматлікія падарожжы, Афрыку і фотамастацтва мы і пагутарылі з Сяргеем Мілюхіным.**



**— З чаго пачалося ваша фотажыццё?**

— З таго моманту, калі я вырашыў, што буду фатаграфаваць так, як хачу, а не так, як таго патрабуюць падручнікі і знакамітыя майстры. Памятаю, калі ў мяне з'явілася першая фотакамера, я шмат здымаў заход сонца. Фотаздымкі надрукаваў на добрай паперы і прыйшоў да свайго знаёмага — знакамітага на той час фатографа. Ён паглядзеў і рассыпаўся ў кампліментах: "Сяргей, гэта — супер! Гэта — шэдэўр!" Добра, на той час хапіла розуму разабрацць, што да чаго. На тых фотаздымках і рэзкасць кульгала, і гарызонт быў завалены...

Прайшло шмат гадоў. Я зрабіў чарговы альбом фотаработ і паехаў паказаць яго іншаму, не менш знакамітаму майстру. Той пагартаў, не затрымліваючы позірк ні на адным здымку, і сказаў: "Нічога асаблівага. Звычайныя фатаграфіі". Мушу прызнаць, я прынёс яму свае лепшыя работы, зробленыя падчас падарожжа па нацыянальных парках Кеніі. "Добра, — не супакойваўся я, — пакажыце мне незвычайныя фатаграфіі". "Калі ласка, глядзі". І ён паказаў мне серыю здымкаў захалусных дворыкаў з бакамі, поўнымі смецця, і развешанай сушыцца бялізнай. Спрачацца не бяруся, магчыма, калі разглядаць гэтыя фотаздымкі з пункту гледжання кантрасту чорнага і белага колераў, гармоніі святла і ценю, яны ідэальныя. Але мне яны былі не цікавыя. Менавіта ў той момант вырашыў, што фатаграфаваць буду толькі так, як лічу патрэбным, адначасова спасцігаючы асновы фотарамяства.

**— Адкуль такая прага да падарожжаў?**

— У майго любімага і паважанага Булата Шалвавіча Акуджавы ў адной з песень ёсць радкі: "Нас время учило: живи по-привальному — дверь отворя. Товарищ мужчина, а всё же заманчива должность твоя — всегда ты в походе..." Дык вось і я, здаецца, заўжды ў паходзе. Думаю, што прага да падарожжаў ёсць у любога хлапчука. Галоўнае, каб той хлапчук не згубіў яе ў мітусні ці ў пагоні за новым аўтамабілем ці адпачынкам "усё ўключана". Хаця супраць падобнага роду адпачынку не магу сказаць нічога дрэннага — не спрабаваў.

**— У якіх краінах вы пабывалі? Магчыма, дзе-небудзь засталіся б жыць?**

— У нейкі момант у мяне атрымалася падмануць лёс, а запланаваныя ім падзеі памяняць на падарожжы. Я пабываў у Аўстраліі, Бразіліі, Кеніі, Танзаніі, ПАР, Батсване, Замбіі, Зімбабве, Намібіі, Эфіопіі, на Філіпінах, у Камбоджы, Даніі, Фінляндыі, Швецыі, Ізраілі, Іарданіі і іншых краінах свету. Сэнс у іншым: я пачаў пісаць пра свае падарожжы, захацелася расказаць пра ўбачаны мной свет не энцыклапедычнымі словамі, а неяк інакш. А жыць трэба там, дзе твой дом.

**— Якія вашыя фотапраекты пабачылі свет да "Непрыдуманай Эфіопіі"?**

— Я ніколі не пазіцыянаваў сябе ні фатографам, ні, барані бог, фотамастаком. Пасля таго, як у мяне з'явіліся інтэрнэт-праекты, дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян прапанавала мне зрабіць выстаўку "Непрыдуманая Эфіопія". Спадзяюся, што гэта толькі пачатак.

**— Ці здаралася падчас падарожжаў рызыкаваць жыццём?**

— Нам не дадзена ведаць, што, дзе і калі падрыхтаваў лёс, як і не дадзена ведаць, хто гэтыя лёсы піша. Справа ў тым, што калі мы падпарадкоўваемся правілам гульні і прытрымліваемся элементарных мер перасцярогі, то, хутчэй за ўсё, нам нічога не пагражае. Мне не хацелася б пералічваць усе магчымыя рызыкі падчас падарожжаў, прывяду толькі адзін прыклад. Калі я аднойчы вярнуўся жывым і здаровым з падарожжа па Замбіі, дзе водзяцца малярыйныя камары, і па Тарангіры, дзе лютавалі мухі цэцэ, я быў жорстка пакусаны звычайным рудым беларускім мурашом, калі рамантаваў ганак на мамімым лецішчы пад Мінскам...

**— На ваш погляд, дзе кожнаму чалавеку варта пабываць хаця б раз у жыцці?**

— Там, дзе ён хоча, а не там, дзе жадаюць бачыць яго іншыя, няхай нават вельмі блізкія яму людзі.

**— Вы жылі ў эфіопскіх плямёнах 15 дзён. Як да вас ставіліся тыя людзі?**

— Яны дзіўныя — людзі з плямёнаў даліны Ома на поўдні Эфіопіі. Нягледзячы на неверагодна складанае жыццё, яны добрыя і наіўныя. Скажу вам шчыра, часам з імі мне было нашмат прасцей, чым у некаторых іншых, больш развітых краінах. Яны не прагныя, не азлобленыя, а галоўнае — не зайздросныя. З імі трэба заставацца самім сабой.

**— На некаторых фотаздымках, выстаўленых у музеі, можна ўбачыць людзей са зброяй. Чаму?**

— Усе плямёны поўдня Эфіопіі — жывёлаводы. Таму наяўнасць аўтаматычных вінтовак ці нават аўтаматаў Калашнікава ў пастухоў — не рэдкасць. Такім чынам яны абараняюць свае статкі ад нападу іншых плямёнаў.

**— Чаму "цывілізаваны" чалавек можа павучыцца ў прадстаўнікоў такіх плямёнаў, як мурсі, каро?**

— Самаму галоўнаму: жыць так, як яму хочацца.

**— Вы зноў збіраецеся ў Афрыку…**

— Не ведаю, наколькі рэалізуюцца мае планы, але я хачу ўзняцца ў горы Руанды на пошукі горных гарыл, злавіць нільскага акуня ва Угандзе і пагладзець, што варыцца ў гіганцкім прыродным рондалі — у жарале актыўнага вулкана ў Конга.

# Вершы-аблокі

Васіль БАРХАНАЎ

Алесь Дуброўскі — адзін з тых выпускнікоў-філфакаўцаў Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, якімі сёння там ганарацца і выкладчыкі, і студэнты. Не буду пералічваць прозвішчы паэтаў і празаікаў, што выйшлі са сцен гэтай навучальнай установы, іх шмат і яны на слыху, прыемна, што ўсе плённа працуюць на літаратурнай ніве.

Сваю сцежку ў паэзіі праклаў і гамяльчанін Алесь Дуброўскі. Перш чым выдаць першую кнігу паэзіі "І будзе лета апасля…" (2005), ён друкаваўся ў мясцовых і рэспубліканскіх газетах і часопісах, у альманахах. Потым свет пабачыла другая кніга — "Непрадказальнасць дня" (2008), і вось сёлета з'явілася трэцяя — "Дня наступнага свята". Як сказана ў анатацыі, "вершы Алеся Дуброўскага прываблівaюць і агульначалавечым гучаннем, і глыбока асабістымі матывамі. Гэта погляд чалавека ўдумлівага, які імкнецца спасцігнуць сутнасць з'яў і не страціў цікавасці да жыцця. Яго паэзія прасякнута адчуваннем грунтоўнасці зямнога быцця, прыгажосці прыроды і злітнасцю асобы з ёй. Вельмі выразныя, лаканічныя яго лірычныя мініяцюры-назіранні. Нярэдка гэта іранічнае бачанне жыццёвых праяў, што надае ім новае гучанне і эмацыянальна-пачуццёвую афарбоўку".

Трэба адразу заўважыць, што чарговы зборнік А. Дуброўскага ўражвае сваёй цэльнасцю. Паэта хвалююць самыя розныя праблемы, што могуць хваляваць сёння чалавека, улюбёнага ў сваю Айчыну, у родныя палеткі і лугі, у лясы, рэкі і азёры. У вершы "Радзіме" ён шчыра прызнаецца:

*Я не лісток, сарваны ветрам:*
*Куды падзьме — ён і ляціць.*
*Мне даспадобы дома жыць,*
*Удыхаць сваіх бароў паветра.*

Лірычны герой Алеся Дуброўскага не проста захапляецца роднымі мясцінамі, зусім не — ён гаспадар на зямлі, гаспадар клапатлівы, дбайны. Пра гэта сведчаць і наступныя радкі: "Вясною, як паспее глеба, // калі яе так прагне плуг, // і я ўзараць бяруся круг — // у генах гэткая патрэба". Тэма вёскі, сялянства ад верша да верша атрымлівае ў творах паэта далейшае паглыбленне і развіццё. Вядома ж, ён прысвячае радкі і самаму блізкаму, роднаму чалавеку — маці. Наогул, тэмы Радзімы і Маці знітаваныя.

У кнізе "Дня наступнага свята" ёсць душа. Зайздросціш яе аўтару, які размаўляе з чытачом проста і даходліва, стварае вобразны паэтычны малюнак, напоўнены іншы раз і глыбокім філасофскім зместам, і высокімі патрыятычнымі пачуццямі. Так бачыць ён жыццё: "Воблакі, якія праплываюць у небе, адлюстроўваюць тое, што адбываецца на зямлі".

А разам з ім, пагадзіцеся, паглядзелі на аблокі інакш і мы, чытачы.

# Журналістаў кормяць ногі, тэатралаў — галава

Ірына КАРЭЛІНА

Хлусня гэта ўсё, што моладзь перастала цікавіцца літаратурай, наведваць выстаўкі і тэатры. Калі ты студэнт, а тым больш якога-небудзь факультэта з гуманітарным ухілам, любіць тэатр — значыць мець добры густ. І паводле маіх назіранняў, палова журфакаўскага кантэнгенту піша пра культуру, астатнія непасрэдна яе ствараюць.

Год таму ў інстытуцкім будынку на Кальварыйскай з'явілася суполка тэатралаў. Навіна хутка абляцела ўсе паверхі. Да новаспечанага калектыву паставіліся па-журналіцку скептычна: здаецца, ніхто не верыў, што аматары здолеюць прыўнесці ў тэатральны свет што-небудзь значнае.

А тым часам яны рэпеціравалі, практыкаваліся, рабілі мініяцюры і, што немалаважна, прыдумлялі арыгінальную назву сваёй трупе. Дэбют адбыўся ў сценах альма-матар у Дзень роднай мовы. "Галаванага" (такое інтрыгуючае імя далі калектыву) паказала журфакаўцам перформанс "Чаму?" па матывах апавядання Ядвігіна Ш. Відаць, пытанне было рытарычным, бо "Чаму?" паўтарылі зноў, але ўжо на прафесійнай (хаця і малой) сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі з нагоды прэзентацыі тэатральнага альманаха "Дзверы". Гэта было кропкай адліку. Маленькі тэатр пачаў рабіць вялікія крокі. Пластычная пастаноўка "Фукусіма. Дождж" у холе Новага драматычнага тэатра (паміж спектаклямі "Таго Самага фестывалю"), конкурс моладзевых студэнцкіх ініцыятыў "Час жыць" у Маладзечна (2-е месца ў намінацыі "Пантаміма"), удзел у фестывалі "Дзверы", сумесны праект з тэатрам "СіГаль" — вербальна-візуальная адаптацыя п'есы Паула Пражко "Лёгкае дыханне"…

У "Галавы-нагі" няма рэжысёра, які б прафесійна займаўся сцэнічным майстэрствам. Усё, што робяць самадзейныя артысты, — гэта калектыўная праца. Яе вынік — смелыя сцэнічныя эксперыменты. Ці ўдалыя? Думаю, так: на прэзентацыі альманаха "Дзверы" пачаткоўцаў заўважыў тэатральны крытык Аляксей Стрэльнікаў. Акрамя таго, ён згадзіўся дапамагаць у новых пастаноўках.

— Вельмі важна, каб маладзёжныя калектывы бралі п'есы сучасных драматургаў, і беларускіх у прыватнасці, — лічаць акцёры "Галавы-нагі" Алена Іванюшанка і Кацярына Карпіцкая. — Прынамсі, у нашых тэатраў ёсць галоўнае — энтузіязм і крэатыўныя ідэі. А астатняе прыйдзе з вопытам.



***На здымку: тэатр "Галаванага".***

Алесь РУНЕЦ

**Адначасова на дзвюх прэстыжных сталічных выставачных пляцоўках — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ды ў апартаментах Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў нашай краіне — упершыню экспанаваліся творы Юрыя Выхадцава, аднаго з найстарэйшых айчынных графікаў. Выстаўкі мастака прымяркоўваліся да яго 85-годдзя.**



# Адкрываем... свайго класіка!

На вернісажы “Класіка графікі. 1960 — 1970 гады” ў Нацыянальным мастацкім музеі народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі так выказаўся пра Юрыя Выхадцава: “Нарэшце адбылося адкрыццё для шырокай грамадскасці гэтага таленавітага айчыннага майстра акварэлі і дасканалага малюнка, яркага прадстаўніка і паслядоўніка класічнай рэалістычнай школы, які, на жаль, працяглы час быў незаслужана абдзелены ўвагай калег ды крытыкаў — нават не ўваходзіў у Беларускі саюз мастакоў...”

Тая выстаўка была зборная і прадстаўляла творчасць некалькіх майстроў-юбіляраў: Васіля Ткачука (1926 — 2005), Міхаіла Бельскага (1921 — 1988), Рыгора Клікушына — жывога патрыярха беларускага графічнага мастацва, 90-гадовага віцьбляніна. Ды ў адрозненне ад гэтых паважаных імёнаў, якім прысвечаныя мастацтвазнаўчыя даследаванні, манаграфіі, імя Юрыя Выхадцава нават няма ў даведачных крыніцах. Здавалася б, што ж тут неверагоднага: ці мала такіх недарэчнасцей, калі справа датычыць перыпетый у чалавечых лёсах з г. зв. “багемнага” асяроддзя! Ды ўсё ж...

Больш як паўстагоддзя Ю. Выхадцаў няспынна і самааддана творча працаваў, імкнуўся па магчымасці ўдзельнічаць у значных рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках, якія ладзіліся Міністэрствам культуры, Мастацкім фондам БССР, саюзам мастакоў спачатку ў нашым Дзяржаўным мастацкім музеі, а з 1973 г. — у сталічным Палацы мастацтва. У яго біяграфіі — каля 10 такіх выставак. Апошняя з іх — “Акварэль і малюнак” — адбылася ў 1987-м, і значная плошча экспазіцыі (не менш як 1/6 залы) была тады адведзена грунтоўным алоўкавым кампазіцыям ды трапным пленэрным замалёўкам з натуры, выкананым Юрыем Выхадцавым — тады 60-гадовым, сталым, але “нетытулаваным” беларускім майстрам. А ў фондах галоўнай мастацкай скарбніцы краіны супрацоўнікі музея, рыхтуючы сёлетні вернісаж, са здзіўленнем адшукалі аж два дзясяткі высакакласных, віртуозна прафесійных работ гэтага “малавядомага” творцы, набытых дзяржавай яшчэ за савецкім часам і нідзе дагэтуль не паказаных...

Чвэрць стагоддзя (да самай пенсіі) Юрый Фёдаравіч добрасумленна адпрацаваў простым выкладчыкам спецыяльных дысцыплін у Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава, дзе годна выхаваў вялікую кагорту сучасных дзеячаў мастацтва і культуры. Сам ён скончыў тое ж ММВ, куды паступіў адразу пасля службы ў Савецкай Арміі, затым, у 1960-м, — аддзяленне станковай графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер БДАМ). Яго настаўнікамі ў прафесіі былі легендарныя беларускія мастакі-педагогі П. Любамудраў, Л. Лейтман, А. Мазалёў, С. Герус.

Ініцыятыва зрабіць у Мінску юбілейны паказ твораў Ю. Выхадцава зыходзіла найперш ад родных ды сяброў, шматлікіх калег — колішніх яго вучняў, мастацтвазнаўцаў, неабыякавых да лёсу сучаснага айчыннага выяўленчага мастацтва. Дарэчы, дачка Юрыя Фёдаравіча — Алена Выхадцава — з іх дапамогай апаратыўна падрыхтавала да друку невялічкі каляровы буклет. Там змешчана і трапнае выказванне знанага мастака Ігара Бархаткова пра легендарнага Настаўніка, які з'яўляецца для яго выхаванцаў прыкладам сумленнасці і сціпласці ў жыцці, апантанасці ды бескампраміснасці ў творчасці: “Бадай, зусім няшмат знойдзецца ў беларускім мастацтве творцаў, настолькі захопленых станковым натурным малюнкам, як Ю. Выхадцаў. Сотні завершаных малюнкаў, накідаў, акварэляў, створаных у вандроўках па роднай беларускай зямлі, — безумоўная з'ява ў мастацтве Беларусі пасляваеннага часу. Строгі адбор, нервовае абвостранае бачаннеператвараюць плякатную паверхню аркуша паперы ў жывую карціну свету, дзе ёсць колер, прастора і рух... Сёння мы толькі пачынаем адкрываць мастака драматычнага лёсу, дзівоснага таленту і высокага майстэрства”.

Адна з самых ранніх самастойных работ мастака — шмат у чым аўтабіяграфічны цыкл літаграфій пад назвай “Вязні”. У майстэрні Ю. Выхадцава захаваліся чатыры аркушы з гэтай нізкі: “Уцёкі з канцлагера”, “Да сваіх”, “Музыка”, “Вызваленне”. Аднак працягла працаваць надалей над тэмай мінулай вайны, як гэта рабілі на той час іншыя беларускія творцы, ён не змог: вельмі балючыя былі асабістыя душэўныя раны, якія не загойваліся ніколі, звязаныя з успамінамі пра нямецкі палон у яго падлеткавыя гады…

Здзяцінства Юрый, жывучы ў Мінску (тут ён нарадзіўся 27.03.1926 г.), марыў стаць, як і яго бацька, прафесійным мастаком. У канцы 1938 г. сям'я Выхадцавых, ратуючыся ад сталінскіх рэпрэсій, пераязджае ў г. Паўлаўск. Там жыве ў “камуналцы” — наўпрост у адным з пакояў Елізаветынскай палацава-паркавай сядзібы XVIII ст., дзе атрымаў службовую пасаду (спачатку мастацтвазнаўцы, затым і намесніка дырэктара музея) Фёдар Мікалаевіч Выхадцаў. Узімку 1939 — 1940 гг. адбылася Фінская вайна… У 1941-м пачалася Вялікая Айчынная… Фёдара Выхадцава мабілізавалі на фронт, пры канцы 1941 — пачатку 1942-га ён знік без вестак.

Пры падыходзе да Ленінграда фашысты або знішчалі цывільнае насельніцтва, або прымусова “дэпартавалі” працаздольных жанчын з дзецьмі ў Германію — як рабоў… Што перажыў юны Ю. Выхадцаў у фашысцкай няволі — аднаму Богу вядома. Ён не любіў выносіць свае патаемныя гаротныя пачуцці, думкі “на людзі”, тым больш што пасля вызвалення з фашысцкага рабства ў канцы 1944 г. і вяртання на Радзіму ў 1945-м яму даводзілася не раз яшчэ даказваць сваю “невінаватасць”…

Але ж Юрыя Фёдаравіча ніхто ніколі не бачыў замкнёным, панурым, неспакойным. І ён быццам “не спяшаўся” жыць, нікуды не “рваўся”, ніколі не навязваў свайго меркавання суразмоўцам. Як пільна ўглядаўся ён разам з вучнямі падчас вучэбных летніх пленэраў (або выездаў у калгасы “на бульбу”) ці не ў кожнае прыдарожнае каржакаватае дрэва альбо велізарны камень-валун, парослы мхом! Вясковыя драўляныя хаты,



жывёла, птушкі, збуялая трава на квітнеючым лузе, блакітныя люстэркі беларускіх рэчак, азёр… У назіральнасці, у адлюстраванні праяў жывога навакольнага свету, роднай прыроды для студэнтаў славутай “глебаўкі”, мабыць, не было больш аўтарытэтнага выкладчыка–практыка. Уласным прыкладам ён пераконваў, што шчасце для чалавека — проста жыць на зямлі, а для мастака яшчэ і здольнасць паўсюдна бачыць-прыкмячаць Прыгожае, Станоўчае! Што прыгажосць не можа быць “лепшай” і “горшай”, яна, як праўда, — на ўсіх адна.



Бадай, самы ўзрушальны твор з той ранняй, ваеннай серыі Ю. Выхадцава — “Музыка”. Сюжэт аркуша ў нейкім сэнсе можна назваць даволі тыповым для рэалій незабыўнага ліхалецця, бо мы ведаем, як “вытанчана” глуміліся фашысты са сваіх палонных, безабаронных ахвяр. З левага боку літаграфіі — памост шыбеніцы, на якім стаяць карнікі-эсэсаўцы, справа ўнізе — “музыканты”: яўрэі з канцлагера, са скрыпкай… Жалобная мелодыя нібы разносіцца рэхам па наваколлі… Жудасны момант! Але гэтым гаротнікам-вязням “спачувае”, моўчкі слухаючы іх пранізлівую музыку, суровы і насцярожаны, адвечны абаронца — лес, які раскінуўся на ўсю прастору графічнай кампазіцыі…

Асноўны матыў лірыка-эпічных пейзажаў Ю. Выхадцава — паказаны буйным планам збіральны, сакральны вобраз роднай Маці-Зямлі: прыгожай, непаўторнай, гарманічнай у сваім атачэнні, у розныя паравіны года, у стане непагадзі ці сонечна-лагоднага зацішша. І колькі ж музыкі, “сімфанічнасці”, колькі сур'ёзных мастакоўскіх назіранняў, філасофскіх разваг у рэалістычна-рамантызаваных імпрэсіях або экспрэсіях майстра! Міжволі ўзнікаюць параўнанні з выбітнымі айчыннымі пейзажыстамі-класікамі Ф. Рушчыцам, В. Бялыніцкім-Бірулем, В. Цвіркам.

Відавочна, што ў творчасці гэтага яскравага мастака адбілася нейкім чынам і светаўспрыманне яго бацькі, адметнага беларускага савецкага культурна-грамадскага дзеяча даваеннага часу, руплівіцы нацыянальнага Адраджэння, штатнага супрацоўніка Дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея, мастака-карыкатурыста.

Пра кожную з кампазіцый Ю. Выхадцава, якія нагадваюць своеасаблівыя выяўленчыя эсэ, можна распавядаць бясконца! Вось, напрыклад, “Вязынка”: дарагі кожнаму беларусу памятны куточак, радзіма нашага народнага песняра — Янкі Купалы. Мастак ні ў якім разе не абмяжоўваецца “канстатацыяй фактаў”, малюе зачаравана, з натхненнем, ствараючы багаты, насычаны эмоцыямі, “фальклорны”, рэалістычна-былінны абагульнены вобраз роднай старонкі, дзе, быццам у райскім садзе, лагодна прытулілася да дрэўца на маляўнічым абшары ўзгоркаў-пералескаў міфічная Папараць-кветка… Сімвалічна-філасофскі сэнс нясе драматызаваная экспрэсіўнасць пейзажа “Сланечнікі”. Восень, пахмурна, свінцова-шэрае неба, парывісты вецер-сівер. На лапіку апусцелай зямлі пакінутага ўжо на зіму сялянскага агарода гойдаецца туды-сюды, упарта “змагаецца” з няўмольнай стыхіяй (не раўнуючы, Дон Кіхот!) буйны жоўты, нібыта цёплае летняе ласкавае сонца, самотны “позні” сланечнік. “Няўдалая” расліна, але ж асабліва прыгожая ў непагадзь! З ветрам сыплецца дзе-нідзе долу спелае зерне сланечніка — значыць, узнімуцца ўвесну маладыя парасткі!

Творы Юрыя Выхадцава заўсёды існавалі нібыта “па-за часам”. Яны — класічныя паводле свайго агульначалавечага гучання, зместу. Яны пазбаўленыя як надуманага сэнсу, штучнага, заідэалізаванага пафасу (характэрнага ў цэлым для выяўленчага мастацтва БССР), так і пазасэнсавай рафінаванай дызайнерскай “аблямоўкі”, зарыентаванай на “модныя” тэндэнцыі ў выяўленчым мастацтве і разлічанай на спажыўца-абывацеля. Таму не ўпісваліся і не ўпісваюцца ў кан'юнктуру дня. Так, яго работы — не “глянцавыя” сентыментальныя вывы, не “ілюстрацыі” роднай прыроды, а Мастакоўская Споведзь “камлюкаватага тутэйшага”, які прайшоў доўгае, нялёгкае жыццё і шмат чаго пабачыў ды перажыў за свой век. Прывабныя, змястоўныя, глыбока патрыятычныя, высокамастацкія графічныя творы майстра “Вясна”, “Ралля”, “Зіма”, “У імгле”, “Лясное возера”, “Пасля дажджу”, “Ля Свіслачы”, “Старое дрэва”, “Плошча Перамогі. Першакласнікі”, “Двор на Старавіленскай”, “Полацкая зямля” ды многія іншыя — гэта і гісторыя, і краязнаўства, і этнапобыт, і менталітэт беларусаў. Наша мінуўшчына і сучаснасць і заўсёдная цярплівая надзея-вера ў годнае жыццё, якое не бывае бестурботным...

Думаю, той, хто бачыў на сёлетніх выстаўках работы Юрыя Выхадцава, адкрыў для сябе сапраўднага класіка, чый багаты творчы свет саграе душы гледачоў, выклікае пазітыўныя думкі ды асацыяцыі, дае прыклад шчырага, незаангажаванага погляду на Радзіму, Сусвет і сваё адпаведнае сціплае месца ў вялікай рэальнасці.

***На здымках: Юрый Выхадцаў і яго графічныя пейзажы “Плошча Перамогі. Першакласнікі”, “Вербы”.***

Яўген ШУНЕЙКА,
мастацтвазнаўца

**Мастацкія перамены ў творчым працэсе XX — пачатку XXI ст. прынята падзяляць на дзесяцігоддзі, на працягу якіх адбываліся і працягваюць множыцца відавочныя эстэтычныя навацыі як на мадэрністычным Захадзе, так і на больш памяркоўна-традыцыйным Усходзе. У сувязі з гэткім зручным падзелам можна вызначыць і прадстаўнікоў розных мастацкіх пакаленняў, народжаных у пэўным дзесяцігоддзі, якія неўзабаве далучыліся да творчых пошукаў і эксперыментаў. Сярод такіх эксперыментатараў з даволі багатым прафесійным стажам — вартыя асаблівай увагі нашы "пяцідзясятнікі", дакладней кажучы, тыя, хто нарадзіўся ў 1950-х гадах.**



# «Пяцідзясятнікі»

Многія з іх параўнальна нядаўна, у 2000-х, правядзеннем персанальных выставак адзначылі свой паўвекавы юбілей і цяпер хутка набліжаюцца да чаргавага, этапнага для свайго творчага жыцця, 60-годдзя. Ад спанатраных лідараў-творцаў чакаецца ў іх сталы перыяд нешта надзвычай актуальнае, мудрае, па-сапраўднаму пераждытае, што неадноўчы сустракалася ім на ўласным шляху і дапамагло ў сканцэнтравана вобразнай форме перадаць асаблівасці і прагрэсіўныя з'явы таго ці іншага часу. Вельмі расчароўвае, калі такіх істотных з'яў пэўныя мастакі па нейкіх суб'ектыўных прычынах не ў стане заўважаць, быццам настроеныя пражыць у творчасці да срэбных скроняў бесклапотна, бяздумна, банальна.

Марная справа — апраўдваць недаравальна трывіяльныя вынікі ўжо далёка не пачаткоўцаў у выяўленчай сферы (калі такое можа надарыцца), зыходзячы з таго, што яны не былі сведкамі і ўдзельнікамі барацьбы з карычневай чумой мінулага стагоддзя, а ў мірны час бракуе экстрэмальных перажыванняў для мастацкіх шэдэўраў. Дзякуй Богу, "пяцідзясятнікам" не давялося, як іх папярэднікам, брацца ў юнацтве за зброю, перажыць блакаду ці акупацыю, пакутаваць у дзяцінстве ад голаду і матэрыяльнай нястачы. Іх першыя жыццёвыя ўражанні былі, без перабольшванняў, светлыя і нават ідылічныя. Аўтар гэтых радкоў сам нарадзіўся акурат у адзін з перамножных майскіх дзён праз дзесяць гадоў пасля гістарычнага вызвалення Беларусі і ўжо не бачыў зруйнаванняў, пакінутых ваенным ліхалеццем. Наш народ з дзівоснай, непараўнальнай працавітасцю вельмі хутка аднавіў родную краіну. Пра жахі нядаўняга мінулага, якія немагчыма было супаставіць з нашым дзіцячым жыццём, мы толькі чулі ад дарослых. Так, даводзілася шмат разоў стаяць у чэргах па газу, розныя дэфіцытныя прадукты; быць акцябратамі, піянерамі, камсамольцамі; лічыць хрысціянскую веру шкоднымі "забабонамі"; падпарадкоўвацца многім тыповым умовам савецкага ладу жыцця, але гэта ні ў якое параўнанне не ідзе з пеклам 1940-х гг., што выпала на долю старэйшых.

Аднак і ў мастакоў, каму было наканавана з'явіцца на свет у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, ёсць што данесці з асобста перажытага сваім гледачам. Такое ўражанне, што на нас ужо не ўздзейнічала запраграмаваная ідэалагічная лухта, мы актыўна цягнуліся да мастацтва як да чароўнага "вострава асабістай свабоды". Было такое ўражанне, што загартаваныя і непахісныя "ахоўнікі савецкіх догмаў" лічылі нас настолькі маналітна-надзейным патэнцыяльным матэрыялам для "будаўніцтва светлай будучыні", што ўжо не вельмі перашкаджалі развіццю маладзёжнага вальнадумства. А яно шырылася і паглыблялася, асабліва ў творчым асяроддзі.

"Пяцідзясятнікам" надзвычай пашчасціла ў канцы 1960-х — 1970-х гг. атрымаць на радзіме паўнавартасную мастацкую адукацыю. У той перыяд свой зорны час перажывалі Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава і Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка, дзе змаглі засвоіць неабходныя асновы мастацкай падрыхтоўкі многія здольныя юнакі і дзяўчаты з розных куткоў Беларусі. А потым — свядомы працяг прафесійнай вучобы ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце або на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педагагічнага інстытута. Якая тады была рамантычная атмасфера студэнцкага жыцця, якія незабыўныя і аўтарытэтныя педагогі выкладалі!

Кожны малады мастак тады ставіў перад сабой вельмі амбітныя мэты: заслужыць усесаюзнае прызнанне, стварыць нешта велічнае, вартае яго здольнасцей. У Мінску штогод адбываліся шматлікія мастацкія выстаўкі, якія былі важным унёскам у культурны патэнцыял БССР.

Мабыць, тымі пераломнымі падзеямі, якія вызначылі нацыянальны характар творчых планаў і перспектыў шматлікіх маладых творцаў, былі адкрыццё ў сталіцы помнікаў да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама мастацка-літаратурнае святкаванне (па рашэнні ЮНЕСКА) 500-годдзя напісання паэмы "Песня пра зубра" М. Гусоўскага. Бальшыня "пяцідзясятнікаў", якія неўзабаве сталі вядомымі мастакамі, па-добраму "перахварэла" на ідэі нацыянальнага рамантызму, культурна-гістарычнага асветніцтва, пачынаючы з курсавых і дыпломных работ. Іх творчай перамогай над перыядам ідэалагічнай стагнацыі можна лічыць мінскую групавую выстаўку У. Савіча, В. Альшэўскага, М. Селяшчука, Ф. Янушкевіча і іншых на Паркавай магістралі ў 1984 г. Яна выклікала сапраўдную бюракратычную збянтэжанасць, але маладыя мастакі не спалохаліся газетных цкаванняў і атрымалі бясспрэчную перавагу, далі прыклад прафесійнай годнасці. А неўзабаве і ў Беларусі, як па ўсім СССР, пачалася "перабудова", што мастакі-"пяцідзясятнікі" ўспрынялі са шчырым энтузіязмам. За лічаныя гады адбылася сапраўдная ломка ідэалагічных табу, і творчы працэс набыў небывалую свабоду, пра якую раней нават цяжка было марыць. Менавіта маладым мастакам, якія дэбютавалі першымі ўдалымі творамі ў канцы 1970-х, "перабудова" дазволіла ўпершыню адчуць сябе злучанымі з агульнаеўрапейскай творчай прасторай і мець поўнае прафесійнае права на індывідуальную мову самавыяўлення ў разнастайных выяўленчых стылях і формах. 1990 — 2000-я гады, ужо непасрэдна звязаныя з абвяшчэннем і міжнародным прызнаннем незалежнасці Беларусі, яшчэ больш спрыялі гэтай творчай свабодзе.

Сапраўды, творчы старт моладзі канца 1970-х быў надзвычай плённы. Уладзімір Кожух, Уладзімір Савіч, Уладзімір Вішнеўскі, Віктар Ціханаў, Аляксандр Ксяндзоў, Анатоль Александровіч, Уладзімір Зінкевіч, Мікола Аўчыннікаў, Сяргей Давідовіч, Васіль Касцючэнка, Юрый Піскун, Васіль Камароў, Віктар Мікіта, Уладзімір Рынкевіч і многія іншыя выявілі зайздросныя здольнасці і майстэрства. Ім ужо з першых самастойных крокаў належала будучыня лідараў, бо яны імкліва дасягнулі таго ўзроўню, калі можна казаць пра сапраўдную моц уздзеяння іх мастацтва. А гэта вялікі Дар, якім трэба карыстацца для важных, адказных мэт, якія самым прагрэсіўным чынам уплываюць на развіццё грамадства. А калі гэты Дар прыніжаць дзеля камерцыйных інтарэсаў, бясконцых паўтораў аднойчы знойдзенага, калі не быць паслядоўным, задавальняцца паверхоўнымі вынікамі, не ставіць перад сабой прынцыпова новых задач? Тады можна неўзабаве згубіць творчую ініцыятыву і страціць жыватворныя сувязі з невычэрпнымі ідэямі сучаснага мастацтва.

Шчыра кажучы, ёсць такая небяспека для паважаных майстроў, якія задужа "стабілізаваліся", "знайшлі свой нязменны, брэндавы стыль". Іх творы лёгка пазнаюцца з першага позірку ў кожнай чарговай экспазіцыі, бо нагадваюць тыя, што ўжо даўно вядомыя з папярэдніх, пачынаючы ад 1990-х гадоў. Не пашыраецца ў апошнія дзесяцігоддзі, а звужваецца, на жаль, рэчышча наватарства "пяцідзясятнікаў". Раней былі іх сенсацыйныя здабыткі ў тэхніках эстампа, прысвечаныя нацыянальным каштоўнасцям. Кожны такі твор урэзваўся ў памяць назаўсёды — як жывы адбітак, сведчанне творчых адкрыццяў. А цяпер дамінуюць у графіцы г. зв. змяшаныя тэхнікі, звязаныя найчасцей з вельмі неакрэсленымі асацыяцыямі, пераўскладнёнай і забытанай сімволікай.

Так і не зрабілася для пасталелых майстроў глыбока пранікнёнай і перажытай тэма іх "малой радзімы", хоць нарадзіліся яны ў такіх маляўнічых гарадах, як Мінск, Віцебск, Магілёў, Гродна, Лоеў, Драгічын, у непаўторна каларытных вёсках Балотчыцы, Баравыя, Хатавічы на Міншчыне, Стралічава, Сярэднія Печы на Гомельшчыне, Вугальшчына на Магілёўшчыне і інш. Які сэнс захапляцца замежнымі падарожжамі, эфектным пазіраваннем на фоне Луўра ці Парфянона, калі невядомымі для суайчыннікаў і замежнікаў застаюцца непаўторныя куточкі роднай зямлі, дзе захоўваецца чароўны дух першых эстэтычных уражанняў дзяцінства выдатных мастакоў-прафесіяналаў? Пытанне без адказу...

***На здымку: Фелікс Янушкевіч "Кастусь Каліноўскі", трыптых (палатно, алей). 1978.***

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Адлюстраванне святла

**Аб'яднанне "Верасень" было створана ў 1989 годзе як супольнасць прафесійных мастакоў-аднадумцаў па поглядзе на мастацтва і прынцыповых жыццёвых ўстаноўках, не схільных да ніякіх палітычных амбіцый, а закліканых сваёй творчасцю пацвярджаць высокія маральныя і духоўныя агульначалавечыя каштоўнасці. Традыцыйна раз на два гады ладзяцца, так бы мовіць, справаздачныя выстаўкі. Так было і сёлета: буйная экспазіцыя творчага аб'яднання ладзілася ў Палацы мастацтва.**



На афіцыйным адкрыцці слова бралі першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, намеснік старшыні БСМ па выставачнай дзейнасці Сяржук Цімохаў, народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў нашай краіны Сяргей Волкаў, прафесар, каліграф Павел Семчанка.

Выступоўцы адзначалі, што суполка "Верасень" надзвычай цікавая па сваім складзе таленавітых, інтэлігентных людзей-творцаў. Дваццацігоддзе творчага аб'яднання не толькі пацвердзіла сваё права на жыццё, але і даказала, што жыццё гэтае прыгожае, шляхетнае, творчае. У "Верасні" сабраныя розныя людзі, яны не аб'яднаныя па цэхавай прыкмеце, як гэта было ў савецкі час: жывапісцы асобна, графікі асобна, скульптары самі па сабе. Тут працуюць адзінаверцы, якія паважаюць адно аднаго і з разуменнем адносяцца да творчасці.

Прафесар Павел Семчанка падкрэсліў, што мы прыходзім у гэты свет, каб убачыць яго святло, а некаторым абраным дадзена гэтае святло адлюстроўваць. Мастакі ўзбуджаюць нашы пачуцці, разважлівасць. Мы задумваемся над кожнай карцінай, таму што ў кожным творы, а інакш ён не твор, ёсць свая таямніца. Вось гэтую таямніцу мы і спрабуем прачытаць, адчуць, уявіць. Таму што мастацтва рознае: няма ніводнай работы, якая б падабалася ўсім. Мастацтвазнаўца, старшыня творчага аб'яднання "Верасень" Ніна Марчанка зазначыла, што на традыцыйных выстаўках суполкі адзначаюцца жыццёвыя і творчыя юбілеі калег. Сярод сёлетніх юбіляраў — адзін з заснавальнікаў суполкі Георгій Паплаўскі, Наталля Паплаўская, Наталля Сустава, Тамара Чарнышова, якая працуе ў розных відах выяўленчага мастацтва: выдатны станкавіст, акварэліст, партрэтыст, сцэнограф, мадэльер, зрабіла ў свой час адмысловыя касцюмы для ансамбляў "Песняры", "Верасы", для шматлікіх расійскіх калектываў.

Не забываюць у суполцы мастакоў, якія пайшлі з жыцця: ладзіліся экспазіцыі Мікалая Казлова, Віктара Клімэнкі, Пятра Лысенкі.

Цяпер у суполцы 25 членаў БСМ. Гэта вядомыя ў краіне мастакі-графікі, якія валодаюць усімі відамі графічнага і жывапіснага мастацтва. У "Верасні" згуртаваліся аднадумцы, якія, можа, і не падзяляючы стылёвыя і прафесійныя пошукі адно аднаго, тым не менш, засталіся адданымі сваім агульным прынцыпам і поглядам на творчасць.

У выстаўку ўвайшлі работы Георгія, Наталлі ды Кацярыны Паплаўскіх, Сяргея Волкава, Мікалая Рыжыкава, Уладзіміра Пашчасцева, Юрыя Зайцава, Ірыны Лобан, Міхаіла Сенькіна, Уладзіміра Шнарэвіча, Генадзя Дзянісава… Улюбёным матэрыялам для многіх мастакоў "Верасня" стаў акварэльны жывапіс. Плённа працуюць у гэтай тэхніцы Яўген Жылін, Яўген Саковіч, Таццяна Царова, Лідзія Ліхадзед.



Акварэлісты "Верасня" штогод бяруць удзел у рэспубліканскіх выстаўках, у міжнародных праектах, ладзяць персанальныя экспазіцыі. Кожная з іх мае свой персанальны почырк, датычны да сучасных тэндэнцый і акадэмічных традыцый.

Выстаўка твораў суполкі азнаёміла гледачоў з сённяшнім этапам творчасці ўдзельнікаў "Верасня", чыё мастацтва складае арганічную частку сучаснага беларускага жывапісу і графікі, дае адчуванне дынамікі ўнутранага жыцця і развіцця мастацтва ў яго шматстайнасці.

***На здымках: Кацярына Паплаўская "Мінск. Траецкае прадмесце"; Мікалай Рыжыкаў "Прадаўшчыца садавіны" з цыкла "Падарожжа па Непале".***

# І ажывае палатно…

**У кожнага з нас ёсць любімы занятак. Напрыклад, Рамуальда Траццяк з вёскі Камарова, што на Мядзельшчыне, з вялікім задавальненнем вышывае. Праўда, наколькі сур'ёзна і грунтоўна яна гэтым захапляецца, я даведалася толькі летась, калі ўбачыла работы майстрыхі на выстаўцы народных умельцаў падчас традыцыйнага свята "Камарова — кола дзён".**

**Марыя ЛУБНЕЎСКАЯ, фота Аляксандра Высоцкага**

Усе яе карціны прысвечаны духоўнай тэме. З вялікай цікавасцю разглядалі работы Рамуальды Сцяпанаўны аднавяскоўцы, шматлікія госці, якія прыехалі на фэст. Гэта і не дзіўна. Кожная вышыванка — адметная і непаўторная. У кожнай адчуваецца часцінка душы ўмеліцы, яе вялікае жаданне зрабіць свой унёсак у справу адраджэння духоўнасці. Назвы работ гавораць самі за сябе: "Чырвоны касцёл", "Кіева-Пячорская лаўра", "Сіксцінская мадонна", "Вобраз Багародзіцы"… Каб выканаць іх так па-майстэрску, трэба ўкласці ў работы цеплыню душы, увішнасць рук і сукеецце таленту. Інакш не атрымаюцца яны шчырымі, кранаючымі за жывое.

Падчас размовы Рамуальда Сцяпанаўна патлумачыла, што вышываць любіла і раней. Толькі, на жаль, сур'ёзна заняцца гэтым не хапала часу. На першым месцы былі сям'я і работа. Затое цяпер, калі пайшла на заслужаны адпачынак, стараецца навярстаць упушчанае. Як толькі выдаецца вольная хвілінка, з радасцю бярэ ў рукі пяльцы, іголку з ніткамі і садзіцца за любімы занятак.

— Чаму ўсе вашы работы прысвечаны адной тэме? — цікаўлюся ў майстрыхі.

— Найперш таму, — чую ў адказ, — што за гады атэізму шмат чаго было забыта. Гэта быў час бязвер'я, стрчвання хрысціянскіх каштоўнасцей. Цяпер, вядома, сітуацыя іншая: адкрыты цэрквы, касцёлы, будуюцца новыя храмы. Радуе і тое, што свае намаганні ў фарміраванні агульначалавечай маралі аб'ядналі дзяржава і Царква. З дапамогай вышыванак я таксама аднаўляю страчаную духоўнасць. А разам з тым стараюся паказаць, якое вялікае культурнае багацце стваралася на працягу многіх стагоддзяў, і як важна ўсё гэта зберагчы і захаваць для нашчадкаў.

Для чалавека, які ўсё свядомае жыццё прысвяціў выхаванню падрастаючага пакалення, гэта сапраўды па сіле. Чатыры дзесяцігоддзі Рамуальда Сцяпанаўна адпрацавала ў школе, выкладала рускую мову і літаратуру. І тыя зярняткі любові і дабрыні, якія Рамуальда Траццяк за гады працы пасеяла ў душах сваіх вучняў, далі дружныя ўсходы. Дзякуючы ёй і іншым настаўнікам пераважная большасць вучняў Камароўскай сярэдняй школы знайшла сваё месца ў жыцці.

Рамуальда Траццяк вельмі любіла падарожнічаць і шмат дзе пабывала. У савецкія часы пашчасціла ёй трапіць у Германію. Там не змагла не зайсці ў знакамітую Дрэздэнскую галерэю. Больш за іншыя карціны зачаравала Сіксцінская мадонна. Ішлі гады, але яе вобраз жыў у душы беларускай настаўніцы. Не так даўно мадонну, як, дарэчы, і многае іншае з таго, што ў свой час захапіла жанчыну падчас шматлікіх паездак, яна паспрабавала перанесці на палатно, якое дзякуючы яе залатым рукам ажыло, радуючы і яе саму, і навакольных.



…Хоць пазнаёмілася з вышыванкамі Рамуальды Траццяк некалькі месяцаў таму, але і сёння яны стаяць перад вачыма. Увогуле, яе работы пакарылі мяне, бо яны, як мне здаецца, робяць розум і сэрцы ўсіх, хто іх бачыць, святлейшымі і дабрэйшымі. Таму што стварыў іх чалавек, які сам духоўна багаты, для якога дарога да Хрыста і Храма стала жыццёвай патрэбнасцю, крыніцай натхнення і любові да блізкіх.

***На здымку: Рамуальда Траццяк са сваёй работай.***

# Лялькі-патрыёткі



**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

**Каля чатырох дзясяткаў узораў нацыянальных беларускіх строяў можна пабачыць на адмысловай выстаўцы, што распачала работу ў Музеі старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Тут прадстаўлены касцюмы ў натуральную велічыню, а таксама этнаграфічныя лялькі ў нацыянальных строях, выкананых вучнямі сярэдняй школы № 1 пасёлка Дружны (Пухавіцкі раён) пад кіраўніцтвам настаўніка працоўнага навучання Галіны Цяляткі.**

Ідэя прадэманстраваць работы вучняў у сталічным музеі, паказаць іх як мага большай колькасці зацікаўленых асоб належыць Марыі Віннікавай, старшаму навуковаму супрацоўніку аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, кандыдату мастацтвазнаўства. Марыя Мікалаеўна заўважыла: "Калі я пабачыла некаторыя з работ навучэнцаў — лялькі і два строі, у якія былі апранутыя вучаніцы, — то была ўражана якасцю работы і ведамі, якія вучні паказалі ў рэканструкцыях. Асабліва хочацца падкрэсліць, што яны вельмі ўважліва ставяцца да вывучэння асаблівасцей як асобных элементаў, арнаменту, так і касцюма ў цэлым. Таму ў асобах гэтых вучняў я адразу пабачыла сваіх калег і аднадумцаў".

Цяпер у школьнай калекцыі 38 касцюмаў, 11 з іх выкананыя ў натуральную велічыню. Строі прадстаўляюць адметнасці адзення пяці рэгіёнаў Беларусі. У ліку асаблівасцей калекцыі можна назваць і тое, што тут прысутнічаюць не толькі летнія, але і зімовыя строі, разнастайныя галаўныя ўборы. Калекцыя не абмяжоўваецца нацыянальнымі касцюмамі. Ёсць і адзенне багатых слаёў насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага — дзве сукенкі, сшытыя па ўсіх модных канонах XVI ст. Галіна Цялятка, ідэйны і творчы натхняльнік маладых майстроў, разважае: "Я перакананa, што вывучэнне беларускага нацыянальнага касцюма далучае чалавека да прыгажосці, традыцый народа, фарміруе нацыянальную самасвядомасць. Упершыню да вырабу этнаграфічных лялек мы звярнуліся ў 1992 годзе. Дзеці разглядалі фотаздымкі касцюмаў пэўнага рэгіёна і стараліся паўтарыць колеравую гаму, рытм палос… Паступова навучыліся працаваць з дзіцячым ткацкім станком, бо зразумелі, што падабраць ці набыць неабходную тканіну проста немагчыма. У 2005 годзе прыступілі да вырабу касцюмаў у натуральную велічыню. І першым сшытым сумеснымі намаганнямі строем стаў родны — пухавіцкі".

Які шлях абяруць для сябе маладыя майстры ў будучыні, сёння складана прадбачыць. Ды яны і самі не могуць з упэўненасцю адказаць на гэтае пытанне. Важна адно: цікавасць да беларускага нацыянальнага касцюма жыве. І ёсць надзея, што з часам яна ператворыцца ў захапленне і — больш шырока — моду.

***На здымку: этнаграфічныя лялькі ў традыцыйных строях беларускага Падняпроўя.***

**Вядучая праекта — Раіса Марчук.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Людзі нараджаюцца роўнымі перад сваім сумленнем.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

### «Фэст» на ўра

Народны гурт вандроўных музыкаў "Фэст" Баранавіцкага гарадскога Дома культуры ў складзе дэлегацыі Баранавіч узяў удзел у тыдні беларускай культуры, які праходзіў у горадзе-пабрацiме Ялгаве (Латвія).

Нашы пабрацімы пастараліся зрабіць праграму знаходжання баранавіцкай дэлегацыі яркай і насычанай. Былі ў ёй экскурсіі па гістарычных мясцінах, незабыўная паездка ў Рыгу, дзе нашы землякі акунуліся ў атмасферу сярэднявечча, прайшлі па вулачках, па якіх прагульваўся прафесар Плейшнер з фільма "Сямнаццаць імгненняў вясны". А таксама няспешная прагулка па ўзбярэжжы Балтыйскага мора ў Юрмале і фатаграфаванне на фоне славутай канцэртнай залы "Дзінтары".

Самыя яркія ўражанні засталіся ад канцэртаў і сустрэч з нацыянальнымі суполкамі. Як расказаў кіраўнік гурта "Фэст" Іван Кусцінскі, на сустрэчу з беларускім мастацтвам прыходзілі і прыязджалі з іншых гарадоў не толькі беларусы, але і рускія, украінцы. Зацікаўлена ставіліся і самі латышы. Напоўненыя нацыянальным каларытам, яркія і самабытныя песні "Фэсту" нікога не пакінулі абыякавым.

— Па рэакцыі мы разумелі, што публіка была ў захапленні, — дзеліцца ўражаннямі Іван Кусцінскі. — Кожнае наша выступленне сустракалі проста "на ўра". Гэта было прыемна. Музыка — сіла, якая яднае людзей.

**Ірына САСНІНА, г. Баранавічы**

### Тут пануе гісторыя

Гісторыка-краязнаўчы музей "Спадчына", які дзейнічае ў Лідскай сярэдняй школе № 8 — унікальны. Трэба пачаць з таго, што арганізаваны ён быў яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Ідэя стварэння ўзнікла ў тагачаснага дырэктара школы Валянціны Казаковай.

Сёння ў музеі захоўваецца больш як тысяча (!) каштоўных экспанатаў. Сярод іх — дакументы і грошы часоў Грамадзянскай вайны, прадметы быту XIX і першай паловы XX стагоддзя: вугальныя прасы, патэфоны, старыя фотаапараты. У этнаграфічным куточку можна пабачыць ручнікі і саматканкі, маслабойку і ткацкі станок, калекцыю глінянага посуду. У экспазіцыі, прысвечанай Вялікай Айчыннай вайне, прадстаўлены асабістыя рэчы савецкіх салдат, у тым ліку і тых, што прымалі ўдзел у вызваленні Лідчыны. Многія экспанаты музея ўяўляюць сабой навуковую і гістарычную каштоўнасць, а 27 з іх знаходзяцца на дзяржаўным уліку.

Для папаўнення калекцыі музея настаўнік гісторыі Ірына Пясецкая выязджае са сваімі вучнямі ў экспедыцыі. А ў мінулым годзе школьнікі разам з настаўнікамі нават узялі ўдзел у археалагічных раскопках стаянак старажытных людзей, якія праводзіліся Інстытутам археалогіі НАН Беларусі ў вёсках Доржы і Дакудава Лідскага раёна. Пасля гэтага фонды музея папоўніліся "дагістарычнымі" экспанатамі.

Цяпер выкладчыкі школы рыхтуюць дакументацыю, неабходную для надання школьнаму гісторыка-краязнаўчаму музею "Спадчына" статусу народнага.

**Вераніка БАГАТАВА, г. Ліда**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Намеснік галоўнага рэдактара Таццяна Генадзьеўна КУЗНЯЧЭНКАВА**



**Юрыдычны адрас:** 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04, 284-66-71; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2824
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 17.11.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5488
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12